Падзеі ў другім рамане Алеся Аркуша «Мясцовы час» адбываюцца на Полаччыне прыканцы 80-х – пачатку 90-х гадоў. Наваполацкае літаратурнае аб’яднаньне «Крыніцы», рок-гурт «Мясцовы час», Таварыства Вольных Літаратараў – знакавыя культурніцкія зьявы Полаччыны канца XX ст., зь якімі аўтар быў зьвязаны.

# *Частка першая*

Павал Іванавіч патэлефанаваў мне недзе праз год пасьля нашай сустрэчы і папрасіў зноў пабачыцца на тым самым месцы — на лавачцы ў сквэры праспэкта Карла Маркса. Калі казаць шчыра, я чакаў яго званка.

Мужчына амаль не зьмяніўся. Толькі твар яшчэ больш пакрыўся зморшчынамі. Як і ў першы раз, ён прыйшоў раней і чакаў мяне. Узьняўся з лаўкі і прывітаўся поціскам рукі. Даўно заўважыў, што старыя людзі заўжды, калі сядзяць, устаюць, каб парукацца пры сустрэчы.

— Як у вас справы? — гэтым разам першым пачаў размову Павал Іванавіч.

— Нібыта ўсё нармальна. Выйшла мая трэцяя кніжка.

— Віншую, віншую! Гэта важная падзея! — ён яшчэ раз паціснуў мне руку. — Рады за вас!

Шалёна пах бэз. Зь дзяцінства цьвіценьне бэзу ў мяне атаясамлялася з сапраўднай вясной. Да школы ў сваім родным маленькім гарадку я ішоў па алеі, якая абапал была абсажаная бэзам. Прыходзіла вясна, бэз выбухоўваў кветам, і гэта сьвед-

чыла, што да школьных вакацыяў засталося зусім ня шмат часу. І тады я на крылах ляцеў са школы дахаты. І абавязкова адломваў галінку бэзу, якая потым стаяла ў вазе на пісьмовым стале, напаўняючы пакой саладжавым пахам.

— Вы, напэўна, хочаце даведацца, навошта я вас яшчэ раз паклікаў? — абудзіў мяне ад развагаў Павал Іванавіч.

— Калі быць шчырым, я чакаў вашага званка.

— Ня ведаю, колькі ўжо мне засталося... Можа, вы маеце якія пытаньні да мяне?

— Маю толькі адно пытаньне: як вы гэта ўсё вытрымалі?

Павал Іванавіч зірнуў мне ў вочы, пасьміхнуўся і прамовіў:

— Звычайна. Няма тут ніякага геройства. Гэта нармальныя паводзіны нармальнага чалавека. Іншая справа, што нармальнасьць робіцца ўсё большай рэдкасьцю. Бо за нармальнасьць можна атрымаць па шыі.

Павал Іванавіч зірнуў у бок той лаўкі, дзе пры мінулай сустрэчы сядзеў «дзядок» з газэтай. Гэтым разам на ёй нікога не было.

— Сёньня няма вашага куратара, — пажартаваў я.

— Недзе ёсьць іншы. Абавязкова, — суразмоўнік засьмяяўся ціхім сьмехам. Затым стаў зноў сур’ёзным і амаль шэптам прамовіў:

— Паабяцайце, што напішаце.

І я расказаў Паўлу Іванавічу сваю гісторыю.

Я вучыўся ў Інстытуце народнай гаспадаркі. Юнаком мне здавалася, што вучыцца там вельмі прэстыжна. Маўляў, з наргасаўскім дыплёмам бу-

дзеш добра ўладкаваным у жыцьці. Але на той час я ўжо гарэў паэзіяй. Зьявіліся мае першыя публікацыі, і мне стала не да вучобы. Найбольш страшнай для мяне дысцыплінай было матэматычнае праграмаваньне. Я абсалютна нічога ў ім ня цяміў. Выкладаў яе прафэсар Саковіч, вельмі суворы дзядзька, якога баяліся нядбайныя студэнты. І нечакана той прафэсар палюбіў мяне. На практычных занятках выклікаў да дошкі і замест нейкіх сваіх заданьняў прасіў пачытаць вершы. За вершы я атрымліваў выдатныя адзнакі. На іспытах таксама атрымаў «выдатна» — сьпісаў з канспэкту. Прафэсар Саковіч, развітваючыся са мной, сказаў, што мне не патрэбныя ўсе гэтыя бухгальтарскія ўлікі і разьлікі — ён гэта выдатна разумее, бо мой лёс абірае іншы шлях. І папрасіў, калі выйдзе мая першая кніжка, каб я яму абавязкова даслаў з аўтографам. Я паабяцаў. Але згадаў пра сваё абяцаньне вельмі позна. Калі пачаў расшукваць прафэсара Саковіча, яго ўжо не было на гэтым сьвеце. І гэтае спазьненьне дагэтуль вісіць камнем на маёй душы. Цяпер стараюся выконваць свае абяцаньні. Баюся спазьніцца.

І вось пішу.

* * *

— А давайце назавем гурт «Заёбісты час»! — бубнач неяк нязвыкла шапялявіў, таму імкнуўся гаварыць выразна і на поўны голас, як чалавек, які ніколі не забывае пра сваю праблему і імкнецца трымаць яе пад кантролем.

— Ну ты дэбіл! — бас-гітарыст быў мальцам прамым і ніколі не выбіраў словаў для выказвань-

ня сваіх нават самых складаных думак. — І як ты сабе ўяўляеш афішу: у нашым горадзе з адзіным канцэртам «Заёбісты час». Або на радыё вядоўца кажа: а зараз паслухаем новую песьню «Заёбістага часу» «Поўны пісец».

Бубнач зарагатаў як дзіця-шкоднік, які толькі што напракудзіў. І сьмех ягоны быў зь нейкім дзіўным тэмбрам. Мне нават падумалася: трэба яму паспрабаваць засьпяваць, можа атрымаецца як у Філа Колінза, бо для рок-выканаўцы галоўнае нязвыкласьць і пазнавальнасьць.

— Аніякае радыё нам ня сьвеціць. А так хоць назва будзе заёбістая. — Бубнач не здаваўся і працягваў разьвіваць сваю думку. — Будуць перапісваць на магнітафоны. Падпольны рок — самае тое.

— А запісвацца будзем на тваю «Ноту». — Бас-гітарыст пасьпяваў першым рэагаваць на словы бубнача.

— Годзе цырк ладзіць, мы сур’ёзнае пытаньне абмяркоўваем. Як карабель назавеш, так далей і паплывеш. — Алесь Кузьмін, якога сябры звалі дзіўнай мянушкай Фула, вакаліст гурта, вырашыў навесьці парадак на сходзе калектыву. Засталося яшчэ алоўкам пастукаць па графіне.

— Ну вось і я кажу: заёбіста паплывем. — Бубнач зноў засьмяўся сваім дэфэктыўным сьмехам, адкідваючыся ўсім целам назад.

— Ну дэбіл, што зь яго возьмеш. — Бас-гітарыст устаў, падыўшоў да бубнача і выпісаў яму поўху.

— Толькі бяз рукапрыкладства, — працягваючы сьмяяцца, бубнач накрыў сваю галаву рукамі.

— Макс, сядзь на месца. А ты, Сьвідрыцкі, харэ блазнавацца. — Фула павярнуўся да лідар-гітары-

ста і сказаў: — А ты чаго, Дракеша, маўчыш? Скажы хоць штосьці.

— Сьвідрыцкі, і праўда, харэ хернёй займацца. Няма часу зубы сушыць. Давайце па-сур’ёзнаму.

— Час — гэта грошы, толькі чамусьці я гэтых грошай ніколі ня бачыў, — Сьвідрыцкі перастаў сьмяяцца і змяніў тэму.

— Заўважу, што мясцовы час ужо дваццаць сорак. Крамы вось-вось зачыняцца. — Макс паглядзеў на гадзіньнік і пляснуў рукой па сьцягне. Затым дастаў з кішэні нагавіц гаманец, палічыў у ім стосік дробных банкнотаў.

— А чаму б не назваць наш гурт «Мясцовы час»? — неяк няўпэўнена, нібыта пускаючы пробны шар, прапанаваў Фула. — З аднаго боку і патрыятычна атрымліваецца, маўляў, прыйшоў наш уласны час — беларускі. І, зь іншага боку, ня ў лоб. Хто ня ў тэме, той не зразумее.

— «Мясцовы час» дык «Мясцовы час» — пара разьбягацца, — Макс зноў дастаў з кішэні гаманец.

— Сьвідрыцкі, палова назвы твая, палова — Фулы. Таму вы і прастаўляеце, — адчуўшы, што кампраміс блізкі, узрадаваўся Дракеша.

— А ўсё ж «Заёбісты час» лепш. Але лады, супраць калектыву не пайду.

На твары Сьвідрыцкага зноў зьявілася блазнаватая ўсьмешка. Відавочна, бубнач быў задаволены, што ягонае выдурваньне завершылася канструктыўна.

— Ну тады ў першым чытаньні прымаем пастанову пра назву гурта — «Мясцовы час». Хто за — падняць руку. Хто ўстрымаўся? Хто супраць? Прынята адзінагалосна! — Фула ўстаў і запляскаў у далоні. Астатнія таксама паўскоквалі са сваіх месцаў.

Кожнага чакалі ўласныя справы. Толькі Сьвідрыцкі нікуды не сьпяшаўся. Ён сеў за свае бубны і талеркі і выканаў троххвіліннае сола.

* * *

Я сустрэў яго выпадкова. У цэнтры Полацка віравала сьвята горада. Усё гудзела і рухалася ў нейкім млявым, павольным рытме. Са сцэны на плошчы кагосьці віншавалі. А аднекуль зь іншай сьвяточнай пляцоўкі далятала занудная, траскучая музыка, якая глушыла словы выступоўцаў, ператвараючы ўсё ў балаган.

Ён стаяў пасярод пляца Свабоды зь дзьвюма дзяўчынамі... Дракешу я ня бачыў, магчыма, гадоў пятнаццаць. Лідар-гітарыст «Мясцовага часу» зусім не зьмяніўся. Толькі яго гнілыя пярэднія зубы сьведчылі, што час няўмольны. Мы цёпла павіталіся і нават абняліся.

— Як ты? — спытаць нешта больш сэнсоўнае ў мяне адразу не атрымалася.

— Я па-ранейшаму пры музыцы. У Доме культуры... — Дракеша таксама ня ведаў зь якой старонкі постмясцовагачасу пачаць распавядаць.

— Чуў, што няма ўжо Сьвідрыцкага. — Я даведаўся пра гэтую трагедыю ад Руслана, клявішніка «Мясцовага часу», зь якім пэрыядычна кантактаваў праз Фэйсбук і скайп.

— Ну так, няма Свідрыгона, — Дракеша глыбока ўздыхнуў і заціх.

Я чакаў, што ён нешта распавядзе, удакладніць. Але Дракеша зь нейкай штучнай усьмешкай на твары маўчаў.

— І што здарылася? — усё ж я хацеў пачуць вэрсію трагедыі ад Дракешы.

— Забілі. Знайшлі ў пад’езьдзе зарэзаным, — сказаў і зноў змоўк. Распытаваць далей не схацелася. Трэба было зьмяніць тэму і я спытаў зусім пра іншае:

— А праўда, што напачатку тэксты для песень пісаў Сьвідрыцкі?

— Ну так. Галоўным чынам ён і пісаў. Гэта затым ужо Фула да гэтай справы далучыўся.

Дракеша быў нешматслоўным, што абсалютна нехарактэрна для музыкаў. Звычайна ўсе яны гаваркія, а пра свае музычныя посьпехі могуць расказваць гадзінамі. За свае журналісцкія гады я ўдосталь наслухаўся ўзьнёслых маналёгаў.

Недзе за сьпінай гучна зайграў аркестр. Барабан манатонна адбіваў пульс. Я пачаў згадваць, ці сьпяваў калі-кольвечы на гэтай галоўнай полацкай сцэне «Мясцовы час». Не прыпомнілася. У 90-х такіх маштабных гуляньняў на Дзень горада не наладжвалі.

— Фулу гадоў дзесяць ня бачыў. Хацеў быў перарабіць апошні альбом «Халі-Халі», падняць вакал, але бяз Фулы ня буду чапаць. — З твару Дракешы не зьнікала ветлівая ўсьмешка. Ці то ён радаваўся сьвяту горада, ці то яму было прыемна са мной сустрэцца. Тут яго гукнулі дзьве дзяўчыны, што чакалі зводдаль, відавочна, адна зь іх была яго дачка, Дракеша разьвітаўся і пашыбаваў даганяць сваіх спадарожніц.

* * *

Кватэра Сержука Сокалава-Воюша нагадвала офіс якой-небудзь апазыцыйнай партыі. Увесь час у яе нехта заходзіў, нехта выходзіў. Дзьверы кватэры не зачыняліся на замок, таму наведнікі не чакалі запрашэньняў і вітаньняў гаспадароў. Распраналіся і ішлі ў сьвятліцу. Нярэдка Сяржук быў заняты — пісаў нешта за сваім пісьмовым сталом. Але гэта не азначала, што наведнік мусіў пакінуць гаспадара ў спакоі і як найхутчэй сысьці. Госьці звычайна сядалі на канапу, побач зь якой вісеў вялікі алейны партрэт Івана Луцкевіча, і нешта паміж собку абмяркоўвалі. Часам яны перабіраліся ў кухню і там палілі ды пілі гарбату. Спрачаліся, штосьці апавядалі адзін аднаму, часам нехта чытаў свае творы.

Калі я першы раз трапіў у гэтую дзіўную кватэру, усе прысутныя ў ёй займаліся калектыўнай творчасьцю. Любімым заняткам Сержука было складаньне слоўніка рыфмаў. Працуючы над ім, ён эксплюатаваў сваіх гасьцей. Балазе, амаль усе яны былі літаратары. Вось і на гэты раз гаспадар сядзеў за пісьмовым сталом, трымаў на каленях сваю фанэрную бібліятэчную скрыню з карткамі і гучна прамаўляў слова, на якое трэба было знайсьці рыфму.

Рыфмы сыпаліся як зерне зь мяхоў на млыне. Але на кожную прапанову Сяржук казаў: «ёсьць» альбо «маю». Знайсьці сьвежую, невядомую Сержуку рыфму было цяжка.

— Во, новыя сілы прыбылі на дапамогу. — Гаспадар, якога я ведаў раней, прадставіў мяне іншым гасьцям. — Гэта паэт Алесь Аркуш. Цяпер будзе жыць на Полаччыне. Прашу любіць і шанаваць.

Сяржук паказаў на фатэль, маўляў, сядай, выцягнуў са скрыні чарговую картку і прамовіў:

— Ураджай.

— Край, — выгукнуў нехта.

— Ёсьць.

— Пашукай.

— Маю.

— Бай.

— Казачнік-бай, — удакладніў Сяржук. — Ёсьць.

— Каравай.

— Ёсьць. А што нам скажа Алесь?

— Паранджа, — падумаўшы колькі сэкундаў прапанаваў я.

— Што значыць — сьвежыя сілы! Няма. Дзякуй. Запішам.

— Гэта не беларускае слова, — зазначыў хтосьці зь мясцовых пурыстаў, напэўна, гэта быў Вінцэсь Мудроў.

— А як будзе па-беларуску? — спытаў у пурыста Сяржук.

— Намітка, — мовіў пурыст.

— Э, гэта не зусім тое, што паранджа, — уступіў у дыскусію мясцовы гісторык. — Намітка не закрывала цалкам твар.

— А ў нас ніхто твар не хаваў, — пачынаў дыскусію пурыст.

— Дык што гэта за мова будзе, калі толькі пра сваё, — не здаваўся гісторык.

— Паранджа — нармалёвае слова, — вынес вердыкт Сяржук. — Таму заносім у нашыя аналы.

Ён узяў у руку самапіску і дэманстратыўна запісаў слова.

— Усё, перакур. Ідём частаваць госьця гарбатай.

Усе падаліся на кухню.

— Чытаў твой артыкул пра рок-музыку ў «Чырвонай Змене», — сказаў мне па дарозе Сяржук. — Ёсьць тут у нас для цябе праца. Неўзабаве пазнаёмлю з хлопцамі. Добра граюць. Але яшчэ б лепш зайгралі, калі пачалі б сьпяваць па-беларуску.

* * *

Памяшканьне наваполацкай гарадзкой газэты «Хімік» знаходзілася ў адным будынку з наваполацкай друкарняй. Для журналістаў гэта было вельмі зручна, асабліва для адказнага сакратара, які два разы на тыдзень рабіў макет новага нумару і здаваў у набор матэрыялы. Трэба было толькі ўзьняцца на другі паверх і перадаць наборшчыкам свае паперы. І калі раптам узьнікала патрэба нешта зьмяніць у свежым нумары, — а такое ў газэтнай справе здараецца нярэдка, — то зрабіць гэта можна было апэратыўна і пад асабістым кантролем.

На першым паверсе друкарні знаходзіліся друкарскія варштаты, якія амаль бесьперапынна грукаталі, друкуючы сьвежыя нумары навакольных раёнак і шматтыражак.

Атрымлівалася два ў адным — і рэдакцыя газэты, і друкарня. Гэта месца мяне прыцягвала як магніт. Балазе, у газэце працаваў ужо вядомы малады празаік Уладзімер Арлоў.

Але самае цікавае, што адбывалася ў рэдакцыйным будынку, — гэта паседжаньні літаратурнага аб’яднаньня «Крыніцы», слава пра якое грымела на ўсю Беларусь. Аб’яднаньне працавала пры газэце і штомесяц рыхтавала літаратурную старонку. Традыцыйна літаб’яднаньнем займаўся нехта з су-

працоўнікаў рэдакцыі, які меў дачыненьне да прыгожага пісьменства. Перад маім прыездам на Полаччыну «Крыніцамі» кіраваў Арлоў. Бадай, гэта быў зорны час аб'яднаньня, калі на яго паседжаньні прыяжджалі госьці зь Менску, а літаратурныя пэрыёдыкі гасьцінна запрашалі крынічанаў на свае старонкі. І якія госьці прыяжджалі! Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Генадзь Бураўкін, Алесь Разанаў, Міхась Ткачоў, Анатоль Грыцкевіч...

Прычым, крынічане займаліся ня толькі літаратурнымі справамі. Яны заўжды былі ў гушчыні сацыяльных і палітычных падзеяў у сваім рэгіёне. Пісалі лісты да ўладаў у абарону помнікаў архітэктуры, вялі працу за пашырэньне беларускамоўнага навучаньня, удзельнічалі ў археалягічных раскопках і суботніках на архітэктурных помніках, здымках фільмаў, наладжвалі вандроўкі па родным краі.

Варта мне было на пачатку жніўня прыехаць на Полаччыну, як я ўжо меў расклад свайго ўдзелу ў мерапрыемстваў амаль на ўвесь месяц: 5 жніўня — археалягічныя раскопкі на плошчы Свабоды ў Полацку; 6 жніўня — паседжаньне «Крыніцаў»; 7 жніўня — удзел у сьвяце адной з вуліц Наваполацка... Практычна кожны дзень нешта адбывалася.

Я хадзіў зь іншымі крынічанамі па кватэрах бацькоў першакляшак і ўгаворваў аддаць іх у беларускамоўныя клясы. Цягаў насілкі зь зямлёй на археалягічных раскопках. Вычышчаў ад сьмецьця былы будынак Брацкай школы, які затым стаў музэем беларускага кнігадрукаваньня. Удзельнічаў у шматлікіх сустрэчах з чытачамі. Езьдзіў на абласныя і рэспубліканскія нарады творчай моладзі. Здымаўся ў масоўках гістарычных фільмаў Віктара Шавялевіча.

Падпісваўся пад рознымі адозвамі, зваротамі, калектыўнымі скаргамі.

Час быў надзвычай імклівы, цікавы і зьмястоўны. Трэба было пасьпець шмат зрабіць.

* * *

Полацак прыканцы 80-х выглядаў на дэмаралізаванага былога шляхціца. Гэта калі ў шляхцюка, амбітнага і ганарлівага, забраць маёнтак, зямлю і ўсё астатняе, акрамя жыцьця, то вельмі хутка ён дэградуе. Былыя амбіцыі штодзень жорстка канфліктуюць з навакольнай рэчаіснасьцю. Нэрвовасьць узрастае да крытычнага ўзроўню. У такой сытуацыі ратуе або гарэлка, або сыход з жыцьця. Прасьцей было перажыць савецкае ліхалецьце якому-небудзь мястэчку, напрыклад, Глыбокаму, якое ціха-мірна жыло ў сваіх правінцыйных клопатах. Складаней было Полацку — гораду, зь якім непарыўна зьвязана гісторыя ўсёй Усходняй Эўропы.

Полацак выглядаў так, нібыта былога шляхціца апранулі ў нейкае рызьзё — у абліччы адчувалася былая веліч, але «вопратка» была жахлівая. Змрочнае ўражаньне ўзмацняла гарадзкая тапаніміка: усе гэтыя звыродлівыя назвы вуліц — Савецкая, Фрунзэ, Леніна, Камуністычная, Карла Маркса, Войкава. І гэта ў самым гістарычным цэнтры горада.

Зрабіць з Полацка ўбогі райцэнтр — ці не найлепшы плян, каб канчаткова даканаць беларусаў.

Бадай, адзіным пазытыўным знакам для Полацка быў адрэстаўраваны Сафійскі сабор, які годна і высока трымаў свае званіцы над Дзьвіной.

* * *

Дамовіліся, што знаёмства адбудзецца ў нядзелю. Я спусьціўся на першы паверх свайго інтэрнату, каб патэлефанаваць. Вырашыў удакладніць, ці не зьмянілася што ў нашых плянах. Для тэлефоннага аўтамата адмыслова зьбіраў двушкі, каб не шукаць пры патрэбе. Яны ў мяне захоўваліся ў маленькай кішэні джынсаў. Воюш звыкла бадзёрым голасам паведаміў, што ўжо мяне чакае.

Да Воюшавага дому было хвілін дзесяць пехатою.

У Сержука было амаль бязьлюдна. На канапе сядзелі толькі два хлопцы і гарталі нейкія кніжкі. Яны былі нечым падобныя да вучняў-старшаклясьнікаў, якія час ад часу таксама наведвалі гэтую дзіўную кватэру.

— Вось, знаёмцеся, гэта і ёсьць той паэт, пра якога я вам казаў, — Воюш падвёў мяне да «вучняў»: — Алесь Аркуш.

Абодва аказаліся таксама Алесямі — Алесь Кузьмін і Алесь Сьвідрыцкі. У знак знаёмства я паціснуў цёзкам рукі.

— Цяпер вы ўзброены як мае быць, — пажартаваў Воюш. — Алесь вам дапаможа з тэкстамі.

— Увогуле, мы самі пішам, вось толькі яшчэ зь беларускай мовай крыху праблема, — патлумачыў Алесь Кузьмін.

Хлопцы былі падобныя да шкаляроў, якія вырашылі далучыцца да чагосьці эзатэрычнага і ня ведалі, зь якога боку падступіцца.

— Алесь выдатна сьпявае. — Воюш кіўнуў на Кузьміна. — Мае неверагодны фальцэт. Яны тут прынесьлі стужку. Можам паслухаць.

Воюш падышоў да магнітафона і націснуў клявішу.

Запіс быў прымітыўны, але патэнцыял вакаліста ўсё ж дэманстраваў. Песьні нагадвалі ангельскі панк-рок 70-х зь відавочным уплывам «новай хвалі». Пазьней некаторыя з гэтых песень хлопцы перапісалі па-беларуску і яны трапілі ў альбом «Слота».

— Усё добра, толькі мова ня наша, — сказаў Воюш, праслухаўшы адну зь песьняў. — Вось засьпяваеце па-беларуску — будзе тое, што трэба. Па-беларуску вам нават лацьвей будзе сьпяваць, бо наша мова больш мілагучная.

Воюш быў аматарам распавядаць пра вялікія перавагі роднай мовы.

— Але тэксты вы нармалёвыя пішаце. Не банальныя і не прымітыўныя. І, галоўнае, ня ў лоб, — пахваліў я хлопцаў.

— Гэта мы са Сьвідрыцкім і пішам, — паведаміў Кузьмін.

Кузьмін спрабаваў гаварыць па-беларуску. Пэрыядычна зьбіваўся на расейшчыну, але вымаўленьне меў амаль бездакорнае. Горш атрымлівалася ў Сьвідрыцкага. Гаварыў ён па-расейску з выкарыстаньнем асобных беларускіх словаў. Але вымаўляў іх жахліва, як студэнт Наваполацкага політэхнічнага інстытута зь якіх-небудзь далёкіх краёў. Таму, відавочна, саромеўся і амаль не падаваў голаса. Толькі лякагічна адказваў на пытаньні, якія мы з Воюшам яму задавалі.

Разьвітваючыся, я запісаў музыкам свой службовы тэлефон і інтэрнатаўскі адрас. Хлопцы мне спадабаліся. Была ў іх нейкая жарынка, божая іскра. Бо нічога добрага нельга зрабіць, калі не гарыш справай.

* * *

Гісторык Сяргей Тарасаў, які прыканцы 80-х вёў археалягічныя дасьледаваньні Полацка, быў яшчэ і пісьменьнікам, таму нярэдка наведваў навапалацкія «Крыніцы». Пісаў ён апавяданьні на гістарычныя тэмы. Слухаць, як ён чытае свае аповеды, было цікава. Але яшчэ цікавей было знаходзіцца зь ім у археалягічным раскопе. У той год ён раскапаў на цэнтральным пляцы Полацка, на былым Вялікім пасадзе, унікальную, надзвычай вялікіх памераў сядзібу полацкага ювэліра-залатара. Знаходкі, якія трапляліся ў гэтым культурным слоі, датавалі сядзібу сярэдзінай XII — пачаткам XIII стагодзьдзя. Якраз у гэты час жыў славуты полацкі ювэлір Лазар Богша, які зрабіў на замову Эўфрасіньні Полацкай легендарны Крыж. Сяргей Тарасаў выказаў здагадку: ці не на сядзібу слыннага полацкага залатара трапілі археолягі? Гэтая здагадка надавала нам, крынічанам, якія кожныя выходныя праводзілі ў раскопе, новых сілаў і азарту.

Вярталіся ў Наваполацак мы ўсім крынічанскім гуртам. Каб сесьці на аўтобус да Нафтаграду, трэба было ісьці ажно да аўтавакзалу. Па дарозе Уладзімер Арлоў расказваў пра старажытную сталіцу крывічоў. Калі мы абміналі старыя будынкі, у якіх на пачатку XX стагоддзя знаходзіліся мясцовыя гатэлі, Арлоў абавязкова згадваў іх назвы. Але я так і не запомніў, у якім быў «Лёндан», у якім «Эўропа», а ў якім «Гранд-Гатэль».

* * *

Падчас першага наведваньня кватэры Воюша я пазнаёміўся зь Вінцэсем Мудровым. Яго толькі нядаўна пачалі друкаваць у літаратурных пэрыёдыках і адразу ж пасьля першых публікацыяў наваполацкі прадстаўнік беларускага андэграўнду набыў вядомасьць. Ён не выглядаў на нейкага сур'ёзнага літаратара, які ходзіць па вуліцы з партфэлем. Наадварот, у яго абліччы яшчэ захаваліся рысы былога хіпана, прынамсі, меў даўгія валасы і бараду. Але, бадай, самай істотнай асаблівасьцю Мудрова быў ягоны надзвычай вясёлы характар — жарты, показкі і прыкольныя гісторыі ліліся зь яго ракой. У гэтым ён быў падобны да Воюша, які таксама не прамінаў магчымасьці парагатаць і паблазнавацца. Некалькі гадоў таму Мудроў меў праблемы з КДБ з-за выданьня рукапіснага альманаху «Блакітны ліхтар». Усе нумары альманаху КДБ канфіскаваў, а самога рэдактара застаршыў і ўзяў на ўлік. Каб неяк ад гэтай гісторыі аддаліцца, Мудроў зьехаў са сваім сябруком паэтам Алегам Мінкіным працаваць на будаўніцтва нафтаправодаў — спачатку ў Калмыкію, а затым у Цюмень. Праўда, і ў Цюмені ён не схаваўся ад пільнага вока камітэту — да яго прыходзілі адпаведныя людзі і праводзілі адпаведныя гутаркі.

Мудроў якраз прыехаў у адпачынак на радзіму. Ён з прагнасьцю акунуўся ў мясцовае культурніцкае жыцьцё — хадзіў да Воюша, удзельнічаў у археалягічных раскопках, зьбіраў па кватэрах подпісы за беларускамоўныя клясы, ну і перадусім наведваў паседжаньні «Крыніцаў», дзе чытаў свае творы,

напісаные ў далёкіх камандзіроўках. Мы неяк хутка зь ім сышліся і бачыліся амаль штодня.

Напярэдадні яго вяртаньня ў Цюмень мы вырашылі зрабіць фатаздымак на памяць. Такі клясычны, якія любілі рабіць у фотасалёнах «маладнякоўцы» ў 20-х гадах. Фотастудыю выбралі на наваполацкай вуліцы Якуба Коласа. Схадзілі, сфатаграфаваліся. Пасьля чаго пайшлі да Арлова глядзець футбол па тэлевізары. Мудроў быў заўзятым аматарам футболу, а я пайшоў хутчэй дзеля кампаніі. Пасьля матчу Мудроў чытаў нам свой новы аповед «Кантакт». Гэта было фантасмагарычнае апавяданьне пра кантакт галоўнага героя з іншаплянэтнікамі. Вясёла-трагічнае. Мудроў, чытаючы свой твор, час ад часу камэнтаваў падзеі аповеда, гучна рагатаў і паўтараў: «Так і магло быць насамрэч!» Арлоў таксама шчыра сьмяяўся. Затым папрасіў даць рукапіс яму, маўляў, для літстаронкі ў «Хіміку» аповед завялікі, таму трэба яго завезьці ў Менск. Неўзабаве тое апавяданьне і было надрукавана ў нядаўна заснаваным сталічным часопісе «Крыніца».

* * *

Зь ліста Вінцэся Мудрова, дасланага з Улан-Хола, Калмыцкай АССР 6 кастрычніка 1987 г.

Твой ліст я атрымаў — дзякуй! Асабліва мяне ўзрадаваў факт адкрыцьця ў Наваполацку беларускае клясы. Гэта сапраўды выклік 200 тысячам (насельнікі Полацка + Наваполацка) сучасных мясьцюхоў, патрыётаў уласнага трыбуха, якія зьлітнаю

масаю піхаюцца ў нікуды! Цяпер толькі ня даць гэтай, няхай пакуль і мізэрнай, ясачцы згаснуць! Напішы, ці мяркуецца з боку «Крыніцаў» якая спамога ў гэтым дачыненьні, якія імпрэзы і г.д.

Трэба абавязкова сабраць бібліятэчку беларускіх ксёнжак, дапаможнікаў, настольных гульняў. На Новы год пажадана павіншаваць кожнага вучня і вучаніцу паасобку. Карацей, трэ варушыцца. Дзякуй Богу, надышла часіна Дзеі. Гэта падарунак Гісторыі, і яго неабходна выкарыстоўваць.

* * *

Колькі людзей сабралося на мітынг, цяжка было падлічыць. Улада дазволіла апазыцыйнае мерапрыемства каля помніка першай палатцы ў Наваполацку, а там не было вялікага адкрытага пляцу, таму людзі атачалі помнік, які ператварыўся ў трыбуну, з усіх бакоў. Людзей было — процьма. А яны ўсё ішлі і ішлі да палаткі з боку Маладзёжнай вуліцы.

Мітынг апазыцыянэры прысьвяцілі кепскай экалёгіі ў горадзе — самай надзённай праблеме Нафтаграда. Не было ніякага сакрэту, што пратэстная акцыя была падрыхтаваная Сержуком Сокалавым-Воюшам і ягонымі паплечнікамі, якія затым утвораць моцную суполку Беларускага Народнага Фронта ў Наваполацку.

Сяржук цэлую ноч перад мітынгам пісаў адмысловую песьню, якую зьбіраўся выканаць пад гітару перад шматтысячным натоўпам. Хацеў напісаць нешта накшталт экалягічнага гімна Нафтаграда. Раніцай мы сустрэліся. Воюш прасьпяваў мне тое, што атрымалася.

— Ну як? — гарэзьліва спытаў ён, гледзячы на мяне чырвонымі ад недасыпу вачыма.

— Добра! Толькі ты словаў ня ведаеш, па паперцы сьпяваеш. — Хутчэй гэта быў жарт, чымсьці крытыка.

— І на мітынгу прасьпяваю па паперцы. Дзялоў тых. Ты ж таксама будзеш чытаць верш па паперцы? — Воюш быў у гуморы. Ён як апантаны рыбак прадчуваў добрую рыбалку. Мітынг дазволілі. І людзі на яго абавязкова прыйдуць. У гэтым Воюш быў перакананы.

У кватэру Сержука з раніцы пачалі сьцякацца мясцовыя апазыцыйныя сілы. Бэнээфаўцы, рокеры, актывісты-эколягі, крынічане і розныя іншыя неабыякавыя людзі. Усе разам, гэтым стракатым збоем, мы й рушылі да першай палаткі. Там ужо актывісты мантавалі гукавы ўзмацняльнік, дружыньнікі зь бел-чырвона-белымі павязкамі атачылі і сам помнік, і прылеглы сквэр. Ва ўсіх быў нейкі ўзьнёслы настой. Нібыта сабраліся на сьвята.

— Будзеш трымаць мне тэкст пад носам, сапраўды словаў не памятаю, — сказаў мне ўжо на трыбуне Сяржук.

Людзі сустракалі кожнага выступоўца вельмі цёпла. Воюш прамовіў і прасьпяваў як мацёры мітынгоўшчык. Калі вядоўца мітынгу аб’явіў мяне, натоўп прывітаў гэта такім гудам, нібыта я як мінімум Зянон Пазьняк. Аказалася, што за маёй сьпінай дружыньнік узьняў на руках маленькую дзяўчынку, якая згубілася. Але гэты гуд людзкога мора мяне нібыта наэлектрызаваў. І я, заведзены на поўную шпулю, пачаў чытаць вершы:

Зноў людзкія адбіткі заганныя,
Як музыкі, ў нябёсах лятаюць —
Працінаюць пякельную ноч.
Нараджаюць мэлёдыі танныя:
Дзьмуць у комінаў доўгія пальцы,
Дзьмуць да чырвані пацерак-воч.

Іх музычны імпэт без падману —
Не жартуюць браты-блюзьняры.
Уздымаюцца клубы туману,
Тлум цярушыцца на ліхтары.

Што паперныя столі і дахі!
Тлум укрые таксама і нас.
Тлумны час, як заўсёды, ня ў час.
І мацнеюць мэлёдыі жаху,
І цярушацца пёрамі птахаў —
Вар'яцее атрутны джаз.

* * *

На адным з паседжаньняў «Крыніц» вырашылі, што пара выходзіць на шырокую аўдыторыю і заснаваць курсы беларусазнаўства. У якасьці пляцоўкі абралі наваполацкую гарадзкую цэнтральную бібліятэку, з кіраўніцтвам якой мелі даўнія шчыльная кантакты. Адкрыцьцё курсаў запланавалі на пачатак кастрычніка. Ганаровым госьцем запрасілі Янку Брыля.

Брыль прыехаў у Наваполацак ажно на некалькі дзён. На аўтавакзале мы сустракалі шаноўнага госьця пісьменьніцкай дэлегацыяй, праўда, без аркестра і ганаровай варты, — Сокалаў-Воюш, Іры-

на Жарнасек, Навум Гальпяровіч і я. Адвялі ў мясцовы гатэль «Беларусь» і пасялілі яго там. Увечары ўся крынічанская тусоўка сабралася на «кансьпіратыўнай» кватэры ў Воюша. У вялікім пакоі гаспадары накрылі сталы і наладзілі знакаміты пачастунак. Янка Брыль быў душой кампаніі. Сьпяваў песьні, згадваў розныя забаўныя гісторыі, чытаў вершы. Пагулянка доўжылася да позьняга вечара. Правесьці Брыля ў гатэль даручылі мне. Па дарозе ён распытваў мяне: адкуль я, зь якіх мясьцінаў мае крэўныя. Затым неяк, ці то са спачуваньнем, ці то зь ветлівасьці, асьцярожна сказаў, што і раней сустракаў Аркушаў у Беларусі. Гэтая ягоная далікатнасьць мяне моцна расьсьмяшыла і я прызнаўся, што Аркуш — мая «нацдэмаўская» мянушка. Ён спыніўся і ўжо сваім звыклым голасам спытаў: «А як тваё сапраўднае прозьвішча?» «Козік, але мне падалося, што гэта не зусім падыходзіць для літаратурнага імя, таму я ўзяў псэўданім», — патлумачыў я старэйшаму калегу. І тут Брыль пачаў мяне пераконваць, што Козік вельмі мілагучнае і сэнсоўнае беларускае прозьвішча. Зноў спыніўся і чарговы раз спытаў: «А ты ведаеш, што значыць па-польску Козік?». «Ня ведаю», — прызнаўся я. «Сьцізорык», — выдыхнуў Брыль, нібыта паведамляючы мне вельмі сур'ёзную рэч. На гэтым абмеркаваньне маіх крэўных і прозьвішча спынілася і Брыль пачаў распытваць пра полацкае літаратурнае жыцьцё.

На наступны дзень усе сабраліся ў наваполацкай бібліятэцы. Было ўрачыста. Акрамя Брыля на адкрыцьцё курсаў прыехаў тэатральны рэжысэр Валеры Мазынскі. Наша школа беларусазнаўства

атрымала назву «Курсы беларускай мовы, культуры і гісторыі». КіраўнікОм курсаў прызначылі Лявона Баршчэўскага.

Але на гэтым мы не разьвіталіся зь Янкам Брылём. На наступны дзень было прызначана паседжаньне «Крыніцаў». Збор быў самы поўны, з запрашэньнем і мастакоў, і музыкаў. Зь «Мясцовага часу» прысутнічалі два Алесі — Кузьмін і Сьвідрыцкі, а таксама іншыя музыкі — Ален і Аніса. З мастакоў — Сяржук Цімохаў і ягоная жонка Рыта.

Мы чыталі вершы, празаічныя мініятуры, сьпявалі госьцю свае крынічанскія песьні. Янка Брыль у сваю чаргу расказваў пра свайго сябра Ўладзіміра Караткевіча, якога на той час ужо не было ў жывых, і легендарная постаць аўтара «Каласоў пад сярпом тваім» паўставала ў поўны рост.

* * *

— Ты ведаеш, што мне распавяла сёньня сястра? — Тацяна завіхалася ля кухоннай электраплíткі.

Нешта сьвірчэла на патэльні, і прыемны пах па-партызанску пранікаў у кожны закутак інтэрнацкага пакою. Я толькі прыйшоў з працы і нават не пасьпеў зьняць абутак.

— На прадпрыемствах на партыйных сходах расказваюць страшныя рэчы. Дарэчы, і пра цябе таксама. Кажуць, што прыехаў эмісар апазыцыі зь Менску і пачаў падбухторваць людзей да бунту. — Тацяна засьмяялася гучным сьмехам. — Так што, эмісар, сядай хутчэй за стол і падсілкуйся, пакуль па цябе не прыехалі.

— Ну зусім звар’яцелі! — Такой увагі да сваёй пэрсоны я абсалютна не чакаў. — Адчуваюць свой канец, падлюкі.

— О, не спадзявайся на хуткі канец. Не за нашым жыцьцём. — Тацяна мела здольнасьць аптымістычна супакоіць.

— І што нам застаецца?

— Жыць. Гадаваць дзяцей. Займацца мастацтвам. Падарожнічаць. Сустракацца з добрымі людзьмі. Бачыш, колькі ўсяго шмат. — Яна зноў засьмяялася. — Не бяры да галавы. Ня ты тут галоўны эмісар, і там добра пра гэта ведаюць. Але і па-пустому не падстаўляйся.

Больш за ўсё я баяўся, што падобная навіна, а да мяне ўжо даходзілі трывожныя чуткі, напалохае Тацяну. Бо калі ў сям’і пачнецца чаканьне «чорнага ворану», то тады будзе не жыцьцё, а кашмар. Тацяна ўспрыняла ўсё без перабольшваньняў. І мяне гэта радавала.

З Тацянай мяне пазнаёміў мастак Сяржук Цімохаў. Ягоная жонка Рыта вучылася разам зь ёй у адным клясе ў інтэрнаце для таленавітых дзяцей. Яны сябравалі і зь дзяцінства рыхтаваліся стаць мастачкамі. Рыта стала кніжным графікам, а Тацяна мастачкай па тканінах і габеленшчыцай. Некалькі сьвятаў мы адзначалі ў агульнай кампаніі. Пры першым знаёмстве Тацяна мне сказала, што ёй вельмі падабаюцца мае вершы, і нават прадэклямавала адзін зь іх. Мяне гэта надзвычай уразіла, гэта быў першы выпадак у маім жыцьці, калі незнаёмы мне чалавек прачытаў па памяці мой верш. Калі яна любіць мае вершы, то, магчыма, палюбіць і мяне, — з надзеяй падумалася мне той

хвілінай. Мы пабраліся шлюбам праз тры месяцы пасьля першага знаёмства. Любім нават жартаваць, што да вясельля бачыліся ўсяго некалькі разоў. Праз восем месяцаў пасьля вясельля ў мяне выйшла першая кніга. Празь дзевяць месяцаў у нас нарадзіўся першы сын.

* * *

Неяк, калі ўсе пасыходзілі з кватэры Воюша і я застаўся з гаспадаром сам-насам, то выказаў яму прапанову распачаць на Полаччыне ўласнае кнігавыданьне. Для пачатку заснаваць літаратурны альманах. На той час у Менску пачалі зьяўляцца, праўда, падпольна, безь якіх-кольвечы рэгістрацыяў і ўзгадненьняў, грамадзка-палітычныя і літаратурныя пэрыёдыкі. А таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», да якога мы з Воюшам таксама належылі, пачало выдаваць альманах «Літаратура». Воюш ня вельмі загарэўся гэтай ідэяй.

— Вось ты гэтым і займіся, — сказаў ён жартаўліва.

Ягоны блазнаваты стыль паводзінаў напачатку ставіў мяне ў тупік. Я так і ня мог даўмецца: ці гэта ён кажа сур’ёзна, проста ў такой жартаўлівай форме, ці блазнуе і гэтыя ягоныя словы нічога ня вартыя.

— Добра, я гэтым займуся. Балазе, ужо маю прапанову заснаваць такі пэрыёдык на Полаччыне. Ёсьць людзі, якія мне дапамогуць з друкам.

— Ну і цудоўна! — Воюш ня стаў распытваць і ўдакладняць, што гэта за людзі.

— Спадзяюся, што ты мне дасі свае творы для друку.

— Абавязкова! Дарэчы, ёсьць у мяне што табе прама зараз прапанаваць. — Воюш пачаў перабіраць на сваім стале паперы, узяў у рукі звычайны вучнёўскі сшытак і працягнуў яго мне.

На вокладцы было напісана ўжо добра знаёмым мне воюшаўскім почыркам: «Сяржук Сокалаў-Воюш. Раніца Рэспублікі. Міні-п’еса». Нядаўна Воюш пачаў працаваць загадчыкам літаратурнай часткі Віцебскага драматычнага тэатру, таму і захапіўся драматургіяй.

— Дзякуй! То з гэтага твору і пачнем першы нумар «Ксэракса Беларускага».

— Як-як? — перапытаў Воюш. Яго відавочна зацікавілі апошнія мае словы.

— Вырашыў назваць альманах «Ксэракс Беларускі». Ну, па аналёгіі з кніжкамі Багушэвіча «Дудка беларуская» ды «Смык беларускі». А слова «ксэракс» — як сымбаль падпольнага выданьня. Альманах жа будзе падпольны.

Воюш засьмяяўся і выцягнуў правую руку з узьнятым вялікім пальцам.

— Кляс! Так бы мовіць, пераемнасьць з папярэднікамі! У рэчышчы беларускай традыцыі!

Вельмі апэратыўна адгукнуліся на мае просьбы даць свае тэксты ў новы літаратурны альманах Уладзімер Арлоў і Вінцэсь Мудроў. Арлоў прапанаваў сваё найноўшае эсэ «"Совершенно секретно" або Адзін у трох іпастасях», якое затым шырока друкавалася ў беларускім пэрыядычным друку. Але ўпершыню яно было надрукавана менавіта ў «Ксэраксе». Эсэ было прысьвечана прафэсару-гісторы-

ку Абэцэдарскаму, які лічыўся адным з асноўных фальшавальнікаў беларускай гісторыі.

Мудроў прапанаваў апавяданьне «Час камара». Прыканцы 80-х Вінцэсь быў акрылены першымі сур'ёзнымі публікацыямі. Зьявіліся спадзяваньні на кнігу. Дарэчы, гэтае апавяданьне затым і трапіла ў ягоны першы зборнік «Жанчыны ля басейну», які выйшаў у 1992 годзе ў дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Свае вершы далі Лявон Баршчэўскі і Валянціна Аксак. Гэта былі практычна дэбюты. Валянціна Аксак толькі нядаўна на паседжаньні «Крыніцаў» прызналася, што піша вершы, і «Ксэракс» падтрымаў талент. А Лявон Баршчэўскі, які неўзабаве стане дэпутатам Вярхоўнага Савета і возьме ўдзел у абвяшчэньні незалежнасьці Беларусі, быў вядомы выключна як перакладчык, і сваіх уласных твораў нідзе не друкаваў.

Па аналёгіі з «тутэйшаўскім» альманахам «Літаратура», які ў першым нумары зьмясьціў тэксты рок-гурта «Мроя», у першы «Ксэракс» я ўключыў тэксты «Мясцовага часу» зь іх дэбютнага беларускамоўнага альбому «Слота».

Ну і, натуральна, у першым нумары «Ксэракса» знайшлося месца і для маіх новых вершаў.

* * *

Тацяна выйграла на працы талён на пакупку тэлевізара «Гарызонт». Дапамагчы з набыцьцём дэфіцытнага апарату вызваўся Сяржук Сокалаў-Воюш. Як вялікі знаўца тэлерадыётэхнікі, Сяржук старанна выбіраў тэлебачар — нехта з маладых пурыстаў

з кампаніі Воюша прапанаваў такім словам называць тэлевізар. Сяржук круціў ручкі, задаваў гандляркам прыкольныя пытаньні, хахміў і жартаваў.

Затым мы пагрузілі тэлевізар на дзіцячыя саначкі і пакацілі набытак ад крамы «Арбіта» да нашага з Тацянай інтэрната. Цэлы вечар глядзелі целік. Ясная справа, пад выпіўку, закуску, жарты і сьпевы Сержука.

* * *

Прыходзілі да мяне Кузьмін са Сьвідрыцкім, прыносілі тэксты да новага альбому, напісаныя па-расейску. Папрасілі перакласьці на беларускую. Тэксты мяне зьдзівілі. Нейкай сваёй духоўнасьцю, як бы гэта ні гучала дзіўна ў адносінах да рок-паэзіі. Нячаста пачуеш, каб рокеры сьпявалі пра сэнс жыцьця, пра шлях дамоў, пра сваю любімую ўскраіну, пра тое, каб было ня сорамна сказаць: я жыў! Паабяцаў, што зраблю пераклад.

Праз пару дзён аказалася, што перакласьці трэба як мага хутчэй: Кузьмін патэлефанаваў і папрасіў прысьпешыць працу, бо музыкі мусяць на наступным тыдні ехаць у Мазыр на студыю гурта «Адлюстраваньне», каб запісаць свой чацьверты альбом.

Празь некалькі дзён Кузьмін прыехаў забіраць пераклады. З сабой ён меў «рыбу» зусім сьвежай песьні. Тэкста практычна не было. А песьню трэба запісаць заўтра. Кузьмін зь вінаватым выразам на твары працягнуў мне аркушык з вучнёўскага сшытка. На ім было накрэмзана ўсяго некалькі радкоў.

— І гэтую песьню вы заўтра будзеце запісваць у студыі? — са зьдзіўленьнем усклікнуў я.

— Спадзяюся, да вечара гэта будзе сапраўдная песьня.

Кузьмін мне падаўся авантурыстам. Як можна запісваць тое, што толькі нарадзілася і яшчэ не абкатанае, не праверанае часам.

— І што, мне проста вось зараз трэба напісаць тэкст? — гэта было ўжо рытарычнае пытаньне.

— Так, — Кузьмін лічыў такую сытуацыю цалкам нармальнай, маўляў, усё вартаснае нараджаецца экспромтам.

— І колькі я маю часу? — гэтае пытаньне было наогул шызафрэнічным.

— Ня больш за гадзіну. Бо праз дзьве гадзіны мусім пачаць рэпэтыцыю.

Мы разам селі на канапу, і я на каленях пачаў пісаць.

За лясамі, ўзгорамі,
За сівымі зорамі
Ягадай нясьпелаю
Сьпіць краіна белая.

З поўняй разьмінулася,
Хмарай загарнулася,
Голас пахаваўшая,
Волю не пазнаўшая.

А была шляхетнаю,
Гонарам адметная,
Моцная і вольная,
Да навукі здольная.

Нашай ускраіна была!

Аблокі гоне вецер-гун,
Забыўся ён, што ёсьць Пярун,
Забыўся, што чакае нас
Сурмы працяглы сьпеўны час.

Мой сын маўчыць, маўчу і я:
Навокал скрозь — калёнія.
Калее ў студзеньскай вадзе
Пярсьцёнак згубленых надзей.

Праз паўгадзіны тэкст быў гатовы. Я працягнуў яго Кузьміну. Той узяў аркушык і пачаў чытаць, напяваючы радкі. Я думаў, што апошні слупок Кузьмін забракуе, бо задужа ён атрымаўся палітычным, але, на маё зьдзіўленьне, Фула сказаў, што ўсё вельмі добра і заўтра яны гэта запішуць у студыі.

Песьня атрымала назву «Ускраіна», а сам альбом — «Наша ўскраіна».

* * *

Званок быў ад незнаёмага чалавека. Ён прадставіўся. Сказаў, што чытае мае артыкулы ў «Віцебскім кур'еры» і хацеў бы са мной сустрэцца. Мне час ад часу званілі розныя дзівакі. Адзін мясцовы Кулібін аднойчы некалькі гадзін апавядаў пра тое, што вынайшаў вечны рухавік, але чыноўнікі ня хочуць яго слухаць, а сусьветнае аўтамабільнае і нафтавае лобі нават плануе яго забіць. Ён паказваў мне нейкія разьлікі, рысункі і шматтомную перапіску з рознымі навуковымі інстытутамі. Я сказаў, што

ў гэтым абсалютна ня цямлю, таму не магу пісаць пра тое, што для мяне «цёмны лес».

Але гэтым разам мне падалося, што чалавек, зь якім размаўляю, хоча мне распавесьці нешта істотнае. Адчувалася, што суразмоўца хвалюецца, і на тое ёсьць сур'ёзныя падставы. У ягоным нетаропкім маўленьні сталага чалавека гучала вялікая стомленасьць і ў той самы час нейкая таямнічасьць. Нібыта незнаёмец хацеў мне паведаміць страшэнны сакрэт, але пакуль яшчэ вагаўся, ці варта перада мной адкрывацца.

Мы дамовіліся сустрэцца ў сквэры на праспэкце Карла Маркса. Ён мне патлумачыў, на якой лавачцы будзе мяне чакаць.

Адмаўляць у сустрэчы было не ў маіх правілах. Бо журналіст у нейкім сэнсе — лекар або апошняя інстанцыя, асабліва ў грамадзтве, дзе ўсё кантралюецца спэцслужбамі і толькі публічнае агучваньне пэўнай інфармацыі можа выратаваць нечы лёс.

Я прыйшоў на пяць хвілінаў раней, але ён ужо мяне чакаў. Гэта быў хударлявы чалавек досыць сталага ўзросту, на выгляд я б яму даў гадоў шэсцьдзесят. Сустракаючы мяне, ён падняўся, працягнуў руку і яшчэ раз прадставіўся: Павал Іванавіч.

Мы селі на лаўку, і я запытальна паглядзеў у твар незнаёмца. У ім адчувалася духовая моц. Вочы сьведчылі пра розум і нейкую зацятасьць. Ёсьць такія людзі, што ўсё жыцьцё слугуюць адной ідэі або перакананьням. І ўсё іх жыцьцё падпарадкавана абранаму шляху.

— Вы хочаце разгадаць, хто я насамрэч? — ціха спытаў незнаёмец.

— Я думаю, вы мне самі пра гэта паведаміце, — хваляваньне, якім быў апанаваны суразмоўца, перадалося і мне.

— Адразу хачу папярэдзіць: не спрабуйце пра пачутае ад мяне напісаць у сваёй газэце. Для вас гэта будзе небясьпечна. Яны вам адпомсьцяць, — гэтыя словы выклікалі ў мяне лёгкае раздражненьне і ў галаве мільгнула думка: няўжо зноў натрапіў на вар'ята.

— Вы гаворыце нейкімі загадкамі. Хто яны? І навошта тады хочаце гэта распавесьці?

— Сілы д'ябла. Яны і зараз сочаць за намі. Вунь бачыце, у тым куце, пад бэзам, сядзіць рэспэктабельны «дзядок»? Газэту чытае. Гэта якраз ён арыштоўваў мяне і катаваў. Думаеце, ён выпадкова тут апынуўся? Цікава іншае... Гэты «дзядок» даўно на пэнсіі, але, паглядзіце, усё роўна пры выкананьні. Хаця, можа, тут у яго ўласная справа, бо трэба замятаць сьляды.

Незнаёмец пасьміхнуўся куточкамі вуснаў і прымружыў вочы.

— Вы не адказалі на другое пытаньне: навошта хочаце мне гэта распавесьці?

— Сёньня пра гэта пісаць нельга. Так будзе лепш і для мяне, і для вас. Але прыйдзе час і вы напішаце... Прынамсі, я веру ў гэта.

# *Частка другая*

Патэлефанаваў Алесь Кузьмін і паведаміў неверагодную навіну: «Мясцовы час» запрасілі на рок-фэст у Польшчу. Фэстываль ладзілі ў Беластоку, ён меў дзіўную назву «Басовішча» і яго арганізатарам выступіла Беларускае аб’яднаньне студэнтаў. Гэта было першае «Басовішча».

— Ну і як мы туды трапім? — адразу пасьля пачутага спытаў я Кузьміна. — Гэта ж трэба, напэўна, процьму дазволаў атрымаць.

— Усе бюракратычныя пытаньні бярэ на сябе Наваполацкі гаркам камсамола. Мы нібыта ад яго едзем у творчую камандзіроўку. Нам і камандзіровачныя пасьведчаньні выпішуць. Я аб усім ужо дамовіўся. Так што давай свой пашпарт, зараз ім занясу.

Кузьмін проста сьвяціўся ад шчасьця. На пачатку 90-х мы пасябравалі зь менскай камандай Лявона Вольскага «Мроя», якая таксама была запрошаная на фэстываль. Сярод запрошаных быў і Сяржук Сокалаў-Воюш. Таму атрымлівалася добрая кампанія.

«Мясцовы час» пацìху набіраў папулярнасьць — некалькі разоў выйграў радыйныя хіт-парады «Бе-

ларускай маладзёжнай», постары полацкага гурта надрукавалі газэта «Чырвоная змена» і дзіцячы часопіс «Бярозка». Дзьве песьні гурта — «Вартаўнік» і «Будзе так» — трапілі на складанку хіт-параду «Беларускай маладзёжнай», якую фірма «Мэлёдыя» выдала на вініле. І вось запрашэньне на сапраўдны рок-фэст, які праходзіў, праўда, не ў Вялікай Брытаніі, а ў Польшчы, але ўсё роўна за мяжой.

Амаль усе запрошаныя на «Басовішча» зь беларускага боку — рок- і поп-музыкі, барды, журналісты — выправіліся на фэстываль на адным турыстычным аўтобусе. Ужо за менскай кальцавой музыкі пачалі адзначаць падзею. Мяне прыемна ўразіла, што Алесь Кузьмін абсалютна не ўжываў алькаголю. Я таксама не ўжываў моцных напояў, і катэгарычнасьць у гэтым пытаньні Фулы стала для мяне сапраўдным уратаваньнем.

Але праз некалькі гадзін агульны ўзьнёслы настрой зьнік, як тая гарэлка зь беларускіх крамаў на пачатку крызысных 90-х. Найбліжэйшы шлях да Беластоку быў праз Гародню. Мы так і накіраваліся. Але гарадзенскія памежнікі катэгарычна заявілі, што не прапусьцяць наш музычны каўчэг. Маўляў, яны не абслугоўваюць аўтобусы, толькі грузавікі і прыватныя аўтамабілі. А таму трэба ехаць на Берасьце. Колькі мы ні ўпрошвалі памежнікаў, колькі ні паказвалі свае запрашэньні і камандзіровачныя пасьведчаньні, нічога не дапамагала. Увечары а 22-й гадзіне прынялі рашэньне ехаць на Берасьце.

Тое, што мы пабачылі ў Берасьці, нагадвала нейкую татальную эвакуацыю цэлай краіны: аўтобусы на памежным пераходзе стаялі

даўжэзным шыхтом. У засмучэньні музыкі пачалі зьнішчаць апошнія свае алькагольныя запасы. Адчувалася, што тут мы захрасьлі надоўга, і добра яшчэ, калі прыедзем на фэстываль у заключны дзень.

І толькі некалькі самых зацятых музыкаў не здаліся і пайшлі на перамовы да памежнікаў. І здарыўся цуд: «зялёныя фуражкі» з аўтаматамі за плячыма зрабілі нам калідор у чарзе. У паўжывых сядзельцаў нашага аўтобуса, перадусім ад інтэнсіўнага ўжываньня алькаголю, ад такога цуду наварочваліся сьлёзы на вачох.

Затым мы яшчэ крыху паблукалі па дарогах Беласточчыны, — навігатараў тады яшчэ не было, — і неўзабаве патрапілі ў мястэчка зь немудрагелістай назвай Гарадок, побач зь якім, у невялікім ляску, і меўся адбыцца фэстываль.

Сярод таго ляску на палянцы знаходзілася невялікая просьценькая сцэна, поруч зь якой паўставала намётавае мястэчка. Тут ужо віравала жыцьцё. Час ад часу лясок уздрыгваў ад рэзкіх гукаў — гукаапэратары наладжвалі апаратуру. Нашаму гурту выдалі вялікі армейскі намёт і мы, дарэшты стомленыя паездкай, пайшлі ладкавацца на начлег.

На зьдзіўленьне, гарэлка яшчэ не была ўся выпітая па дарозе, і «мроеўцы» запрасілі «мясцовачасаўцаў» адзначыць удалы прыезд.

Кузьмін адразу адмовіўся, сказаўшы, што ідзе спаць. Увечары, згодна з праграмай фэстывалю, «Мясцовы час» павінен быў удзельнічаць у першым канцэрце. Фула паклікаў да сябе Макса і папярэдзіў:

— Глядзі за Сьвідрыцкім. Пад тваю адказнасьць. Сёньня мы выступаем.

Макс пачаў вазбухаць, маўляў, усе дарослыя людзі, кожны адказвае за сябе, маўляў, мы толькі на хвілінку, візыт ветлівасьці, усё будзе нармальна.

— Ну глядзіце, — Фула, здаецца, ніколі не губляў раўнавагі, заўсёды быў вытрыманы і не ўздымаў голасу: — Бо без бубнача нам няма чаго рабіць на сцэне.

У намёце засталіся мы ўдвох з Кузьміным. І не пасьпелі прылегчы на матрацы, як адразу патанулі ў нірване сна.

* * *

Юра Гумянюк выйшаў на полацкім аўтавакзале з аўтобуса «Гародня — Полацак» нібыта з трапа Боінга на нью-ёркскім лётнішчы імя Джона Кэнэдзі. Юра быў апрануты ў сьветлы плашч, капялюш, у руках трымаў вялікі парасон. Мяне ён пазнаў адразу і паходкай сталага дэндзі накіраваўся насустрач. Мы паціснулі адзін аднаму далоні.

— Вітаю ў стольным Полацку, — прывітаў я дарагога госьця.

— Вельмі прыемна, — адказаў ён, сарамліва пасьміхаючыся, як гэта ўмеў рабіць толькі Юра Гумянюк, нахіліўся да поліэтыленавай торбы, якую трымаў у руках, дастаў адтуль нейкі пакунак і працягнуў мне. — Гэта табе мая мама перадала, — і праз паўзу дадаў: — Грэцкія арэхі, з нашага саду.

Мы селі ў гарадзкі аўтобус і паехалі да мяне. Ужо сутоньвалася. Горад запаліў свае восеньскія агні.

Завочна мяне пазнаёміў зь Юрам Ігар Сідарук, якога я ведаў па літаратурнай нарадзе ў До-

ме творчасьці «Ісласч». Ігар у адным зь лістоў напісаў, што Юра — вельмі цікавы паэт, быў бы добрым аўтарам для «Ксэракса Беларускага», і надаслаў мне паштовы адрас Гуменюка. Я адразу ж Юру напісаў, і мы эпісталярна пасябравалі. Юра дасылаў мне па некалькі лістоў на тыдзень. Яго вельмі зацікавіла ідэя незалежнага друку. Ён узяў на ўзбраеньне тэрмін «нонканфармізм» і амаль у кожным лісьце разважаў пра свабоду творчасьці. Ён неяк адразу падтрымаў маю ідэю ўласнай незалежнай літаратурнай арганізацыі. Дзеля абмеркаваньня гэтага важнага пытаньня гарадзенскі паэт і прыехаў да мяне ў Полацак.

— Галоўнае, каб гэтая справа не ператварылася ў прафанацыю, — палымяна казаў Юра. — Ніякага балясту. У суполцы павінны быць толькі таленавітыя творцы.

— Такія, як мы, — пажартаваў я.

— Так, як мы, — на поўным сур'ёзе, не зьвяртаючы ўвагі на мой жартаўлівы тон, заявіў ён. — І трэба заснаваць свой часопіс. Бо без пляцоўкі для друку ня мае сэнсу гарадзіць агарод.

Да ночы мы абмяркоўвалі нашыя напалеонаўскія пляны. І вырашылі, што касьцяк будучай незалежнай суполкі складуць маладыя літаратары з Полацку і Гародні — тут ён адразу назваў імя гарадзенскага паэта Юрася Пацюпы, — а таксама запросім да ўдзелу ў суполцы пісьменьнікаў зь іншых рэгіёнаў, а ў самую апошнюю чаргу — са сталіцы. Прынцыпу рэгіяналізма мы вырашылі трымацца нязьменна. Дамовіліся і пра тое, што я выдам першы зборнік Юры ў нас на Полаччыне, дзе мы ўжо праклалі сьцежку да мясцовых друкарняў.

На наступны дзень я праводзіў Юру на аўтавакзал. Паэт выглядаў на картачнага гульца, які паставіў усю сваю маёмасьць на кон і ад гэтага моцна хваляваўся. Ужо ў Гародні, вяртаючыся дахаты, ён забыў у аўтобусе свой парасон. Пра гэтую сымбалічную ахвяру Юра затым будзе згадваць яшчэ гадоў дзесяць.

* * *

Шчыра вітаю!

Вось ізноў нас падзяляюць сотні кілямэтраў... Я, як заўсёды, сяджу ды ўзіраюся ў начное прадоньне за вакном... Так, ужо даўно па дванаццатай... Але я не кладуся спаць, бо пішу ліста далёкаму сябру, які калісьці напісаў да мяне першы, даслаў падарунак — уласную кніжыцу. Мабыць, гэта й паспрыяла разьвіцьцю завочнага сяброўства. Яно ўзмацнілася нашай нядаўняй сустрэчай. Я вельмі задаволены, нягледзячы нават на тое, што паклаў пэўную ахвяру — парасон. Мастацтва патрабуе ахвяры. Сяброўства, відаць за ўсё, таксама...

Шлях дамоў быў значна лягчэйшы, чымся ў Полацак. Аўтобус прыйшоў у Гародню на гадзіну раней. Так што каля дванаццатай я быў ужо ў хаце ды слухаў музыку Pink Floyd. У памяці ўзьнікалі выявы нашай сустрэчы. Думкі несьліся кудысьці ўдалячынь. Неабходна было пераварыць тое, што адбылося... Ведаеш, дарагі Алесь, гэта цудоўна, што нашыя погляды сышліся амаль на 100%. Сапраўды, такое бывае зрэдку. Ну дык файна!

Учора размаўляў праз тэлефон з Пацюпам; казаў яму, каб хутчэй рыхтаваў сваю нізку для

нашага зборніка. Сустракаўся таксама з Алесем Аўчыньнікавым, які адразу згадзіўся аздобіць кніжачку сваімі малюнкамі. Так што мы хутка падрыхтуем рукапіс да друку. Нам толькі неабходна ведаць памеры і аб'ём. Ці памеры тыя самыя, што ў вашага зборнічка «Тайніца»? І яшчэ адно пытаньне маю да цябе, дарагі Алесь. Як хутка можна выдаць нашае сумеснае дзіцятка ў Полацку? Ці выйдзе яно ўжо вясной 1992-га, калі я пакладу рукапіс зборніка табе на стол яшчэ ў сьнежні?

Дасылаю наш калектыўны зборнік «Шлях». Пагартай, паглядзі.

Я, канешне, не абяцаю, але пастараюся яшчэ раз прыехаць да цябе ў гэтым годзе. Магчыма, пад Новы год, які мо й сустрэнем разам. Было б жаданьне. Усім астатнім прыйдзецца ахвяраваць, як нечым зьнікомым і другасным...

Прывітаньне ад Алеся Аўчыньнікава. Я буду яго ўвесь час угаворваць, каб рыхтаваў выставу для Наваполацкага культурнага асяродьдзя. Ён у Гародні зараз самы блізкі мне чалавек. Мы зь ім прайшлі ўсе выпрабаваньні лёсу. Ён заўсёды падтрымлівае маю пазыцыю, за што я яму вельмі ўдзячны. І зараз, калі я зрабіўся незалежным літаратарам, Аўчыньнікаў кажа: «І добра зрабіў, што кінуў гэтае балота, паказаў зубкі афіцыйным дзеячам ад літаратуры... Лепш супрацоўнічай з Аркушам, чымся з хлопчыкамі, якіх правялі, як дурачкоў... Вось і спазнаў "сяброў" на справе». Зрэшты, ты ўжо ведаеш, як разгарнуліся падзеі. Пакуль нічога не чуваць новага. А здарыцца што — абавязкова паведамлю. Чакаю твайго ліста. Як дагэтуль. Як заўсё-

ды. Кланяюся тваёй жонцы. Пацалуй ад майго імя маленькага Антосіка.

Юра Гумянюк

16.11.1991, Гародня.

* * *

— А чаму вы зьвярнуліся менавіта да мяне? — Сытуацыя была дзіўная. Гэты дзядзечка хоча мне расказаць нешта такое, за што могуць адарваць галаву. — І вы не баіцеся, што гэты «дзядок»-пэнсіянэр назірае за тым, як вы гутарыце са мной?

— А зь імі ня варта гуляць у казакі-разбойнікі і агентаў 007. Гэтым толькі будзеш іх злаваць і прымушаць узмацняць кантроль. Усё роўна даведаюцца. Вы можаце сказаць, што такім чынам я вас падстаўляю. Але яны і так за вамі пільна сочаць і слухаюць ваш тэлефон. Бо адкуль ён мог даведацца пра нашу сустрэчу? Я званіў з аўтамата. Журналісты ўсе на кантролі, тым больш зь незалежных выданьняў. Таму тут няма асаблівай рызыкі. Праўда, калі вы ня будзеце адразу друкаваць тое, што пачуеце. А калі зьнянацку спытаюць, скажаце, што я жаліўся на малую пэнсію і расказаў, як шмат працаваў за сваё жыцьцё.

— Дык што вы мне хочаце расказаць? — Мая цікаўнасьць пачала выплёхвацца праз краі. Што мог такога незвычайнага мне распавесьці гэты сухенькі дзядзечка? Якія такія сакрэты ён ня хоча зьнесьці з сабой у магілу?

— Свой лёс, — сказаў ён будзёна і ўзьняў галаў насустрач веснавому, цёпламу сонцу, потым прымружыў вочы і дадаў: — А вы думаеце, што не бывае сакрэтных лёсаў?

— Хіба што вы былі ў ахове Сталіна, — пажартаваў я.

— На шчасьце, такі лёс мяне абмінуў. Затое мяне абвінавачвалі ў забойстве Машэрава, — прамовіў ён безь якой-кольвечы эмоцыі ў голасе.

— А што, Машэрава забілі? На колькі я ведаю, гэта была выпадковая аўтакатастрофа.

— Гэта было Боскае пакараньне. — Мой суразмоўца сказаў гэта такім голасам, нібыта асабіста прысутнічаў на гэтым паседжаньні Боскага суду. — Але давайце пра ўсё па парадку.

І Павал Іванавіч пачаў мне расказваць пра сваё жыцьцё. Ад нараджэньня да выхаду не пэнсію.

— Усё здарылася з-за таго, што я адмовіўся падпісаць паперу на супрацоўніцтва з КДБ, калі закончыў сэмінарыю. Як пазьней даведаўся, гэта была агульная практыка — амаль усе выпускнікі сэмінарыі падпісвалі такія паперы на супрацоўніцтва. Некалькі разоў са мной размаўлялі, уломвалі, пагражалі, але я катэгарчына заявіў, што гэтага не павінна быць, бо нельга парушаць таямніцы споведзі, гэта вялікі грэх. Разьвітваючыся са мной, суворыя людзі мяне папярэдзілі, што я моцна пашкадую і паабяцалі нагадаць пра сябе. А яны заўсёды выконваюць свае абяцаньні. Не прайшло і двух гадоў, як мяне абвінавацілі ў растраце сродкаў у сваім прыходзе і асудзілі. Нахабна ўсё сфальшавалі. Для мяне гэта было жахліва. Але я ўспрыняў судовы вырок як выпрабаваньне маёй веры ў Хрыста. У той

час, у першай палове 60-х, пачаўся моцны наступ на Царкву. Паўсюль у Беларусі ўзяліся руйнаваць храмы. Вось і ў Полацку ўзарвалі Мікалаеўскі сабор, былы касьцёл Сьвятога Стэфана. Гэта было нейкае шаленства, зацьменьне розуму. Я напісаў ліст Машэраву і мне ўдалося яго пераправіць на волю. У ім я папярэджваў нашага кіраўніка, што за ўсё будзе расплата і за ўсё трэба будзе адказваць. Ясная справа, што да Машэрава мой ліст ня трапіў. Затое яго перадалі ў тую ўстанову, якая мяне запраторыла ў лягер. Мае Дантавы колы пачаліся з пачатку. Зьбівалі, зьдзекваліся. Дадалі яшчэ паўтара года лягеру. Аднойчы на парашы, на кавалачку скарыстанай газэты, я прачытаў пра сьмерць Машэрава. Я пачаў грукаць у дзьверы, крычаць, маўляў, я ж яго папераджваў, што будзе расплата, што за ўсё трэба адказваць. Мяне схапілі і пацягулі ў катоўню. Некалькі дзён запар катавалі, спрабуючы даведацца, што я ведаю пра пакушэньне на Машэрава, хто яго рыхтаваў, хто замаўляў, хто выконваў. Кажу: Бог. Як яго сапраўднае імя, хто яго саўдзельнікі? Думаў, што ўсё — гэта канец. Але Бог дараваў мне жыцьцё. І вось гэтыя ганаровыя пэнсіянэры сёньня сочаць, каб пра іх «подзьвігі» вы, журналісты, чаго-кольвечы не напісалі. Але я ўпэўнены, што праз якіх 15-20 гадоў вы пра гэта напішаце. Бо прыйдуць новыя Машэравы, якія зноў будуць парушаць Боскія законы. І трэба ім растлумачыць, што за ўсё спытаецца, за ўсё трэба будзе адказваць.

Павал Іванавіч скончыў аповед. Некалькі хвілінаў мы сядзелі моўчкі.

— Дык вы не адказалі на маё пытаньне: чаму вы зьвярнуліся менавіта да мяне? — Камэнтаваць па-

чутае мне абсалютна не хацелася. Я быў агаломшаны расповедам. Мяне ўзрушылі нават ня столькі тыя несправядлівасьці і жорсткасьці ў дачыненьні да гэтага чалавека, колькі ягоная вера. Здаецца, я б на ягоным месцы зараз проста зьбіў бы на горкі яблык таго «дзядка» ў пінжачку, што чытаў газэтку пад бэзам. Але ад незнаёмца не сыходзіла нават каліва непрыязнасьці ў бок свайго ката. Гэты чалавек верыў, што за свае справы кожны адкажа напоўніцу.

— Вы пытаеце, чаму зьвярнуўся да вас. Чытаў вашыя артыкулы ў газэце.

* * *

Пісьменьніцкая кар’ера Сержука Сокалава-Воюша неяк імкліва пайшла ўгору. Беларускія літаратурныя пэрыёдыкі навыперадкі пачалі друкаваць ягоную «вызвольную» паэзію. І здарыўся ўвогуле цуд — у 1989 годзе ў дзяржаўным выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшаў першы ягоны паэтычны зборнік «Кроў на сумётах». Назва празрыста адсылала да нацыянальнага сымбалю — бел-чырвона-белага сьцягу. Але гэта ўжо не пужала рэдактароў. Да абвяшчэньня незалежнасьці заставалася менш за два гады.

У верасьні 1989 года Полацак наведаў легендарны беларускі сьпявак з Амэрыкі Данчык з маці спн. Юляй. У полацкім Богаяўленскім саборы, які ў той час быў прыстасаваны пад мастацкую галерэю, адбыўся канцэрт Данчыка, былога саліста «Песьняроў» Леаніда Барткевіча і Сержука Сокалава-Воюша. Прайшло ўсё вельмі ўрачыста і пры-

гожа. Сабралася ўся беларуская тусоўка Полацка і Наваполацка. Шмат кветак, шмат цёплых словаў. Усе мясцовыя дзяўчаты закахаліся ў Данчыка. Адным словам, адбылося сапраўднае сьвята беларускай песьні.

Пасьля канцэрту госьці паехалі да Воюша. Узялі і мяне з сабой, бо я ў той дзень зьбіраўся ехаць у Менск, і госьці паабяцалі мяне туды завезьці. У Воюша яны толькі забралі свае рэчы і пакацілі ў бок сталіцы. Ехалі на новай «Волзе» Барткевіча. Ззаду сядзелі мы з Данчыкам і ўсю дарогу размаўлялі. Данчык падараваў мне вінілавую кружэлку «Мы адной табе належым», запісаную ім разам з Барткевічам у ЗША. Распытваў пра Полацак. Хваліў Сержука Сокалава-Воюша. Маўляў, мае вялікі талент і паэта, і кампазытара. Некаторыя песьні Воюша Данчык ужо выконваў на сваіх канцэртах.

Забярэце вы хутка нашага Сокала, падумаў я тады — і не памыліўся.

* * *

Калі мы з Кузьміным прачнуліся, ужо бралася на вечар. У намёце па-ранейшаму акрамя нас нікога не было. Гэта насьцярожыла. Выбраліся вонкі. Лягер гудзеў сваім бесклапотным жыцьцём. Пайшлі да намёта «мроеўцаў». Бяседа ў іх была ў поўным разгары. Уся кампанія нешта гучна абмяркоўвала.

— Дзе Сьвідрыцкі? — з насьцярогай спытаў Фула ў Макса.

— Ды вунь сьпіць, — Макс махнуў рукой у кут намёта. — Усё нармальна, Фула. Прасьпіцца, будзе як агурок.

Але нічога нармальнага не было. Сьвідрыгон быў п’яны ў дрыбадан. Нармальна праспацца ён змог бы толькі пад раніцу. Да пачатку канцэрта заставалася пару гадзін. А трэба яшчэ выйсьці на саўндчэк і настроіць гітары.

— Блін, Макс, я прасіў... — Першы раз я бачыў Кузьміна ў такім нэрвовым стане.

Спробы клявішніка Руслана Парфёнава падняць Сьвідрыцкага і прывесьці яго да нейкага «ўцямнага» стану нічога не далі. Ён нешта мармытаў і адбрыкваўся. На саўд-чэк пайшлі без бубнача.

Пасьля саўнд-чэка Макс прыступіў да радыкальнай тэрапіі. Ён прынёс вядро вады. Мы выцягнулі Сьвідрыцкага з намёта, і Макс плюхнуў усё вядро яму на галаву. Сьвідрыцкі падхапіўся і сеў. Ён вырачыў вочы і пудліва адплёўваўся.

— Што, што такое, што здарылася, — спалохана паўтараў ён сваім шапялявым голас.

— Сусьветны патоп — вось што, — сказаў яму Кузьмін і дадаў: — Уставай, мы выступаем праз паўгадзіны.

Макс і Руслан падхапілі бубнача пад рукі і пацягнулі ў бок сцэны.

Першы дзень фэстывалю набліжаўся да свайго апагею. Публіка разагрэлася як мае быць. Я ўпершыню бачыў, каб так дурэлі на рок-канцэрце. Асабліва мяне ўразіла, як маладыя хлопцы лезьлі на сцэну і, пакуль да іх ішлі ахоўнікі, давалі нырца ў натоўп. Людзі падхоплівалі ныральшчыка на рукі і ён, дрыгаючы рукамі і нагамі, гарлаў на ўсю моц, падпяваючы чарговаму выступоўцу.

«Мясцовы час» сходу ўварваўся ў гэтую ўжо амаль начную містэрыю. Калі я пачуў фальцэт Кузь-

міна, у мяне пабеглі мурашы па сьпіне. Праўда, я з трывогай увесь час казеліў вока на Сьвідрыцкага. Але музычны шал нібыта працьверазіў яго. Твар Сьвідрыгона набыў на дзіва нейкі ўзьнёслы выраз. Час ад часу адыходзіла гітара ў Дракешы. Але разагрэты натоўп абсалютна не зьвяртаў на гэта ўвагі. Моладзь ашалела скакала, махаючы бел-чырвона-белымі сьцягамі. І дзіўна: многія песьні натоўп падпяваў суладным гулам — значыць, касэты «Мясцовага часу» ўжо пераадолелі межы Беларусі, прынамсі ў Польшчу да тутэйшых беларусаў яны ўжо трапілі.

На раніцу «мясцовачасаўцы» былі ўжо аднымі з галоўных зорак фэстывалю. На «Басовішчы» журы вызначала пераможцаў фэсту. «Мясцовы час» атрымаў прыз «Лепшы гурт».

* * *

Фэерычным сьвятам сталася для ўсіх прыхільнікаў беларушчыны абвяшчэньне незалежнасьці роднага краю. Якраз мы вярнуліся з «Басовішча». Стомленыя і акрыленыя адначасова. 25 жніўня Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце, якая была прынятая беларускім парлямэнтам 27 ліпеня 1990-га года, быў нададзены статус канстытуцыйнага закону. Усё! Цяпер мы жывем незалежнай краіне Беларусь! Зьдзейсьнілася запаветная мара! Цяпер усё, што мы рабілі, набывае сэнс і пэрспэктыву.

Сяржук Сокалаў-Воюш, Уладзімер Арлоў і яшчэ колькі сяброў БНФ у той дзень дамагліся, каб на даху Полацкага гаркаму камуністычнай партыі залунаў наш сьцяг. Воюшаўскі закадычны сябрук Ва-

сіль Храмцоў зьняў бэсэсэраўскі і павесіў бел-чырвона-белы.

Напярэдадні гэтай лёсаноснай падзеі Юра Гумянюк даслаў мне верш «Заўсёды насуперак», які затым быў уключаны ў ягоны першы зборнік «Водар цела».

Заўсёды насуперак. Так ці ня так?
Падманлівы сьмех праглынае мажлівасьць.
І ты чырванееш, як зморшчаны мак,
і ты адмаўляеш хлусьню ды ліслівасьць.

Заўсёды насуперак. Нонканфарміст,
табе і мэдаль да тваёй марынаркі
за тое, што пішаш нясканчаны ліст,
за тое, што ведаеш сэнс гаспадаркі.

Заўсёды насуперак. Гэтак было
дагэтуль і будзе, напэўна, заўсёды.

— Ніякай палёгкі бліжэйшым часам нам ня будзе, — пэсымістычна напісаў у тым лісьце Юра. — А можа, гэтай палёгкі ня будзе ніколі.

* * *

Падзеі імкліва накочваліся адна за адной. Неўзабаве Полаччыну наведаў танцавальны калектыў з Нью-Ёрка «Васілёк». Канцэрт беларусаў з Амэрыкі адбыўся ў полацкім гарадзкім Палацы культуры. Пасьля прыезду «Васілька» ў беларускай тусоўцы папаўзла чутка, што Воюш закахаўся ў адну з удзельніц ансамблю — Ганну. Яна

была зь сям'і славутых беларускіх эмігрантаў у ЗША Бартулёў.

Неяк Воюш патэлефанаваў і папрасіў зайсьці да яго. Павітаўшся, ён працягнуў паперку. На адмысловым блянку было нешта напісана па-ангельску.

— І што гэта? — спытаў я Воюша.

— Запрашэньне наведаць Амэрыку, — будзёна адказаў ён. — Мне патрэбна некалькі копій. Зрабі, калі ласка, на працы.

— Не праблема. А ты зьяжджаеш назаўжды? — спытаў я сябра.

У Воюша была сям'я — жонка Алена і сын Стась. І гэтая сытуацыя з Амэрыкай выглядала падазронай.

— Калі ёсьць такая мажлівасьць — трэба скарыстаць. Паглядзець сьвет, сябе паказаць, — Воюш засьмяяўся. — Ня ведаю, што будзе далей. Час пакажа.

Яшчэ зусім нядаўна, калі мы адзначалі выхад першай кнігі Воюша, Сяржук падпісаў нам з Таццянай зборнічак наступным чыным:

Партыйцы — прэч і
фічку дзядзьку Сэму.
Ці нам трымцець
пры гэтых баранах!
Калі такія людзі
ткуць паэмы,
прычым абодва ў розных
галінах!

Цяпер ён сабраўся ў госьці да дзядзькі Сэма. Ну што ж, шчасьлівай дарогі!

Гэтая страта была вельмі балючай для Полаччыны. Па вяртаньні ў Наваполацак Воюш скасаваў шлюб з Аленай і зьехаў у Прагу — працаваць на радыё «Свабода», пабраўшыся шлюбам з Ганнай Бартуль.

* * *

Мой тагачасны артыкул.

Дваццацігадовыя вэтэраны БР

Яшчэ ўчора пэсымісты адмаўлялі ў ягоным існаваньні. Маўляў, які там беларускі рок (БР). Сёньня ён непазьбежны. Існуе незалежная Рэспубліка Беларусь, павінен існаваць незалежны БР.

Пачынаецца новае нацыянальнае летазьлічэньне. Рок-музыкі з часін сацыялістычна-таталітарнае эпохі цяпер вэтэраны. Вэтэраны БР. Хлопцам з гурта «Мясцовы час» яшчэ няма 30.

«Мясцовы час» — гурт незвычайны. Удалечыні ад сталіцы, тэлерадыёкампаній, рэдакцый, галоўных эстрадных пляцовак, дзялкоў шоў-бізнэсу, карацей, удалечыні ад кухні, на якой гатуецца «зорная поліўка», гурт стаў зоркай. Праўда, самі музыкі ўпэўнены, што іх родны горад Полацак таксама сталіца, няхай сабе і без дзялкоў і кампаній. Усяму свой час. Ці не на Ўсяслава Брачыславіча надзея?!

1991 год быў вельмі плённы для «МЧ». Прынамсі, некаторыя музычныя крытыкі лічаць, што ён наогул быў годам «Мясцовага часу». Гурт запісвае альбом «Ускраіна». З аднайменнай песьняй перамагае ў

паўгадавым фінале хіт-парада радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» і заваёўвае права ўдзельнічаць у чарговым канцэрце «Рок-музыкі сьвету — дзецям Чарнобыля». З посьпехам выступае на фэстывалі «Басовішча-91» у Польшчы. Гурту даручаюць падвесьці ганаровую рысу ў канцэрце «Беларускі рок вітае незалежную Беларусь», які ў прамым этэры трансьляваўся па тэлебачаньні з парку Янкі Купалы ў Менску. Год запар песьні «МЧ» з альбому «Ўскраіна» гучалі ў перадачах «Беларускай маладзёжнай» і «Свабоды». У мюнхенскім хіт-парадзе беларускай рэдакцыі радыёстанцыі «Свабода» песьня «Я жыў» займае першае месца. Пагадзіцеся — досыць прыстойны гадавы наробак.

«Мясцовы час» — гурт незвычайны. Вось ён, жыўцом, сапраўдны, забыты ўжо ў суседняй Расеі, андэграўнд. Доўгі час гурт ня меў нават сталага памяшканьня для рэпэтыцый. Пакуль Полацкі гарадзкі Палац культуры знаходзіўся на капрамонце — рэпэтавалі ў ім. Пазьней ад «МЧ» пачалі патрабаваць якуюсь аддачу. Дыскатэкі-танцы «лабаць» музыкі адмовіліся. Ім паказалі на шырокія дзьверы. Далей рэпэтавалі ў памяшканьні Навапалацкага рок-клюба. Выкройвалі вольныя гадзіны зь іншым гуртом. У хуткім часе памяшканьне ў рок-клюба рэквізавалі. Пайшлі прасіцца «на мяса» (Палац культуры мясакамбіната) да трэш-гурта «Дзіда»... Яшчэ складаней з інструмэнтам. У лідара, вакаліста Алеся Кузьміна, доўгі час не было сваёй гітары. Пазычалі, арэндавалі. Неяк выкручваліся. Неўзабаве зь перамогай выйшлі з паганага становішча — Алесь змайстраваў самаробную гітару з падваконнай дошкі, якую знайшлі ў

старым напаўзруйнаваным полацкім доме. Чым не андэграўнд!

Дзякуй Богу, сёньня большасьць арганізацыйных пытаньняў вырашаныя. Мясцовы прадпрымальнік Алег Макрушын уладкаваў у сваю «фірму» практычна ўсю каманду. Да гэтага большасьць хлопцаў нідзе не працавала. Якая там праца — раптам тэлефануюць: тэрмінова неабходна быць на здымках, далей заплянаваны канцэрт, а там фэстываль... (Трэба дадаць — усё бясплатна, часам самі музыкі купляюць сабе квіты на дарогу. Чысты андэграўнд!) Акрамя таго, Алег арэндуе цяпер памяшканьне для рэпэтыцый гурта. Ён жа фінансаваў запіс «Ускраіны». Ці не справа рук Брачыславіча?

Калі аўтар гэтых радкоў едзе куды-небудзь з гуртом на канцэрты, ён не перастае зьдзіўляцца. Звычайныя хлопцы. І адносіны паміж сабой нейкія дваравыя, такія ўзьнікаюць у падлеткаў у невялікіх гарадах (сам нарадзіўся на пэрыфэрыі). Заўсёды трымаюцца разам, трохі наіўна-сэнтымэнтальныя. Адкуль усё бярэцца, калі выходзяць на сцэну? Упэўненасьць, нават нейкая сцэнічная «фірмовасьць». Праўда, «крутых па жыцьці» рокераў хлопцы ня любяць. Навошта займацца франдэрствам, «касіць» пад монстраў рока. Ад усяго тутэйшага монстраўства патыхае няўклюдным, затурканым правінцыялізмам. Зь беларускіх рок-мэнаў любяць і сябруюць з «мрайчукамі». Шматлікія агульныя канцэрты парадніл і каманды. Ніколі не выступалі разам з «Улісам». Ніякіх кантактаў зь ім не падтрымліваюць (безь якойсьці прычыны, ня зводзіў лёс). І наогул, ні да каго «ня клеюцца», нікуды ня плішчуцца. Ня любяць хлусьні і брудных учынкаў.

Лідар гурта, безумоўна, вакаліст Алесь Кузьмін. Пад ягоны фальцэт працуюць усе. Другі лідар (ценявы) — Валеры Драко. Лідар-гітарыст, ён адказны за музыку. Праўда, ягонае лідарства цалкам інкогніта, мала хто ведае, што практычна ўсю музыку да песень з той самай «Ускраіны» напісаў ён. Прэса чамусьці прыпісвае яе Кузьміну. У рэшце рэшт вакол «МЧ» шмат розных недакладнасьцяў, чутак, легендаў. Хлопцаў гэта не кранае і «разбораў» яны не наладжваюць.

Найбольш кантактны — бубнач Алесь Сьвідрыцкі. Калі мы ад’яжджалі з Гарадка, дзе праводзіўся фэстываль «Басовішча», яго ведала амаль уся тусоўка. Нават запрасілі на шабашку на мясцовую цагельню. Аднак злотымі не спакусілі — зьехаў дахаты з усімі разам. Клявішнік Руслан Парфёнаў і бас-гітарыст Вячаслаў Макас калярытна вонкава, шоўмэны. На канцэртах падтрымліваюць «драматургію» Кузьміна. Абодва жанатыя і найбольш сур’ёзныя. (Будзеш сур’ёзны — трэба дзяцей карміць.)

Я тут пішу «зорка, зорка». А шмат хто ў Беларусі ведае «Мясцовы час»? (Ніколі ня чуць яго немагчыма — калі ты не «дысыдэнт» і ня слухаеш «Свабоду», то пэўна маеш прыймач, улучаны ў радыёсетку). Для шырокай вядомасьці трэба грошы, каб зьявіліся новыя запісы, кліпы. Бо мала сказаць — мы маем талент. Хто паверыць? Запрашалі гурт выступіць у Эстоніі — не паехалі, не было грошай.

Якую крывую намалюе «Мясцоваму часу» жыццё-асцылёграф у 1992 годзе? Ёсьць пляны, ёсьць надзеі. І ўсё ж: няхай жыве андэграўнд!

* * *

Мяне няўхільна, як нейкі магутны вір, уцягвала ў справы стварэньня рэгіянальнага літаратурнага працэсу. Ужо з другога нумару альманах «Ксэракс Беларускі» пачаў выходзіць у наваполацкай друкарні. Неўзабаве зь Вінцэсем Мудровым мы заснавалі выдавецкую суполку «Полацкае ляда» і акрамя альманаху пачалі выдаваць просьценькія, на колькі дазвалялі мясцовыя паліграфічныя варштаты, кніжачкі.

Рэальную падтрымку ў нашых справах мы знайшлі ў Гародні ў асобе Юры Гуменюка. Пачалі рыхтаваць да друку ягоны першы паэтычны зборнік. Юра доўга вагаўся з назвай для сваёй дэбютнай кнігі. Спачатку рукапіс называўся «Леапардавая скура», затым паэт зьмяніў яе на «Псыхадэлічнае мастацтва». Але мы з Мудровам скрытыкавалі такі назоў, які, хутчэй, падыходзіў да тэарэтычнай мастацтвазнаўчай кнігі. Юра праз нейкі час пагадзіўся з крытыкай і зьмяніў назву на «Водар цела», але ў дужках пад новай назвай усё роўна пакінуў ранейшае «Псыхадэлічнае мастацтва».

Гумянюк не сядзеў бяз справы і ў самой Гародні. Будучы студэнтам гарадзенскага ўнівэрсытэту, а ён вучыўся на паляністыцы, пачаў гуртаваць паэтычную моладзь роднага горада. На абласным радыё стварыў літаратурную праграму «Кантэкст», ва ўнівэрсытэцкай газэце рыхтаваў літаратурную старонку «Кола», зь сябрамі Юрасём Пацюпам і Андрэем Пяткевічам стварыў верш-гурт «Дыяген». Але неўзабаве адзін за адным узьніклі канфлікты, у тым ліку з кіраўніцтвам унівэрсытэту і зь мясцовым літаратурным асяродкам. Як сам любіў пазьней

казаць Юра, яму пачалі падразаць крылы. І тады ён цалкам узяў арыенцір на Полацак. Тым больш, што ў нас зьявіліся агульныя пляны — і адносна самастойнай літаратурнай суполкі, і адносна ўласнага літаратурнага часопіса.

* * *

Прывітаньне!

Вось і сустракаемся мы ўжо ў Новым, 1992-м годзе, пад знакам чорнай малпы. У гэнай малпы вельмі жахлівы твар ды драпежныя паводзіны. Зрэшты, ня ў малпе справа. Гэта наш «цудоўны» ўрад зрабіў файны навагодні падарунак паспалітаму люду — новыя «рынкавыя» цэны. Ты, Алесь, жадаеш «здароўя — для змаганьня з рынкам-цмокам». Які там к чорту рынак! Гэта ня рынак — абшчак. Да сапраўднага рынку яшчэ тупаць ды тупаць. Спачатку трэба было вырашыць пытаньне аб прыватнай уласнасьці, а ўжо потым адкручваць цэны. Ня хочацца нават і гаварыць пра гэта. Крыўдна за ўсё. Баліць сэрца і душа. Бо палітычна-эканамічная сытуацыя душыць мастацтва, імкнецца пакрыжаваць нашыя агульныя пляны...

Ты жадаеш мне «першай кніжкі». Дзякуй. Але гэта залежыць у большай ступені ўжо ад цябе. І зноў жа — у якой атмасфэры адбудзецца выхад «Псыхадэлічнага мастацтва»? Зноў жа: б’е ў твар бессаромная рэчаіснасьць цэнамі, купонамі, пустымі паліцамі ў крамах і г.д. Я вось думаю: «Як людзі адрэагуюць на выхад маёй кніжыцы?» Вядома, каб яна выйшла 2 гады таму, яна б зрабіла фурор і магла б быць «касавай». У тыя часы посьпех маіх вер-

шаў (як і ў мінулым годзе) быў відавочны. Думаю, што й зараз будзе тое самае, але зь іншым прысмакам. Я вось задумаўся над тым, як рабіць «раскрутку» ў такі складаны час. Сягоньня, прачытаўшы ў абласной газэце артыкул пра цэны на праезд у аўтобусах «міжгорад», жахнуўся. Ад Гародні да Менску білет каштуе 78 р.! Вось табе і зрабілі «гастролі» па рэспубліцы й раскрутку зборніка. Трэба яшчэ даведацца, колькі каштуе квіт да Полацку з Гародні. Баюся, што больш, чым да Менску. А сустракацца неабходна ўсё роўна, бо лісты й тэлефонныя размовы дапамагаюць толькі на 50%. Хаця й гэтыя сродкі камунікацыі файныя.

Вось такія, Алесь, справы. «ЖЫВЕ МАСТАЦТВА!!!» — адпаведны лёзунг. А як жыць тым, хто стварае мастацтва? Як жыць, каб ствараць яго на адпаведным узроўні? Як ладзіць, у рэшце рэшт, агульную справу: новыя выданьні, «гастролі», прэзэнтацыі, інаўгурацыі і г.д.? Узьнікае шмат пытаньняў. Тутака абяцаюць даць стыпэндыю каля 500 р. Калі так — то добра. Тады змагу даехаць да Полацка, каб спаткацца з табой...

29.12.1991 — выйшаў чарговы нумар «Кола», які складаў спадар Мікуліч. Большасьць аўтараў мне зусім нічога не гаворыць. Абсалютна новыя людзі. Даслаць табе для «аналізу» не магу, сам толькі атрымаў ад Мікуліча адзін экз. Шыльду яны намалявалі іншую, але назоў захавалі разам з выявай Купалы. Больш няма чаго сказаць аб выпуску.

Думаў я над артыкулам і ўвогуле тэмамі да зборніка-маніхвэста. Мне падаецца, што ты бярэш сабе даволі шырокую тэму: «Мастацтва ў часы агоніі». Назоў трэба зьмяніць ды канкрэтызаваць: «Літа-

ратура часоў агоніі Савецкай Беларусі», альбо нешта накшталт гэтага. Пацюпа казаў, што ўвогуле ня трэба нейкага разьмеркаваньня тэм, бо гэта нагадвае метады працы ў нашым «славутым» Інстытуце літаратуры АН Беларусі. Я яму растлумачыў, што гэта ня так, аўтар вольны выбраць сабе адпаведную тэму. Я, відаць, буду пісаць аб паталягічных зьявах савецкай сьвядомасьці ў паэтаў-аксакалаў (Панчанка, Русецкі, Грахоўскі і К). Тэма «Сацрэалізм і мэтафізычны гомасэксуалізм». За Андрэя Пяткевіча я нічога не магу казаць, бо ён асоба «няроўная» ды апошнім часам зьнік. Відаць, зноў пайшоў у «падпольле».

Вось такія, дарагі Алесь, справы.

Усяго табе добрага. Чакаю чарговага ліста.

Прывітаньне жонцы, Вінцэсю Мудрову і г.д.

Твой аднадумца і паплечнік.

ЖЫВЕ МАСТАЦТВА!!!

5.01.1992
Гародня

P.S. Хутка дашлю табе «Кола» і вокладку з малюнкамі да майго зборніка. Трэба толькі сустрэцца з Аўчыньнікавым.

* * *

У Наваполацак прыехалі радыёжурналіст Віталь Сямашка і музычны крытык Юры Цыбін рабіць матэрыял пра «Мясцовы час». За мной у інтэр-

нат заехалі Кузьмін і Парфёнаў і мы разам накіраваліся ў гатэль, дзе спыніліся журналісты, даваць інтэрвію. Адной з галоўных музычных падзеяў 1991 году журналісты назвалі выхад «мясцовачасаўскага» альбому «Наша ўскраіна». Гэтаму альбому і мусілі быць прысьвечаныя матэрыялы, якія яны меркавалі падрыхтаваць у Наваполацку. Праўда, я крыху скрытыкаваў альбом за моўную неахайнасьць. Некалькі разоў Кузьмін няслушна прасьпяваў канчаткі ў назоўніках множнага ліку. Але самым моц-ным праколам было тое, што ў песьні «Шлях дамоў» Кузьмін прасьпяваў замест словаў «рукі на стырне» невядома што — «рукі на стрыне» (магчыма ў надрукаваным тэксьце песьні была памылка). І калі я гэта пачуў у першы раз, дык ледзь не атрымаў сардэчны прыступ. Фула, відавочна, ня ведаў гэткае слова, інакш ніяк не патлумачыш пракол (калі б нават і была абдрукоўка ў тэксьце, дык Фула павінен быў яе выправіць). Пра гэта я і сказаў у мікрафон Сямашку. Запісаўшы ўсё на дыктафон, Сямашка пачаў мяне супакойваць:

— Будзем лічыць, што гэта полацкі дыялект. У Нямеччыне, напрыклад, ёсьць некалькі дыялектаў, і рок-каманды з той ці іншай мясцовасьці сьпяваюць звычайна на родных дыялектах. І часам гэта такая нямецкая мова, што яе ў іншай мясцовасьці амаль не разумеюць. Таму ня будзем тут моцна пераймацца. Тое, што альбом беларускамоўны, думаю, ніхто ня будзе аспрэчваць.

Я абсалютна ня ведаў нямецкай мовы. Таму і паверыў Сямашку.

* * *

Добры дзень!

Ты мяне, дарагі Алесь, парадаваў сваім лістом, нягледзячы на тое, што ад яго «цягне» рацыяналістычным халадком. А мой пэсымізм хвілёвы і пазытыўны ў нечым. І ўзьнікае ён часамі, але зусім не ад таго, што я, кажучы тваімі словамі, «зь вежы сваіх невялікіх гадоў» разьлічваю на бліжэйшыя вынікі. У творчасьці я не кіруюся нейкім разьлікам, бо ведаю (так як і ты), што гэта марны занятак. Ведаю таксама, у якіх варунках мы жывем і невядома колькі будзем так жыць... Але добра й тое, што літаратары трымаюць сувязь і яшчэ ўмудраюцца вершы пісаць.

Ці чытаў ты ў «ЛіМе» анкету, дзе розныя пісьменьнікі выказваюцца наконт становішча і будучыні бел. літ-ры? Вось яны і сапраўды глядзяць на ўсё зь вежы, толькі ня «зь вежы сваіх невялікіх гадоў», а наадварот, зь вежы вялікіх гадоў. Так што разуменьне сытуацыі не залежыць ад узросту. Праглядзі, калі будзеш мець ахвоту і час, і прааналізуй.

Гэта добра, што ў Наваполацку ствараецца новая газэта і ты будзеш працаваць там. Гэта нагода для аптымізму. Такім чынам, усё ж ствараецца нейкая супольнасьць выданьняў, якія будуць працаваць на агульную карысьць. Я вось таксама буду, відаць, падпісваць кантракт-дамову зь мясцовай тэлерадыёкампаніяй, дзе я заснаваў літвыпуск «Кантэкст». Акрамя ўсяго, абласная газэта «Маладзёжны кур'ер» прыхільна ставіцца да мяне, рэклямуе маю асобу. Так што бачыш, Алесь, пакуль ёсьць каналы. Ад «Кола» я ўжо адмовіўся, яшчэ ў той час, калі мы сустрэліся ў Наваполацку.

Бачыў я ў «Народнай газэце» здымак Цімохавых, чытаў нататку Валі Аксак. Малайцы! Алесь Аўчыньнікаў іх хваліў таксама, казаў, што яны добрыя мастакі.

Добра, што выйшаў набор паштовак з выявамі паэтаў «новае генэрацыі». Трэба ўзгадаць аб гэтым у «Кантэксьце». Гэта ж падзея ў літаратурным жыцьці рэспублікі! Вось і назьбіраўся матэрыял да радыёперадачы. Зараз напішу сцэнар, а ў панядзелак зробім запіс. Ты, дарагі Алесь, паведамляй мяне, калі ласка, аб культурным жыцьці вашых мясьцін. Помніш, ты абяцаў даслаць арыгінал здымку, які быў у газэце «Местное время». Здаецца ў інтэрвію, што Марцінкевіч браў у цябе. Гэты здымак мне надта падабаецца. А ўвогуле трэба ж займацца рэклямай, стварэньнем «опініі публічнай». У «Маладзёжным кур'еры» хочуць мець цэлую сэрыю (са здымкамі, зразумела) публікацыяў пра «новую генэрацыю». Я вырашыў заняцца гэтым асабіста. Зрэшты, пагаворым яшчэ, калі я прыеду да цябе зноў. Шмат аб чым трэба паразмаўляць. Трэба вось сэсію здаць і разьлічыцца з унівэрам. А там па студэнцкім білеце вазьму квіт і — да цябе. Напрыканцы студзеня — на пачатку лютага. Згодны?

Дзякуй табе за ўсё. Пішы.

Шчыра адданы Юра

12.01.1992
Гародня

* * *

Мастак Сяржук Цімохаў нарадзіўся ў самай глыбіні Палесься, у вёсцы з адпаведнай назвай — Кротаў. Зь дзяцінства ня ведаў ніякай іншай мовы, акрамя беларускай. Пасьля восьмай клясы выправіўся ў вялікі сьвет — паступаць у Менскую мастацкую вучэльню. І паступіў. Сяржук любіў расказваць за сяброўскім сталом, зь якімі пакутамі ён выціскаў зь сябе беларушчыну, каб стаць сапраўдным месьцічам, а ня нейкім калгасьнікам зь цёмнай правінцыі.

Ужо будучы студэнтам мастацка-тэатральнага інстытуту апынуўся ў кампаніі адраджэнцкай моладзі. Пачаў хадзіць на сьпеўна-драматычную «Майстроўню», дзе і пазнаёміўся зь Сержуком Сокалавым-Воюшам. Калі Цімохава разьмеркавалі ў Наваполацак, нейкі час ён з жонкай Рытай і дачкой Вальжынай жыў у Сокалавых. Дарэчы, той партрэт Івана Луцкевіча, які вісеў у сьвятліцы Воюша, якраз і намаляваў Цімохаў. Абодва Сержукі былі прыхільнікамі старажытнай веры беларусаў — паганства. Яны маглі бязконца апавядаць пра Купальле і сьпяваць народныя песьні, а Цімохаў тут быў асаблівым адмыслоўцам, ён сьпяваў неяк па-старажытнаму — гарлавым сьпевам.

Калі Мудровы зьехалі на расейскую Поўнач, Цімохавы перабраліся ў іх кватэру. Я часта там бываў. Рыта намалявала некалькі вокладак для альманаху «Ксэракс Беларускі», у тым ліку і для падпольнага першага нумару.

Неўзабаве Цімохаў стаў галоўным мастаком Полацка і атрымаў уласную кватэру. Цімохаўскія ўлазіны прайшлі шматлюдна і гучна. На іх присутнічаў увесь квет творчай інтэлігенцыі Полаччыны.

Полацак адразу адчуў уплыў Цімохава на сваё культурніцкае жыцьцё. Разам з полацкім мастаком Аляксандрам Канавалавым Сяржук заснаваў прыватную галерэю «Рыса». Спачатку яна месьцілася ў паўпадвальным памяшканьні былой Брацкай школы, дзе прыканцы 80-х быў створаны Музэй беларускага кнігадрукаваньня. Праз нейкі час «Рыса» перабралася ў Спаскі гарадок, дзе атрымала ў ільготную арэнду разьлеглае памяшканьне ад Полацкага цагельнага завода. Мясцовае мастацкае жыцьцё завіравала вакол «Рысы».

Сымбалічным аказаўся дзень 8 верасьня 1990 года. У Полацку праходзіла чарговае Скарынаўскае сьвята. Але ўпершыню з размахам і нацыянальным гонарам. Прыехала кіраўніцтва краіны на чале з тадышнім першым намесьнікам старшыні Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам. Адразу на некалькіх пляцоўках выступалі фальклёрныя калектывы. Полацак быў завешаны Скарынаўскімі плякатамі і эмблемамі сьвята, якія намаляваў Цімохаў. Але асноўнай падзеяй сталася адкрыцьцё полацкага Музэя беларускага кнігадрукаваньня ў будынку былой Брацкай школы. І менавіта ў гэты дзень, 8 верасьня, мы адзначалі 30-годзьдзе Цімохава.

* * *

Дарагі Алесь!

Вось дасылаю табе новы нумар нашай гарадзенскай газэты «Пагоня». Дзякуй за матэрыяльчык пра «Мясцовы час» і здымак Алеся Кузьміна. У хуткім часе надрукуем. Вось учора ўвечары вярнуўся я зь Менску. Вечарына 29.04. у Доме

літаратаў Саюза пісьменьнікаў Беларусі прайшла добра. Вёў сустрэчу Сяргей Кавалёў. Акрамя мяне, Пацюпы і Сідарука выступілі: Леанід Дранько-Майсюк, Славамір Адамовіч, Сяржук Мінскевіч, мастацтвазнаўца Яўген Шунейка. Вечарына праходзіла ў Камінным залі. Лёнік Галубовіч здымаў для ТБ. Так што глядзі праграму «Студыя МЭТА». На вечарыне прысутнічала ў асноўным моладзь. Ведаеш, як ні дзіўна, але аніхто з кіраўніцтва СП не прысутнічаў, хаця ў той час шмат старэйшых пісьменьнікаў бадзялася па калідорах ДЛ альбо піла ў кавярні...

Ідэя стварэньня альтэрнатыўнай літарганізацыі вельмі слушная і, згодзен з табой, трэба як найхутчэй зьдзяйсьняць нашыя пляны. Але хто згодны ўвайсьці ў новую суполку? Якія кандыдатуры? Дзе ўзяць сродкі? Мо маеш якія прапановы? Напішы, калі ласка, як ты сабе гэта ўсё ўяўляеш, падзяліся меркаваньнямі. Дзе праводзіць устаноўчы сход? З кім ты ўжо вёў перамовы?

Ці чытаў ты ў «Маладосці» №3, 92 агляд паэзіі 1991 А.Марціновіча? Ведаеш, ён з такім імпэтам бэсьціць «новую генэрацыю» і робіць напрыканцы высновы, што «ўсё гэта» (творчасьць маладых, якія заўсёды «ў рожкі» са старэйшымі) — узьдзеяньне гнілога Захаду. Калі не чытаў — абавязкова пачытай. Там пра ўсіх — і пра мяне, і пра Пацюпу, і пра Мінкіна, і пра цябе.

Пацюпа піша своеасаблівы адказ Марціновічу, які мы зьбіраемся ў хуткім часе надрукаваць.

Ну, здаецца, і ўсё. Дзякую загадзя за працу над маёй кніжыцай. Спадзяюся, што ўсё будзе на ўзроўні.

Чакаю лістоў ад цябе з допісамі.

Твой Юра

2-3.05.1992, Гародня

P.S. Перадавай прывітаньне жонцы, Вінцэсю і ўсім астатнім.

* * *

Справа з выданьнем першай кніжкі Юрыя Гуменюка наблізілася да фінальнай рысы. Мы зь Вінцэсем утрэсьлі ўсе пытаньні з аўтарам — і адносна назвы, і адносна правак у вершах. Алесь Аўчыньнікаў намаляваў вокладку, гэткую мадэрнісцкую, у стылі 20-х гадоў. Я купіў паперу на вокладку. Гэта былі звычайныя наборы для чарчэньня, так званы ватман, бо ў наваполацкай друкарні не было ніякай паперы, акрамя газэтнай.

У адзін прыгожы дзень я выправіўся да дырэктаркі наваполацкай друкарні з рукапісам кнігі Гуменюка «Водар цела». Першыя перамовы скончыліся тым, што дырэктарка папрасіла пакінуць рукапіс на прагляд. Калі я прыйшоў другі раз, то дырэктарка пачала дзіўную размову пра тое, што варта было б мець нейкае рэдактарскае заключэньне адносна мастацкай вартасьці рукапісу. Відавочна, ёй ня надта спадабаліся вершы Гуменюка. Або яна проста хацела падстрахавацца.

— А вас задаволіць рэдактарскае заключэньне з выдавецтва «Мастацкая літаратура»? — Такі паварот справы быў для мяне нечаканым, раней

ніякіх заключэньняў друкарня ад мяне не патрабавала.

— Канешне, — сказала дырэктарка. — Гэта будзе лепш за ўсё.

У гэты ж дзень я патэлефанаваў паэту Леаніду Дранько-Майсюку, які працаваў рэдактарам у «Мастацкай літаратуры», і патлумачыў сытуацыю. Леанід абсалютна не зьдзівіўся такой просьбе, толькі папрасіў даслаць рукапіс. Літаральна праз тыдзень мы мелі вельмі пазытыўную рэкамэндацыю, у якой Дранько-Майсюк высока ацаніў вершы Гуменюка і рэкамэндаваў іх да друку.

Далей ужо было справа тэхнікі. Кнігу набралі. Мы зь Вінцэсем яе вычыталі. І празь некалькі дзён я прыйшоў у друкарню забіраць гатовую прадукцыю.

* * *

Дарагі Алесь!

Ты мяне абрадаваў, даслаўшы асобнічак маёй ксёнжачкі. Я вельмі ўдзячны табе, бо «Водар цела» глядзіцца нармалёва, салідна. Нават без фатаздымкаў і малюнкаў. Хаця яны тутака былі б дарэчы. Праўда, вы (ты й Вінцэсь) як рэдактары ўставілі і сваіх 5 капеек. Але нічога, Бог вам прабачыць! Бо вы ўсё ж як ніяк хросныя бацькі маёй ксёнжачкі! Трэба, Алесь, ужо пачынаць раскрутку, рыхтаваць «опінію» праз прэсу. Вядома, самому мне ў «ЛіМ» пісаць няёмка, але на Гарадзеншчыне амаль уся прэса «падвязана»...

Чытаў я ў «ЛіМе» артыкул Н.Гальпяровіча. Нешта дзядзька гаворыць слушна, але й не заўсёды рацыя на ягоным баку. Лічу, што якраз трэба ства-

раць альтэрнатыўныя суполкі. А нашыя выданьні ані якім «самвыдам» назваць нельга. Зь цягам часу, спадзяюся, будзе ўсё на высокім узроўні. І ў вас, і ў нас у Гародні.

А вось з прэзэнтацыяй «Водара цела» ў вас і ня ведаю што рабіць. Вядома, буду тэлефанаваць табе. Вось учора размаўляў па фоне (які тэле-) з Масарэнкам (гал. рэдактар часопіса «Першацвет». — А.А.) наконт аплаты дарогі. Ён абяцаў высьветліць. Запрашаў я таксама й Вітака Чаропку на прэзэнтацыю ў Наваполацак. Ён згадзіўся, але таксама ня ўпэўнены. Ведаеш, зараз цяжка з часам і транспартам. Але я пастараюся пад’ехаць да цябе (як і казаў раней) недзе 14-га.

Карацей, буду тэлефанаваць. Пастарайся быць на працы 9-га, 10-га, 13-га, каб атрымаць ад мяне інфармацыю. Сустрэчу можна было б правесьці 15-16, каб мы з Чаропкам спакойна паехалі ў Менск і патрапілі на прэм’еру «Першацвета» 17-га. Дарэчы, чытаў у «Чырвонай змене» ўрывак з маёй аповесьці?

Прывітаньне Вінцэсю!

Шчыра аддany Юры Гумянюк

4.11.1992
Гародня.

* * *

Усьлед за Полацкам і Наваполацкам да самастойнага кнігадрукаваньня далучыліся Паставы — невялікі райцэнтар на поўначы Беларусі. Спачат-

ку пастаўцы заснавалі свой літаратурны альманах «Рунь» і пачалі яго штогод выдаваць у мясцовай друкарні. Ініцыятарам гэтай пачэснай справы стаў тамтэйшы паэт Алесь Касьцень. Гэтую навіну я сустрэў зь вялікай радасьцю і неўзабаве навязаў кантакты з Касьценем, які стаў апэратыўна дасылаць мне пастаўскія кніжныя навінкі. Алесь працаваў журналістам у сталічнай газэце «Звязда» і таму меў уплыў у сваім рэгіёне. Відавочна, у кнігавыдавецкай справе яму дапамагалі мясцовыя гаспадарнікі і старшыні калгасаў, пра якіх Алесь пісаў у «Звяздзе». Прынамсі сувязі ў гэтым асяродзьдзі ён абавязкова павінен быў мець. Сябраваў ён і з дырэктарам пастаўскай друкарні.

Карацей, Алесь Касьцень быў наш чалавек, зь якім не дарма мяне зьвязаў лёс. Менавіта Алесь затым адыграе адмысловую ролю ў паўставаньні нашай будучай незалежнай літаратурнай суполкі.

А мы па-ранейшаму марылі пра свой літаратурны часопіс.

* * *

Прывітаньне, Алесь!

Атрымаў твой чарговы ліст, які датаваны 28.01.93. Але ж мы з табой файна паразмаўлялі 29-га, таму многія пытаньні аўтаматычна здымаюцца. Затое пытаньне назвы нашага будучага часопіса застаецца адкрытым. Я не разумею, чаму табе мае прапановы прыйшліся не даспадобы. Асабліва «Піраміда», у якой ты бачыш адно геамэтрычную фігуру і перадражніваеш «чаму не "Цыліндар"». Гэта, відаць, выдаткі тваёй «тэхнічнай» адукацыі.

Дарэчы, ці чытаў у апошняй «Культуры» інтэрвію Акудовіча з Разанавым? Дык Разанаў тлумачыць «сэнс» піраміды. Я ж не вінаваты, што ты жывеш далёка і што да вас не даходзіць найноўшая мастацкая інфармацыя. Калі выданьне мае быць постмадэрністычным, то й назоў павінен быць адпаведным. А «Піраміда» ня горш за «Абсяг». Вось я, напрыклад, не адкідваю кандыдатуру твайго назову, а ты адразу катэгарычны! Што тычыцца назова «Міф», то я, дружа, ведаю, па Ластоўскаму — «Міт», гэтаксама як шкура — скура. Ведаеш, самы, бадай, дакладны назоў, на якім мы спыніліся (я, Пацюпа і Сідарук), — гэта «Кантэкст». Вельмі надзённы назоў. Зрэшты, мы ж зьбіраемся на нараду ў Вільні, каб абмеркаваць усе арганізацыйныя пытаньні.

Нам, дарагі мой, трэба дакладна дамовіцца наконт тэрміну сустрэчы ў Вільні. Бо да мяне тады прыедзе І.Сідарук, і мы зь ім цягнікам пад'едзем. Галоўнае, каб не разьмінуцца! Думаю, зручней усяго гэта зрабіць недзе ў пятніцу — нядзелю. Дату ўзгоднім.

Пацюпа выказаў думку: «А ці ня будзе дыктату з боку Аркуша — Мінкіна — Мудрова?» Гэтае пытаньне я адрасую табе. Крышачку растлумачу. Я вырашыў, што часопіс лепей выдаваць у вас, бо ты маеш досьвед і ведаеш, дзе набыць паперу і г.д. Але пытаньні пабудовы, мастацкага аздабленьня, падбору матэрыялаў трэба вырашаць разам, калегіяльна. Каб не было недарэчнасьцяў і непаразуменьняў. Мяркую, што і Алег Мінкін далучыцца да нас.

Ці чытаў у «Звяздзе» за 30.01.93, што пісьменнікі-камуністы прагнуць далучыцца да Бялова, Бон-

дарава і Распуціна (г.зн. аднавіць былы СП СССР)? Так што хай у Саюзе пісьменьнікаў ня баюць байкі. Адкат да старых часоў відавочны!

Што ж, дарагі Алесь, пакуль разьвітваюся і чакаю зьвестак. Спадзяюся, сустрэнемся ў Вільні й вырашым усе справы. Галоўнае — вызначыць тэрмін і не разьмінуцца.

Пакуль. Твой Юра.

3.03.1993
Гародня

* * *

«Крыніцы» пачалі занепадаць, калі Ўладзімер Арлоў, «зорны» старшыня літаб'яднаньня, у 1989 годзе пакінуў сваю пасаду і зьехаў у Менск. Спачатку ён жыў у сталіцы дзе прыйдзецца, часам у падвалах-майстэрнях мастакоў. З дапамогай старэйшых пісьменьнікаў уладкаваўся працаваць у выдавецтва «Мастацкая літаратура». Неўзабаве перавёз у Менск і ўсю сваю сям'ю. Зьехаў у Менск і Лявон Баршчэўскі, які ў 1990 годзе стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Ідэя ўтварэньня сваёй пісьменьніцкай арганізацыі дарэшты паланіла мае думкі. Я шукаў падтрымкі ў іншых аўтарытэтных літаратараў малодшага пакаленьня. Дасылаў лісты з прапановамі разам утварыць незалежную суполку. Але, як правіла, не знаходзіў разуменьня. Пэўныя надзеі я ўскладаў на Алега Мінкіна. Любіў яго вершы і лічыў сваім настаўнікам. Мінкін у той час пераехаў у Вільню. Нейкі час ён працаваў

у адноўленай Сяргеем Дубаўцом легендарнай газэце «Наша Ніва». Але неўзабаве разышоўся з былымі паплечнікамі і зь імпэтам заняўся ўласнымі бізнэсовымі справамі. Балазе, наступілі смутныя часы развалу Савецкага Саюза, і ў каламутнай вадзе разьвітаньня зь мінулым найбольш спрытныя людзі стваралі сабе першапачатковыя капіталы. Мінкін з галавой акунуўся ў розныя мудрагелістыя бізнэс-камбінацыі.

Час ад часу ён наведваў Полаччыну, бо ў Наваполацку ў яго жыла родная сястра. Мы зьбіраліся ў мяне — я, Мінкін, Мудроў, — размаўлялі да ночы. Мінкін частаваў нас рознымі экзатычнымі напоямі і распавядаў пра свае бізнэс-прыгоды. Пляскаў па плячы Мудрова і жартаўліва казаў: «Вось так, Вінцік!» Маўляў, вучыся, як трэба жыць. Калі мы пачыналі размову пра незалежную літаратурную арганізацыю, ён ня вельмі нас слухаў, казаў, што прыйшоў час літаратараў-самотнікаў, безь ніякіх арганізацыяў і структураў, а кнігі свае ён здолее выдаць сам, былі б толькі грошы.

Неяк прыканцы лютага мы з Тацянай прыехалі да Мінкіна ў Вільню. Віленскай нарады не атрымалася: ані Гумянюк, ані Сідарук не прыехалі. Было па-зімоваму холадна. Вільня выглядала як прыфрантавы горад часоў Другой усясьветнай вайны, калі ў цёмны час сутак абавязковая сьвятломаскіроўка. Вуліцы не асьвятляліся. Электрычнасьць у кватэры падавалі па гадзінах. Мінкін вазіў нас на машыне па Вільні, паказваў места. Наведалі кавярню ў нейкіх змрочных паўцёмных сутарэньнях. Алег узьнёсла распавядаў пра свае пляны і пэрспэктывы. Ніякай сур'ёзнай размовы ў мяне зь ім не атрымалася.

Па вяртаньні ў Наваполацак я напісаў ліст Гуменюку, маўляў, усё, чакаць больш ня мае сэнсу, ствараем арганізацыю з таго, што маем.

Яшчэ раней, пасьля непрацяглай дыскусіі, мы вырашылі, што нашая суполка будзе называцца Таварыства Вольных Літаратараў.

* * *

Прывітаньне, Алесь!

Вось атрымаў твой ліст. Так, я чакаў, пакуль ты адгукнесься пасьля падарожжа ў Вільню і распавядзеш аб усім больш падрабязна. Ведаеш, у Вільню зараз тэлефанаваць накладна. Так што выбачай, што я быў вельмі «кароткі» ці «ляканічны» падчас апошняй размовы. У студзені наразмаўляў з Алегам Мінкіным амаль на 920 р! Дык Алег ня будзе ўдзельнічаць у ТВЛ? Раней я зразумеў, што ён ня супраць, бо плянуе ў «Полацкай лядзе» выдаць кнігу прозы. А слова — вольных — трэба абавязкова захаваць, бо інакш губляецца ўвесь смак назвы ды і сэнс нашай дзейнасьці і згуртаваньня. Так, зараз, калі не «нашумець», то аніхто ня зьверне ўвагі. Адзіная перашкода — вялікая адлегласьць (у геаграфічным сэнсе, не ў духоўным) спаміж намі...

Безумоўна, трэба сур'ёзна папрацаваць над паперамі. Толькі я не арыентуюся, што ты маеш на ўвазе пад словам «статут». Над чым яшчэ трэба папрацаваць? Думаю, што жорсткія «маніхвэсты» і строгія «канцэпцыі» нам не адпавядаюць, хаця нейкая нонканфармісцкая канцэпцыя павінна быць, нейкая тэорыя заўсёды не зашкодзіць. Твой артыкул «Без надрыву, роўным голасам» не зьяўляецца літа-

ратуразнаўчай працай. Гэта таксама ня крытыка, як напісалі ў «ЛіМе». Карацей — публіцыстыка. Мы з Пацюпам троху глыбей займаемся тэорыяй літ-ры і крытыкай. Але трэба неяк разам вызначыць канцэпцыю. Можа, ты накідаеш прыкладны статут і дашлеш? Мо мы ўнясем якія карэктывы. Зрэшты, напішы, якія ты маеш на ўвазе «паперы» ўвогуле...

Ты вось пытаўся пра Пацюпу. Зараз ён у Менску на нейкай канфэрэнцыі. Аднак Анэля (Анэля Дабравольская — тадышняя жонка Юрася Пацюпы. — А.А.) ужо падрыхтавала ўласны зборнік і нават перадрукавала. Я, відаць, вазьму пачытаць, каб мець нейкае цалкавітае ўражаньне. Мо прапануем у «Полацкую ляду». Зараз я працую над уласнай кніжачкай «Тэксты пірамідаў». Мо заплянуеш мяне на пачатак 1994-га? Рукапіс прывязу альбо на «кангрэс», альбо пазьней дашлю ўлетку. Увогуле, у ліпені я еду ў Польшчу на цэлы месяц. Зрэшты, каб не губляць час, пачынаю перадрукоўваць. Тым больш ужо неяк дамаўляліся наконт гэтага па тэлефоне...

А калі ты дакладна зьбіраесься пад'ехаць у Менск? Мо й я туды пад'еду напрыканцы сакавіка. Якраз нагода для сустрэчы. Ведаеш, я б прыехаў у Вільню, калі б слухаўку тэлефона падняў Алег, а не ягоная жонка. Зь ім бы я дамовіўся, тым больш ты ўжо ў гэты час прыехаў. Вы б мяне сустрэлі і г.д. Як наконт Менску? Праўда, дзе ж бы нам сустрэцца? У каго ты спыняесься ў Менску? У Арлова? Зрэшты, трэба загадзя дамовіцца.

Зараз чытаю «Лабиринт/Эксцэнтр (современное творчество и культура)» №3. Можна толькі пазайздросьціць, як наладжана справа выданьня незалежных часопісаў у Расеі. «Л/Э», зразуме-

ла, выданьне супэрмадэрновае з адмысловым мастацкім аздабленьнем у колеры і файным зьместам. Яны друкуюць і пераклады замежнага авангарду, і спадчыну (Увядзенскі, Хармс і г.д.), і культуралягічныя, тэарэтычна-крытычныя рэчы. Карацей, Беларусь ня мае такіх выданьняў. «Першацвет» №2 ужо далі ў кіёскі «Саюздруку». Але нешта ніхто не бярэ.

Вось такія, дружа, справы. Нядаўна тэлефанаваў Вінцэсю, віншаваў з выхадам «Жанчынаў ля басейна». Ты, Алесь, меў рацыю: Вінцэсь клясны, да таго ж шчыра падтрымлівае ідэю ТВЛ. Як справы з «Ксэраксам Беларускім» №4?

Твой Юра.

3-4.03.1993
Гародня

P.S. Тэрмін «кангрэс» ты вызначыў файны. Так, недзе на пачатку траўня якраз і правядзем.

* * *

Алесь, прывітаньне!

Вось, нешта напісалася для «Ксэракса Беларускага» №5.

Ю.Гумянюк даслаў ліст. Піша, ты заклапочаны: з кім я? Адказваю: з вамі! Пакуль у Саюзе пісьменьнікаў будзе шыбуршыць усялякае камуняцтва, мне туды дарогі няма.

Так што не засмучайся. «Мы выйдзем шчыльнымі радамі!..»

На якое прыблізна чысло прызначаны наш Кангрэс? Было б добра, каб не на самы пачатак траўня. У першых чыслах. Бо інакш я проста не змагу... (Сямейныя, чорт іх бяры, праблемы.)

Як увогуле рухаюцца справы? Як там БНФ-ны рух і інш. у Наваполацку пасьля вядомых падзеяў?

Я ў гэтыя дні якраз быў у Менску, на пляцы. Свалачныя СМІ нідзе нават не заікнуліся, што два дні народ стаяў на пляцы, скандуючы «Халуі!», «Здраднікі!», «Вандэя!», «Фашысты!».

Ідзе жорсткая чырвоная дыктатура...

Нічога, рана ці позна яе звалім!

Будзь здаровы!

Ігар
11.04.93

* * *

У Менску ў нас зь Юрам была сур'ёзная справа. Мы павінны былі сустрэцца са Славамірам Адамовічам і канчаткова разам абмеркаваць дэталі ўстаноўчага сходу ТВЛ. Папярэднюю дамоўленасьць пра ягоны ўдзел у «кангрэсе» мы мелі, але варта было яшчэ раз паразмаўляць. На пачатку 1993 году «Полацкае ляда» выдала адамовічаўскую кнігу «Зямля Ханаан», якая была прыхільна сустрэтая беларускай крытыкай. Адамовіч, акрылены, пачаў складаць для нас новы зборнік. У гэты час якраз і разгарэўся скандал вакол яго імя. Славамір напісаў артыкул у маскоўскую «Литературную газету» пра тое, як яго вэрбаваў беларускі КДБ. Артыкул надрукавалі — па ўсім Савецкім Саюзе крочыла «пе-

рабудова». Многія былыя сябры і знаёмыя адвярнуліся ад Адамовіча. Не спадабалася гэтая гісторыя і Гуменюку. У адным зь лістоў ён напісаў мне: «Я ведаю, што ў менскім літасяродзьдзі пасьля гэткага ўчынку многія адвярнуліся ад Славіка, лічылі яго фіскалам, здраднікам і т.п.; некаторыя пачалі распускаць брудныя плёткі. Я быў у Менску ў той час, як выйшла гэтая «споведзь». У масарэнкавых «Крыніцах» беднага Славіка паносілі апошнімі словамі. А сам Славік хлопец неблагі. Мусім яму дапамагчы. Тым больш, што чалавек адважыўся на такі крок — надрукаваў сваю споведзь у «Литературной газете»! І паэт ён выдатны».

У Менску мы купілі пляшку ліквора «Амарэта» і пашыбавалі ў інтэрнат да Славаміра. Гаспадар сустрэў нас у гарнітуры, у белай кашулі і за накрытым сталом.

— О, якія мы важныя госьці! — узрадаваўся Гумянюк.

Пасьля другой-трэцяй чаркі Юра перайшоў да справы.

# *Частка трэцяя*

Праз год мы зноў атрымалі запрашэньне на «Басовішча». Гэтым разам вырашылі дабірацца на Беласточчыну самастойна — цягнікам. Наўрад ці гэта была добрая ідэя. Білеты з Полацка да Беластока купілі без праблем, але самыя танныя. Гэта азначала, што з камфортам на Захад не паедзем. Цягнік быў настолькі забіты пасажырамі, што нам на ноч давялося заняць трэція полкі. Больш ніколі ў жыцьці мне не надарася так экзатычна, як у якой-небудзь цэнтральнай Азіі, падарожнічаць. За білеты трэба было заплаціць валютай. Ясная справа, што яе ў нас не было ў прынцыпе. Ды адкуль яна магла ўзяцца? І зноў нас выручыў Наваполацкі гаркам камсамола (ён яшчэ тады існаваў) — выдаткаваў на паездку «замежныя» грошы: крыху даляраў і крыху нямецкіх марак. Напэўна, далі тое, што мелі. Агульны білет на ўсіх, як самае дарагое, даручылі захоўваць мне. І валюту таксама.

Няцяжка здагадацца, у якой спартыўнай форме мы прыехалі ў Беласток. У мяне так балела сьпіна, што я амаль цэлы дзень ня мог нават сагнуцца.

Запомнілася, як «Мясцовы час» напрыканцы выступу «Мроі» выйшаў на сцэну і ўсе разам выканалі песьню: «Наш карабель далей плыве, наш рок-н-рол яшчэ жыве». Атрымалася супэрскі!

Ехалі мы ў Беласток праз Гародню. Тады яшчэ цягнік хадзіў на Варшаву праз родны горад Гуменюка, гэта цяпер ужо ходзяць толькі празь Берасьце. Я даслаў сябру тэлеграму — у колькі будзем на гарадзенскім вакзале, няхай бы падышоў, пабачыліся б. Па вяртаньні ў Полацак мяне чакаў ад яго ліст.

Прывітаньне, дарагі Алесь!

Так, я бачыў тваю няўцямную тэлеграму і хадзіў на вакзал, каб сустрэцца, бо думаў, што ты хочаш спыніцца перад паездкай у Польшчу і г.д. Я шукаў цябе амаль 40 хвілін, пакуль ня ўбачыў вас праз бруднае шкло акна, як вы сядзелі ў «мытным куфэрку». Потым пагранічнікі й мільтоны ўсё перагарадзілі, і мне засталося толькі празь вялікую адлегласьць назіраць, як ты зь «Мясцовым часам» ішоў да цягніка з торбамі ды інструмэнтамі...

Горадня, 6-7.08.1992. Юры Гумянюк.
14 лютага (нядзеля), Менск, 93 г.

* * *

Мой тагачасны артыкул, які ня быў надрукаваны.

Усе разам вярталіся са Спаса-Эўфрасіньнеўскага манастыра. У той час, здаецца, яшчэ не было вядома, што манастыр адродзіцца і ў яго вернуцца, нібы-

та зь якойсьці страшна далёкай і цяжкай вандроўкі, манашкі. Тады ўсё яшчэ больш гаварылі, чым рабілі. Больш абяцалі, чым выконвалі абяцаньні.

Вярталіся ўсе разам — піцерскія і полацкія музыкі гуртоў «Сезон дождей» і «Мясцовы час». Тады рок-мэны былога СССР былі жаўнерамі адной музычнай харугвы — андэграўнду. Ніхто не насіў нашывак і ромбікаў у пятліцах. Гэтакі братэрскі хаўрус. Піцерцы з даўгімі, для правінцыі — з задужа даўгімі, — валасамі. Адукаваныя. Рок-інтэлігенцыя. Палачане — падлеткі, навучэнцы мясцовага палітэхнікума, якія вось ужо другі год асьвечаныя рок-музыкай. Яны гаспадары. Упершыню апякуюць гасьцей такога ўзроўню. І, відаць, упершыню адчуваюць, наколькі патрэбныя ім сьвятыя мясьціны роднага горада (далейшы маршрут — Сафійка). Піцерцы ўражаныя — «як у вас ціха, сьветла, велічна».

Чарговы свой саматужны відэакліп хлопцы з «МЧ» вырашылі здымаць у Сафійскім саборы. «Апэрацыю» трэба было правесьці ціха і хутка. З вартаўнікам храма, дзякуючы пляшцы, агульную мову знайшлі адразу. (Спадзяюся, за даўнасьцю гадоў ніхто яго ня будзе прыцягваць да якой там ні было адказнасьці.) Кліп здымаў Ігар Супранёнак ноччу. Атрымаўся ён, на жаль, задужа эклектычным. Сафійка патрабавала іншай музыкі. Аднак з дакладнасьцю можна сказаць, што тая ноч не была для хлопцаў марнай.

Шкада — я ніколі ня быў у Сафійцы пасьля апоўначы.

Алесь Кузьмін прапанаваў мне зьезьдзіць у Спаса-Эўфрасіньнеўскі манастыр сам. Спаса-Ўзьдзьвіжанская царква яшчэ стаяла ў рэстаўрацыйных

рыштаваньнях. Мы прайшліся па тэрыторыі манастыра. Спаская царква была зачыненая. Абышлі вакол яе некалькі разоў, уважліва разглядаючы суседзкія могілкі сьвятароў. (Як высьветлілася, магілак вакол Спаскай царквы павінна быць значна болей, сёньня грудкі ўзнаўляюцца.) Затым прайшліся далей за царкву да рачулкі Палата. Алесь пачаў узгадваць сваё дзяцінства. Як купаўся зь сябрамі недзе тут непадалёку. Што рэчка была глыбейшая. Узгадаў свайго бацьку. Звычайна так аддаюцца ўспамінам людзі больш сталага веку. Я слухаў, маўчаў. Кожнае наведваньне гэтых мясьцінаў для мяне было цікавай, прыемнай экскурсіяй, успамінаў яно не выклікала, толькі нейкае няўлоўнае хваляваньне.

Кузьмін сам выказаў жаданьне прыняць таемнасьць хрышчэньня. Абрад адбыўся ўсё ў той жа Спаскай царкве. Пазьней, калі ў Полацку зьявіліся свае ўніяты, Алесь Кузьмін і Руслан Парфёнаў далучыліся да іх. Алесь нават удзельнічаў у спробе ўсталяваньня крыжа ў дзень юбілею сьмерці сьвятога грэка-каталіцкай царквы Язафата Кунцэвіча ў Віцебску. Аднак гарадзкія ўлады з дапамогай міліцыі ўсталяваць крыж не дазволілі.

Альбом «Ускраіна» ствараўся ўжо з новымі ідэямі, думкамі, пачуцьцямі.

Ты, забыты храм,
Устань ад чорных ран,
Настаў вяртаньня час.
Звон тваіх званоў
Будзе ліцца зноў,
Склікаць дадому нас.

«Доўгі шлях дамоў»

Новы дзень, што ты прынёс —
Радасьць, а можа сьмерць.
Падкажы, сумны мой лёс,
Што Богам дадзена мне.

«Я жыў»

Альбом атрымаўся нечаканы нават для мяне. Прыемна нечаканым.

Шмат у чым я падзяляю погляды Кузьміна. Яны ў нечым кансэрватыўныя. Але гэты кансэрватызм як глеба, як каардынаты быцьця, як працяг шляху крэўных папярэднікаў. У кагосьці падобная цьвярозасьць і «маральны гарт» выклікае страшэнны сум. Рацыяналізм у квадраце. Ці можа ён вывесьці да творчага палёту, да разьняволеньня душы? Асабліва «рокерскай» душы? «Трэба працаваць, — кажа ў гэтым выпадку Кузьмін, — палёт павінен быць у творчасьці». Рэцэптаў, праўда, ён ніякіх не дае, творчасьць — справа індывідуальная. І наогул, маўляў, ніякіх рэцэптаў не існуе. Ня трэба нікога вучыць. Трэба працаваць — і ўсё. Калі табе дадзена — дык абавязкова атрымаецца.

Падчас вяртаньня цягніком зь Менску ў Полацак (з Полацку ў Менск цягнік ідзе ноччу — і таму ўсе сьпяць) заўсёды на працягу сямі гадзін размаўляем. Пра расейскую рок-музыку. Пра заходнюю. Пра беларускую. Пра пляны, жаданьні, прагнозы. Жыць заўтрашнім днём цяжка. І ў той жа самы час цікава, азартна. Адчуваеш сябе ў руху... з абавязкам. Ззаду неруш.

Пасьля абвяшчэньня пераможцаў фэстывалю «Наваполацак-89» мы сядзелі за адным сталом у буфэце Палаца культуры нафтавікоў: Леанід Барт-

кевіч, Сяржук Сокалаў-Воюш, Алесь Кузьмін, Валеры Драко і я. Барткевіч віншаваў і павучаў лідараў «МЧ». Маўляў, «Мроя» і «Мясцовы час» зараз, па гарачых сьлядох, павінны дзейнічаць. Патрабаваць ледзь не менскі Палац спорту. Кузьмін пасьміхаўся, Драко маўчаў. Здаецца, толькі нядаўна амаль увесь рэспубліканскі друк дыхнуў цмокаўскім жарам на гэтыя гурты ў «славутым» артыкуле «Пена на хвалі перабудовы». А тут адразу Палац спорту. Па сёньняшні дзень, а «Мясцовы час» ужо трывала ўвайшоў у вышэйшую лігу беларускага року, гурту не выпадала выступаць на першай канцэртнай пляцоўцы рэспублікі. Барткевіч зьехаў у ЗША, і болей ніхто не прапаноўвае прасіць Палац спорту.

А хлопцы зь «Мясцовага часу» працягваюць працаваць. Паціху ствараецца новы альбом. Даецца ён няпроста. Яшчэ ўчора здавалася, што праца будзе няцяжкай: быў назапашаны музычны матэрыял, нават некалькі цалкам гатовых «рэчаў». Цяпер практычна ўсё забракавана. «Павінен быць рост. Адчуваем — можам лепш», — гавораць музыкі. Рэпэтыцыя за рэпэтыцыяй. Праца. У студыйных і самаробных запісах (нават разам з самымі першымі тэхнікумаўскімі) заархівіравана недзе каля дзесяці адсоткаў са створанага. Можа так здарыцца, што для гісторыі захаваецца толькі тое, што хлопцы маюць сёньня: няякасныя гуказапісы, фотаздымкі, аматарскае відэа. Для беларускай культуры звыклая гісторыя.

* * *

Прыяжджаў Алег Мінкін. Распавядаў пра свой новы «бізнэс-праект» — прадае за мяжу лом ка-

ляровых мэталаў. Кажа, што грошы патрэбныя і на ягоныя выдавецкія праекты. Неўзабаве Мінкін пачаў выдаваць у Вільні газэту «Рунь» і кнігі — пераважна мэмуары дзеячоў беларускай эміграцыі. Зьмест пэрыёдыкі арыентаваўся ў асноўным на далёкае замежжа, дзе Мінкін і шукаў фундатараў. Праўда, некалькі сотняў асобнікаў «Руні» ён дасылаў у Беларусь — на адрасы актывістаў беларускага руху. Атрымліваў «Рунь» і я. У газэце друкаваліся, як правіла, прадстаўнікі заходніх беларускіх дыяспар. Мяне асабіста ягоная газэта ня вельмі цікавіла. На той час па макаўку галавы я быў захоплены праблемамі найноўшай беларускай літаратуры і сучаснымі мадэрнісцкімі плынямі ў ёй.

* * *

Добры дзень, Алесь!

Аддрукаваў для «Ксэракса Беларускага» дзьве свае рэчы. Цяпер пішу ліст, а па радыё чытаюць урывак з Максімавых «Дзьвюх душ». Як глыбока, блізка! Ё-маё, халера! Во сіла! Дастаў ён нашыя болькі на божы сьвет, як ніхто. Караткевіча вось узгадаў, параўноўваю, дык ён выглядае на фоне Гарэцкага хлапчуком, што начытаўся летапісаў ды ўплёў гэтыя кніжныя зьвесткі ў свае фантазіі, якія, што праўда, былі ў Валодзькі багатымі. Але душу па кніжках ня вывучыш...

Але пра наша. «КБ-3» бачыў у шапіках і ў «Выбранцоў». Прадаюць. Набыў табе ў «Сьветачы» анталёгію эміграцыйнай паэзіі. Яшчэ гэтыя кнігі прадаюцца.

Што да афіцыйнага Саюза пісьменьнікаў, дык спробы «ўлезьці» я ўжо пакінуў. Тузаюць час ад часу за штрыфлі: ну што, ці ў СП? ці ўсе рэкамэндацыі сабраў? і г.д. Вольны я, вольны, таму заўсёды да Вашых паслугаў, ТВЛаўцы!

Хадзі здаровы і твая сямейка!

Slavamir

* * *

8 траўня 1993 года ўначы да мяне прыехалі Юры Гумянюк, Ігар Сідарук, Славамір Адамовіч, Юрась Пацюпа і Анжаліна Дабравольская — галоўныя тэвээлаўскія сілы. Крыху праспаліся, пасьнедалі і пачалі нараду. Найперш трэба было абмеркаваць заяву, якую мы павінны былі прыняць па сканчэньні працы «кангрэсу». Тэкст заявы напісаў я. Пасьля дробных правак нарада заяву зацьвердзіла. Затым мы абмеркавалі праграму «кангрэса», статут ТВЛ і іншыя арганізацыйныя пытаньні. Найбольш спрэчны пункт у статуце датычыў забароны тэвээлаўцам быць сябрамі якой-кольвечы іншай літаратурнай арганізацыі. Гэта азначала, што нельга было ўступаць у Саюз пісьменьнікаў — адзіную на той час пісьменьніцкую арганізацыю, сяброўства ў якой давала шматлікія ільготы — ад атрыманьня кватэры да наведваньня пісьменьніцкіх санаторыяў. Напярэдадні ўстаноўчага сходу некаторыя будучыя тэвээлаўцы крытыкавалі гэты пункт, ініцыятарам якога быў я. Маўляў, ён абмяжоўвае волю вольных літаратараў. Але тут мяне моцна патрымаў Юры Гумянюк і ўсе пагадзіліся, што сур’ёзныя рэчы трэба рабіць па-сур’ёзнаму.

Устаноўчы сход ТВЛ адбываўся ў будынку навапалацкага Цэнтру рамёстваў, у так званым «чырвоным доме», які некалі ўзьвялі польскія спэцыялісты, што будавалі нафтаправод «Полацак-Мажэйкяй».

Калі мы сваім гуртом узьняліся на другі паверх будынка, там ужо нас чакалі ўсе астатнія запрошаныя на «кангрэс». Былі тут і Вінцэсь Мудроў з Алесем Касьценем. Зь Менску прыехалі Сяржук Мінскевіч, Алесь Туровіч, Мікола Касьцюкевіч і Юрась Лаўрык. Усіх было чалавек трыццаць разам з журналістамі.

«Кангрэс» пачаўся са знаёмства прысутных. У «прэзыдыюм» селі Юры Гумянюк, Славамір Адамовіч і я. Практычна мы і вялі сход. Спачатку прысутныя абмеркавалі літаратурную сытуацыю, якая паўстала пасьля развалу Савецкага Саюза. Большасьць выступоўцаў казалі, што ніякай перабудовы ў літаратурнай гаспадарцы краіны не адбываецца. Па-ранейшаму мастацкія кнігі выходзяць пераважна ў адным выдавецтве — «Мастацкая літаратура», — і іх выхад аўтары чакаюць па некалькі гадоў. Усё гэта зроблена дзеля таго, каб уладзе было лацьвей кантраляваць літаратурны працэс у рэспубліцы. Мы казалі, што нашая ініцыятыва павінна абудзіць рэгіёны краіны, дзе варта ствараць уласную літаратурную інфраструктуру — з выдавецтвамі і рэгіянальнымі літаратурнымі пэрыёдыкамі.

Затым пачалося абмеркаваньне статута ТВЛ і выніковай заявы. Ніякіх дыскусій адносна гэтых дакумэнтаў ня ўзьнікла. Затым мы прагаласавалі за ўтварэньне Таварыства Вольных Літаратараў і абралі кіруючы склад. Галоўным каардынатарам Та-

варыства прызначылі мяне. Намесьнікам — Юрыя Гуменюка. У склад Рады ўвайшлі: Славамір Адамовіч, Вінцэсь Мудроў, Ігар Сідарук і Юрась Пацюпа.

Найбольш горача мы абмяркоўвалі пытаньне ўласнага пэрыёдыка. Аўтаматычна «Ксэракс Беларускі» рабіўся тэвээлаўскім альманахам. Але мы па-ранейшаму марылі пра свой часопіс. І тут узяў слова Алесь Касьцень, які сказаў, што ён гатовы выдаць у Паставах першы нумар нашага часопіса, але пэрыёдык павінен называцца «Калосьсе». Сытуацыю ён патлумачыў наступным чынам: маўляў, стварыць часопіс «Калосьсе» — даўняя мара пастаўскіх літаратараў. Але ў іх няма творчага патэнцыялу, каб замахнуцца на свой сталы пэрыёдык. Пакуль што дастаткова альманаха «Рунь». Але ён, Касьцень, мае фундатараў, якія гатовыя аплаціць выхад першага нумару часопіса накладам у тысячу асобнікаў, але менавіта з назваю «Калосьсе». Тут усчалася спрэчка. Славамір Адамовіч заявіў, што ў нас ня можа быць пэрыёдыка з такой назвай. Калі мы хочам нешта рабіць па-новаму, то трэба гэтае новае неяк адпаведна называць. Яго падтрымаў і Ігар Сідарук. Але тут узяў слова Юры Гумянюк і разруліў усю спрэчку: сябры, сказаў ён, перад намі такая дылема: або мы маем свой часопіс і ён называецца «Калосьсе», або мы ня маем нічога і гэтае «нічога» можам назваць як заўгодна. Пасьля такіх слоў спрэчка прыпынілася і большасьць з нас пагадзілася з прапановай Алеся Касьценя.

На ўстаноўчым сходзе была заснаваная і літаратурная прэмія ТВЛ за лепшую мастацкую кнігу,

якая, на маю прапанову, атрымала назву «Гліняны Вялес».

Калі тэвээлаўцы пачалі ставіць подпісы пад заявай аб утварэньні Таварыства Вольных Літаратараў, я згадаў, што Лявон Вольскі, лідар гурта «Мроя», таксама аднойчы выказаў пажаданьне далучыцца да нас. Але прыехаць на ўстаноўчы сход ня змог. Я патэлефанаваў Лявону, зачытаў яму нашую заявы. Лявон уважліва выслухаў і сказаў, каб паставілі пад заявай і ягонае прозьвішча.

Ужо 14 траўня тыднёвік «Літаратура і мастацтва» надрукаваў нататку «У вольны вырай», у якой распавёў пра ўтварэньне на Полаччыне Таварыства Вольных Літаратараў і працытаваў прынятую тэвээлаўцамі заяву:

«Мы вольныя ад догмаў, якімі кіравалася ўсё літаратурнае жыцьцё ў савецкай Беларусі, мы вольныя ад манапольнай літаратуры, мы вольныя ад чыёйсьці літасьці ў вырашэньні нашых літаратурных лёсаў; мы лічым, што гэтага дастаткова, каб называцца вольнымі... Камуністычная дэспатыя на Беларусі зьліквідавана, а ў літаратурным жыцьці рэспублікі нічога не зьмянілася. Прыйшоў час на практыцы ажыцьцяўляць зьмены...»

Пад гэтаю заяваю паставілі свае подпісы 16 літаратараў.

Падзею адзначалі ў мяне, балазе на той час я ўжо меў невялічкую аднапакаёўку. Амаль усе іншагароднія засталі начаваць — частка ў маёй аднапакаёўцы, частка ў суседзяў, якія зьехалі і пакінулі мне ключы ад сваёй кватэры. Толькі Славамір Адамовіч паехаў увечары ў Менск, бо пачуваўся нядобра і баяўся канчаткова захварэць. На наступ-

ны дзень мы наладзілі гасьцям працяглую выправу па Полацку.

* * *

Дзень добры, Алесь!

Добра, што я тады паехаў, бо толку ад мяне ў нядзелю было б мала.

Ледзьве я давалок свае косьці да бацькоў у вёску. Там два дні вылежваўся, маці адпойвала гатаваным малаком, травамі. Я нават пігулкі піў, хоць іх не выношу. Сёньня, дзякуй богу, пачуваюся ўжо нармальна. У гэтым зьвязку хачу спытаць — як твой малы? Ці здаровы? А то можа я паддаў (ня дай бог!) сваёй прастуднай заразы?

Пра нашы справы. Здаў у шапік Таварыства Беларускай Мовы нашых кніжачак па 20 штук. У Маладэчне кіёск ТБМ (здаецца, яму належыць) стаіць колам. Газэты й кніжкі ў ём парасьлі пылам. Як казаў мне маладэчанец Міхась Казлоўскі, хлопца, які там прадаваў, выжылі. Так што ў Маладэчне распаўсюджваць няма каму.

Шапік «Выбранцоў», які стаяў каля старога корпусу журфака (цэнтр сталіцы), таксама не працуе — прыкрылі гарадзкія ўлады. Застаўся тольві шоп у Шабанах, але там, як цьвердзяць хлопцы, літаратура перастала ісьці. Таму я «Выбранецкім шыхтам» таксама нічога ня здаў. Спрабаваў здаць у «Кнігарню пісьменьніка», але там хітралісыя, хочуць, каб я ставіў цану ў 5-10 рублёў, а яны будуць браць 25%. Скульля ім, як кажа С.Сокалаў, які Воюш. Лепей рэшту здам оптам прыватным распаўсюднікам. Ёсьць два такія, яны возьмуць.

Дарэчы, трэба падвезьці партыю літаратуры з тым, каб распаўсюджваць на Зьезьдзе Фронту 29-30 траўня. Таксама будзе добрая нагода для продажу — Усебеларуская канфэрэнцыя і Зьезд беларусаў сьвету.

Сільновай аддаў што трэба. У той жа дзень паглядзеў кніжкі ранейшага «Калосься» (усе нумары, якія мае Нацыянальная бібліятэка). Што ж, часопіс быў варты ўвагі, зьмястоўны. Яно й нядзіва! Працавалі ў ём майстры слова, вольныя ў думках людзі, адукаваныя. Адно слова — мэтры.

І вось тут я, ужо пісьмова і спакойна, яшчэ раз выказваю свае заўвагі наконт аднаўленьня часопісу. Першая і галоўная ўмова дзеля гэтага — наяўнасьць моцнага калектыву аўтараў, якія ня толькі захавалі б зьмястоўны ўзровень выданьня (адпаведны 30-м гадам), але й зь неўнікнёнасьцю падвышалі б яго, зважаючы на гады 90-я. На жаль, трэба прызнаць, што такіх сілаў у нас малавата, мякка кажучы. Дубавец з камандай пісаць нам ня будзе, бо ў яго свае заданьні. Таму аднаўляць «Калосьсе» — значыць рабіць загадзя горшы часопіс, чым ён быў. У любым выпадку аднаўленьне — вялікая адказнасьць.

Я ня супраць фінансавай дапамогі пастаўскіх хлопцаў, але катэгарычна супраць з парогу накінутых умоваў. Бач, у іх ужо і назва ёсьць, і вокладка, а вы толькі напаўняйце зьместам. Калі «Калосьсе» будзе адноўлена, то я вызваляю сябе ад абавязкаў рабіць яго і пісаць для яго. Больш на гэтую тэму не гавару.

Праўда, адначасова прапаную колькі назваў для новага часопіса, які нашыя людзі (мы) маглі б рабіць. Гэта:

— Варыянты —

— Правапіс — (аналягічна рускаму «Синтаксису», які, калі не памыляюся, выдаваўся ў Парыжы);

— Ь (мяккі знак) — (і «Правапіс», і «Ь» вельмі актуальныя назовы, калі зважаць на нашу культурамоўную сытуацыю; актуальнымі яны будуць яшчэ ой доўгі час);

— Крокі —

— І г.д.

Яшчэ раз нагадваю, у якім заганным коле назоваў мы круцімся цяпер: «Крыніца», «Першацьвет» (бяз «ь»), «Наша Ніва», «Рунь», нават «Белорусская нива» (каб цябе пярун!) — ну скрозь агранамастыка. Ну ды бог зь ёю!

Пра што яшчэ? Ага, працуе выстава Лёніка Тарасэвіча ў Палацы мастацтва. Да 14-га чэрвеня. Добра. Ва ўсялякім разе — нова і сьвежа. А ўсё пра тую ж ральлю, заўваж. Але па-свойму, сваё бачаньне баразны (блін, мяне гэтае «Калосьсе» на вушы паставіла!).

Думаю, будзе зроблены матэрыял на тэлевізіі і на абласным радыё з нагоды выхаду нашых кніжачак і ўтварэньня ТВЛ. Гэта незалежна ад той інфармацыі, якая ўжо прайшла і яшчэ пройдзе.

У другім канвэрце дасылаю арыгінальныя матэрыялы, складай там акуратненька ў Рэдакцыйную тэчку.

Такім чынам, «прошу прощения за дерзость слога», але — на тым стаім. І няхай каўкне той, хто нас ня любіць.

Найлепшыя пажаданьні Васпану з Паннай і Нашчадку!

Ваш пакорны служка — Славамір.

г. Менск,
траўня 15-га дня.

* * *

Найбольш акрыленым пасля ўтварэньня ТВЛ пачуваўся Юра Гумянюк. Гэта калі ў чалавека нарэшце спраўджваецца запаветная мара. Праз дзень ён мне пісаў лісты, у якіх фантазаваў адносна нашай сьветлай будучыні.

Дарагі Алесь!

Мінуў тыдзень пасьля «нараджэньня» ТВЛ, пасьля нашае сустрэчы ў Наваполацку. Я, напрыклад, пасьля «гістарычнае падзеі» пачуваюся цудоўна! Вось і ў «ЛіМе» Залоска надрукаваў інфармацыю. Праўда, крыху накруціў, але рэзананс ёсьць. Зрэшты, мы прыемна з Залоскам паразмаўлялі, ён пачаставаў кавай. Прысутнічала жонка Гіля (яна прыхільніца маёй паэзіі!), Вольскаму таксама перадаў матэрыялы. Так што файна!

Калі сустрэнемся зноўку? Мо напрыкацы чэрвеня ў Менску? Альбо ў жніўні ў Гародні?

Твой Юра

16 траўня 1993
Гародня

* * *

Ігар Сідарук па вяртаньні ў Кобрынь, таксама як і Адамовіч, напісаў мне ліст з крытыкай адносна назвы нашага будучага часопіса. Я адпісаў ліста, у якім тлумачыў, што ў нашай сытуацыі, калі ня маем ніякіх рэсурсаў, мусім прымаць любую дапамогу. І што нават такую «сельскагаспадарчую» назву можна напоўніць пэўным зьместам, таму, і ў гэтым упэўнены, — пісаў я сябру, — назоў «Калосьсе» хутка ў Беларусі будуць атаясамляць з самым сучасным беларускім часопісам.

Алесь, дабрыдзень!

Па вяртаньні зь Менску чакаў твой ліст. Што ж, аргумэнты сур'ёзныя, і, здаецца, мая залішняя катэгарычнасьць паціху затухае... Нават крыху забаўна гэта ўсё стала выглядаць. «Калосьсе» дык «Калосьсе»! Абы было чаму каласавацца. А ў нас, на шчасьце, здаецца, ёсьць. Таму — як у той гульні — «далей, далей, далей...»

Паціху ўключаюся ў працу. Цяжка пасьля такога працяглага перапынку. А тут яшчэ ня скончыліся гэтыя суды за мой артыкул у газэце — дэпутат Кучынскі падаў на перагляд у абласны. Чакаю цяпер тысячаў сто штрафу (ці як там гэтая трасца называецца).

Артыкул у «Брэсцкім кур'еры» яшчэ ня выйшаў. Можа, праз якіх некалькі нумароў. Буду сачыць.

Пакуль, пакуль!

Ігар

28.05.93
Кобрынь

* * *

Неўзабаве на ўтварэньне ТВЛ адгукнулася і «Звязда». Газэта надрукавала вялікі матэрыял Алеся Касьценя пад назваю «Мы хочам быць свабоднымі, або Ці патрэбна Саюзу пісьменьнікаў альтэрнатыва».

«Уласна кажучы, у Саюзе пісьменьнікаў карэнным чынам нічога не зьмянілася і цяпер. Ён па-ранейшаму калядзяржаўная структура зь нейкімі спробамі камэрцыйнай дзейнасьці. І, як усё калядзяржаўнае, завязанае на бюджэтныя ўліваньні, перажывае нялёгкія часы. Узяць тую ж выдавецкую дзейнасьць. У выдавецтвах аўтарам выплачваюць ганарар і просяць прабачэньня за немагчымасьць выданьня ўжо амаль гатовых кніг. Здольнасьцю дайсьці да чытача сёньня валодаюць альбо кнігі сапраўды вядомых пісьменьнікаў, альбо кнігі пісьменьнікаў толькі добра вядомых у пэўных выдавецкіх колах.

З другога боку, пасьля зьняцьця палітычных забаронаў па ўсёй рэспубліцы шырыцца і набірае моц беларускае кнігадрукаваньне, не абцяжаранае адзнакамі Саюза пісьменьнікаў. З назапашваньнем вопыту і зьяўленьнем багатых фундатараў павышаецца паліграфічная якасьць кніг. Новыя літаратурныя сілы гуртуюцца ў выдавецкія суполкі, бо сёньня толькі разам можна процівапаставіць дзікаму рынку беларускую кнігу.

Працэс натуральны, відаць, як і ва ўсіх цывілізаваных краінах, дзе пісьменьнік свабодны, але затое дбае ня столькі пра тое, як напісаць новую кнігу, колькі пра тое, як яе потым выдаць. І вось тут трэба адказаць на пытаньне, якое літаральна

лунае ў паветры: дык ці можа быць, ці патрэбная ў такіх умовах альтэрнатыва ці некалькі альтэрнатываў Саюзу пісьменьнікаў? Яшчэ ў 1989 годзе Васіль Быкаў на гэтае пытаньне адказаў так: "Калі мы сапраўды імкнемся пакончыць з тым, што перажылі, і стаць дэмакратычным грамадзтвам, то СП у тым выглядзе, у якім ён знаходзіцца сёньня, пісьменьнікам не патрэбны. І я лічу, што ў будучым на зьмену яму, відаць, прыйдуць добраахвотныя аб'яднаньні пісьменьнікаў на аснове агульнасьці мастацкіх поглядаў, этнічнай агульнасьці або проста чалавечых схільнасьцяў. Як гэта было часткова ў 20-я гады ў нас або як гэта мае месца зараз у заходняй літаратуры".

Бясспрэчна адно — стварэньне Таварыства адлюстроўвае прадказаныя Быкавым працэсы, якія ў суседзяў ідуць ужо вельмі бурна, а ў нас пачынаюць першымі ручаямі падточваць сумёты заледзянелых яшчэ сталінскіх утварэньняў».

* * *

21 чэрвеня большасьць тэвээлаўцаў сабралася ў Менску ў студыі тэлецэнтра. Паэт Леанід Галубовіч, які ў той час працаваў на тэлебачаньні, задумаў зрабіць адмысловую перадачу, прысьвечаную ўтварэньню ТВЛ. Прычым перадача павінна трансьлявацца ня ў запісе, а ў прамым этэры. Акрамя мяне ў ёй узялі ўдзел Юры Гумянюк, Славамір Адамовіч, Ігар Сідарук, Лявон Вольскі, Юрась Пацюпа, Анэля Дабравольская. Разам зь Леанідам Галубовічам вядоўцам перадачы быў малады крытык Сяргей Кавалёў.

Перад пачаткам этэру я пагутарыў зь Лявонам Вольскім.

— Ну ня соладка будзе. Розныя чуткі ходзяць. Той-сёй падтруньвае, што тэвээлаўцы будуць вольныя ад літаратуры, — сказаў Вольскі.

— Пабачым. Усё будзе залежыць ад нас саміх.

У гэты ж дзень дамовіўся зь Лявонам, што ён дашле ў «Полацкую ляду» рукапіс свайго зборніка вершаў. Вольскі апэратыўна выканаў сваё абяцаньне і неўзабаве ў Наваполацку выйшаў ягоны зборнічак «Калідор».

Падчас тэлеперадачы гучалі развагі пра тое, што прыйшоў час разьняволіць беларускую літаратуру, якая захрасла ў двух тэмах — жыцьцё вёскі і Вялікая Айчынная вайна. Што варта ствараць новую ўрбаністычную літаратуру, а таксама пашыраць жанравыя і эстэтычныя далягляды беларускага прыгожага пісьменства.

Пасьля тэлевізійнага этэру пайшлі адзначыць падзею на кватэру да Галубовіча. Размаўлялі і спрачаліся да ночы. Раніцай наступнага дня я вярнуўся ў Полацак.

* * *

Лявон Вольскі, на жаль, не памыліўся ў сваіх прагнозах. Першым адчуў непрыхаваную варожасьць да ТВЛ у літаратурных колах Юры Гумянюк.

Дарагі Алесь!

Дзякуй табе за больш-менш грунтоўны ліст, за тое, што «разьвеяў» маю заклапочанасьць. А яна вырасла не на пустой глебе. Надта ж я хвалююся за

лёс ТВЛ і «Калосься», бо пасьля лімаўскай публікацыі зьявілася шмат незадаволеных нашай дзейнасьцю, у тым ліку і ў неафіцыйных колах. Ня буду згадваць пра Менск, а ў нас у Гародні сытуацыя была заўсёды напружанай. Хаця мне гэта, так бы мовіць, «да сярэнявай зьвязды», бо я адстойваю пазыцыі ТВЛ. Многія нашы ўнівэрсытэцкія выкладчыкі лічаць, што стварэньне ТВЛ спрыяе расколу «беларускага руху», маўляў, зараз патрэбна адзінства і г.д. Гэта, канешне, наіўныя аргумэнты, яны ў прынцыпе не перашкаджаюць працаваць.

Ладна, ня буду распускаць «буклі». Усяго найлепшага. Віншую (крыху запозьнена) з узростам Хрыста!

Заўсёды твой Юра

3.06.1993
Гародня

* * *

14 ліпеня ў менскім Доме літаратараў мы правялі Другую ўстаноўчую нараду ТВЛ. Гэта была хутчэй тэхнічная нарада дзеля падрыхтоўкі дакумэнтаў для рэгістрацыі ў мін'юсьце. Юры Гумянюк на яе прыехаць ня здолеў. Акрамя мяне прысутнічалі Славамір Адамовіч, Ігар Сідарук, Юрась Пацюпа, Сяржук Мінскевіч, Алесь Туровіч і некаторыя іншыя маладыя сталічныя літаратары. З навічкоў запрасілі Сяргея Патаранскага. Рэй на гэтай сустрэчы вёў Адамовіч, якому «кангрэс» даручыў афіцыйнай рэгістраваць Таварыства. Славамір правёў папярэднія кансультацыі,

юрысты знайшлі ў нашым статуце недакладнасьці, якія трэба было выправіць. Таму на Другой нарадзе абмяркоўвалі толькі статут і шляхі рэгістрацыі ТВЛ. У гэты ж дзень мы зь Ігарам Сідаруком у інтэрнацкім пакоі Славаміра передрукавалі нанова статут ТВЛ.

* * *

Алесь, прывітаньне!

Як толькі буду бачыць кніжкі Вінцэся — абавязкова вазьму як мага больш. Але пакуль ня бачыў.

З кнігарняю так і зраблю. Вазьму нашыя кніжачкі, каб паказаць, і пайду, пайду... Нешта як атрымаецца.

29-га чысла «Вольная сцэна» ладзіць сваё адкрыцьцё, хачу дамовіцца з Мазынскім, каб недзе ў лістападзе разам з маёю «Галавою» наладзіць выступ-імпрэзу ТВЛаўцаў. Мазынскі ставіцца да ТВЛ даволі прыхільна. І яму будзе рэкляма, і нам карысьць. Думаю, можам даволі моцна прагучаць! Як глядзіш?

Прачытаў твой артыкул у «Выбары». Шкада, што нідзе болей яго не надрукуюць. Зрэшты, дэмакратычныя выданьні чытаюць даволі ўважліва, асабліва за мяжою. Так што, як гаворыцца, твой адказ на артыкул Ліны Караткевіч — аб’ектыўная дадзенасьць.

Да канца кастрычніка сыходжу ў «глыбокае падпольле». Трэба скончыць адну замоўленую рэч... Нават ня скончыць, а толькі напісаць першую частку. Але, калі што, адгукнуся заўсёды!

Прывітаньне ўсім палачанам-навапалачанам!

Ігар
16.10.93
Кобрынь

* * *

Алесь, прывітаньне!

Карацей, такія навіны. «Кнігарню», куды я заходзіў, празь некалькі тыдняў руйнуюць. Шкада, бо ў самым цэнтры горада. На тым тыдні пастараюся завітаць у іншую, думаю, дамоўлюся.

Днямі тэлефанаваў В.Мазынскаму. Ён прапаноўвае выступленьне ТВЛ на 1-га сьнежня. Я, у прынцыпе, пагадзіўся, бо лістапад для мяне вельмі нязручны. Дарэчы, 1.12 распачнецца нейкая драматургічная лябараторыя, будуць запрошаныя зь іншых рэспублік, таму нашае выступленьне зможа набыць больш шырокі рэзананс. Трэба толькі не забыцца на прэсу, радыё і г.д. Як лічыш, хто мог бы прыняць удзел у імпрэзе? З улікам, што багата часу нам не дадуць. Хвілінаў 25-30, кожнаму выступоўцу — па 5-6 хвілінаў.

Калі яшчэ не дасылаў мне «Ксэракс», то пастарайся крыху болей — асобнікаў 4-5. Добра?

Як табе апошняя заява Савета міністраў ад 5 лістапада 93 г.?

Разьвязваюць сабе рукі, каб пачаць удушэньне БНФ?

Аганізуюць хлопцы. Але, думаю, ужо нядоўга. Хаця... Калі людзям усё роўна — штосьці зьменіцца яшчэ няхутка.

Я буду ў Менску 18 лістапада — адкрыццё «Вольнай сцэны» на гэты дзень.

Крыху хварэю, таму ў творчае «крызе».

Будзьце здаровыя!

Ігар
6.11.93
Кобрынь.

* * *

Зь ліста Славаміра Адамовіча.

Адрасы, дзе можна набыць літаратуру ТВЛ:

1. Кіёск (шапік) у холе філфака БДУ (вул. К.Маркса);
2. Кіёск ТБМ (пр-т Ф.Скарыны, насупраць ГУМу);
3. «Кнігарня пісьменьніка» ў Менску (вул. Казлова і зав. Румянцава — на скрыжаваньні);
4. У Гародні — кіёск «Васілёк» па вул. Э.Ажэшкі і насупраць ГДУ (унівэрсытэт);
5. Штаб-кватэра БНФ у Менску (вул. Варвашэні, 8). Тэл. 33-50-12

* * *

Сябры ТВЛ горача абмяркоўвалі кандыдатуру першага ляўрэата прэміі «Гліняны Вялес». Юры Гумянюк катэгарычна даводзіў, што ім павінен стаць Славамір Адамовіч за зборнік «Зямля Ханаан». Маўляў, «Зямля Ханаан» якраз «цягне» на паэтычную кні-

гу года. Я, як мог, тлумачыў, што мы ня можам уганараваць саміх сябе — свайго сябра і кнігу, якую самі ж і выдалі. Праўда, празь некалькі гадоў мы ўсё ж далі «Вялеса» Адамовічу за кнігу «Каханьне пад акупацыяй», але там была зусім іншая гісторыя — Славамір толькі што выйшаў з турмы, куды трапіў за верш «Убей президента», і мы мусілі яго падтрымаць.

Ігар Сідарук лічыў, што першым нашым ляўрэатам павінна стаць Людка Сільнова за зборнік вершаў «Ластаўка ляціць...». Людка сапраўды стала нашым ляўрэатам, але крыху пазьней — за эксьпэрымэнтальную кнігу «Рысасловы».

Неяк мне ўдалося знайсьці кампрамісную фігуру — у 1993 годзе выйшаў незвычайны зборнік мэдыятыўнай паэзіі Ігара Бабкова «Solus Rex». Прапанаваў тэвээлаўцам зьвярнуць на яго ўвагу. І ўсе неяк хутка пагадзіліся, што, сапраўды, першага «Вялеса» трэба даць Бабкову. Ён сваёй творчасьцю выдатна пасаваў да адной з задач ТВЛу — пашырэньню эстэтычнага далягляду беларускай літаратуры.

* * *

Напярэдадні Калядаў, 16 сьнежня 1993 года, адбылося ўганараваньне Ігара Бабкова — першага ляўрэата «Глінянага Вялеса». Імпрэзу зладзілі ў Менску ў актавай залі філялягічнага факультэту. Было шмат студэнтаў. Задавалі пытаньні. І пра ТВЛ, і пра прэмію. На гэтай імпрэзе ўпершыню мы паказалі публіцы свой дэбютны нумар «Калосься».

Якраз напярэдадні «вялесаваньня» Алесь Касьцень перадаў мне сыгнальны асобнік часопіса, яшчэ

бяз вокладкі. Выданьне было надрукавана прымітыўным лінатыпным друкам, гэта калі тэкст набіраецца са сьвінцовых літарак і затым адбіваецца на адмысловых прэсах. У гэткі ж спосаб рабілі нам кніжакі ў Наваполацкай друкарні. Нейкім падобным чынам выдаваў свае кнігі і Францыск Скарына.

Але і гэтаму мы былі рады. Па чарзе гарталі адзіны асобнік як нейкі эксклюзыўны рарытэт.

* * *

Зарэгістраваць ТВЛ у мін'юсьце так і не атрымался. Адамовіч стаміўся абіваць рэдактарскія парогі і здаўся.

Добры дзень, калега!

Пішу коратка. Я так нічога і не зрабіў для рэгістрацыі Статуту. Энтузіязм і цярпеньне выйшлі пшыкам. Ды калі шчыра, то й жаданьньне гэтым займацца зьнікла на хер! Бяры на сябе. Я ня здатны займацца ўсім гэтым выдыганьнем — занадта дзікі, ідэёвы і наіўны. Трэба рабіць, што можаш.

Цяпер пра сумесную з мастакамі вечарыну ў Віцебску. Яна павінна адбыцца. Быў у Алеся Пушкіна, пра ўсё дамовіўся. Ён будзе рыхтаваць неабходнае: афішы, памяшканьне і г.д. Думаю, што на першую палову сакавіка трэба рыхтавацца. Я падаў для афішы 7 прозьвішчаў: я, ты, Пацюпа, Гумянюк, Вольскі, Сідарук, Патаранскі.

Так што жыву я цяпер чаканьнем сустрэчы ў Віцебску. Дарэчы, у мурах у Пушкіна — файная атмасфэра, певень кукарэкае за сьцяной...

Трымайцеся!

Slavamir
13.02.94 г.
Менск

* * *

Некалькі разоў запар сьніўся Павал Іванавіч. Ён стаяў на нейкім узгорку і махаў мне рукою. Ці то вітаўся, ці наадварот — разьвітваўся. Ён нешта мне казаў, але вецер зносіў ягоныя словы і я нічога ня чуў. Але па рухах вуснаў я, здаецца, зразумеў тры словы: памятай... заўжды... спытаецца...

* * *

Дарагі Алесь!

Яшчэ раз дзякуй за дасланае «Калосьсе», зь якім я «днюю і начую». І гэта не прыгожая мэтафара, а самая праўда. Часопіс ляжыць ля майго ложка, калі сплю, а калі сяджу за пісьмовым сталом, — ён таксама побач. Ну чым не рамантычны матыў?

Пацюпаву рэакцыю не магу табе апісаць, бо дагэтуль так і не ўдалося зь ім спаткацца. Юрась адʼяжджаў у свае родныя Азёры. Я табе казаў, што бачыўся адно з Анэляю. Яна апошнім часам захапілася «праваслаўным брацтвам». Магчыма, гэткім чынам Анэля ратуецца ад акаляючай рэчаіснасьці. Мне шкада і яе, і Юрася, бо яны такія далёкія ад жыцьця! Дый жывуць у жудасных умовах савецкага інтэрната...

Зрэшты, хто з нас блізкі да гэтага брудна-атрутлівага жыцьця? У пэўнай ступені ліставаньне ады-

грывае карысную ролю. Самое адчуваньне, што твае карэспандэнцыі нехта чытае, што твае лісты некаму патрэбныя, дадае аптымізму. З аптымізмам, дарагі Алесь, у мяне заўсёды праблемы... То ўздым, то дэпрэсія, часам непатрэбныя перажываньні. Што зробіш — творчая натура й павінная быць уражлівая... А ліставаньне нас фактычна аб'яднала, зрабіла вельмі блізкімі людзьмі. Сяброўства — надзвычай каштоўная рэч у сёньняшні час. Яно й павіннае быць падмуркам ТВЛ. Мо некаторыя з нас і не ўсьведамляюць той місіі, якую мы маем гонар несьці ў літаратуры. Аднак я ўпэўнены, што ТВЛ войдзе ў гісторыю. Таму нам проста неабходна як мага больш пратрымацца на арэне. Самае галоўнае, вядома, выдавецкая справа.

Вось тутака й перайду да разгляду «Калосься».

— Файная папера, арыгінальны фармат, няблага падабраныя шрыфты... Але вокладка, шчыра кажучы, ня надта атрымалася. Вокладка — гэта ж твар выданьня! Павінна быць строгая графічная кампазыцыя, прычым сталая, як фірмовы знак!

— Збудаваны нумар, здаецца, добра. Насуперак маім хваляваньня, артыкул А.Майсяёнка й успаміны з рыпам упісаліся ў часопіс. Варта працягваць рубрыку ўспамінаў (memoria), дзе друкаваць таксама ўласныя ўспаміны і г.д. З паэзіяй, эсэістыкай, часткова літаратуразнаўствам і крытыкай у нас, здаецца, няблага выглядаюць справы. А вось нармалёвае прозы бракуе. І тут мы не ўратуемся «прыколамі» Кастуся Гаманца (Лявона Вольскага), не прыкрыем голыя месцы эпатажнымі зьліваньнямі Ігара Сідарука. Як я ўжо абяцаў — дам на «Калосьсе» №3 трошку прозы. Вітак Чаропка абяцаў даслаць мне

сваю мікрааповесьць «На кругі свая». Ты казаў, што трэба далучыць да ТВЛ яшчэ 3-4 актыўныя асобы. Дык калі каго запрашаць, так асобаў з добра накатаным іміджам і безумоўным талентам. Гэта вельмі важна. Вось з найноўшых хацелася б адзначыць Сяргея Шыдлоўскага. Файны хлопец!

— Аб'ём часопіса можна крышку павялічыць (у залежнасьці ад матэрыялаў). Пра здымкі ты мне, здаецца, казаў, што гэта вельмі дарагая рэч. Вядома, ня варта друкаваць фота кожнага аўтара, але пару агульных цікавых і прафэсійных здымкаў можна было б і зьмясьціць. На апошняй старонцы можна і трэба друкаваць рэкляму спонсараў ТВЛаўскіх выданьняў і месцаў распаўсюджваньня, як у апошнім нумары «КБ». Потым удакладнім. Трэба, відаць, як жабрацкія манаскія ордэны, пачынаць зьбіраць ахвяраваньні на «Калосьсе». Што паробіш, заварылі кашу — трэба рэгулярна выдаваць. Прозьвішчы ахвяравальнікаў надрукуем. Так робяць шматлікія выданьні на захадзе. У нас — «Наша Ніва». Сам ведаеш.

Такія мае прапановы. Дарэчы, твая паштовая скрыня не зьмяніла каардынаты? Спадзяюся, сустрэнемся ў Алеся Пушкіна.

Заўсёды твой Юра

2.03.1994
Гародня

* * *

Першы вялікі супольны паэтычны выступ тэвэ-элаўцаў адбыўся ў Віцебску ў галерэі мастака Алеся Пушкіна, якая ў той час месьцілася ў былым будынку гарадзкой гімназіі. Пушкін сур'ёзна падрыхтаваўся да імпрэзы: разьвесіў па горадзе афішы, як гэта рабілі напярэдадні гучных паэтычных выступаў на пачатку XX стагодзьдзя, на сьценах галерэі павесьціў карціны беларускіх авангардных мастакоў, нават прадугледзеў плату за ўваходны білет. Вечарыну Пушкін назваў «Новая ініцыятыва». Юры Гумянюк прыехаць ня здолеў, бо бракавала яму і грошай, і вольнага часу. Акрамя мяне знаёмілі віцяблянаў з паэзіяй «новай генэрацыі» пераважна менскія тэвээлаўцы — Славамір Адамовіч, Серж Мінскевіч, Алесь Туровіч, Сяргей Патаранскі. Як гэта было некалі перад выступамі якіх-небудзь футурыстаў ці імажыністаў, я на пачатку імпрэзы агучыў невялікае спавешчаньне пра ТВЛ і эстэтычныя пошукі яго сяброў. Найбольш авангардна паказаў сябе Алесь Туровіч, які ў горадзе Казімера Малевіча прадэманстраваў свой верш «чорная капірка». Серж Мінскевіч вяшчаў пра свой «транслягізм» і чытаў вершы-рэбусы. Славамір Адамовіч ужо ўбіраўся ў імідж радыкальнага ўльтраправага паэта. Толькі-толькі ў СМІ зьявілася першая інфармацыя пра ягоную мітычную арганізацыю «Правы рэванш».

Выглядала гэта ўсё эклектычна, але па-новаму і задзірліва. Публіка была ўражана. Алесь Пушкін падчас выступаў рабіў накіды партрэтаў тэвэ-элаўцаў. Пазьней, паводле таго выступу, ён напіша вялікую карціну, якую прывязе на першую канфэрэнцыю ТВЛ.

* * *

Прывітаньне, дружа!

Шчыра дзякую за грунтоўны ліст. Увогуле, твае лісты, дарагі Алесь, хай сабе й крыху сухаватыя, чыста інфармацыйныя, але заўсёды радуюць і не даюць канчаткова «ўпасьці духам». Бо сацыяльна-грамадзка-палітычная сытуацыя на Беларусі, як заўсёды, хрэновая. Гэта прыгнятае й перашкаджае працаваць творча. І вось ратуе ліставаньне, шчырае сяброўства праз сотні кілямэтраў.

Ты вось пішаш пра эклектычнасьць. Маўляў, калі ад яе адмовіцца — трэба разганяць ТВЛ. Ні ў якім разе ня трэба нічога разганяць і адмаўляцца ад эклектычнасьці. Магчыма, ты мяне крыху ня так зразумеў. Эклектыка можа быць таксама стылем! Ня буду прыводзіць хрэстаматыйнага прыкладу архітэктуры і г.д. Дык вось эклектыка — гэта выразная рыса постмадэрнізму. Аб гэтым красамоўна гаворыцца ў маім эсэ «Твар Тутанхамона». І я зусім не асуджаю І. Сідарука. Ён па-свойму арыгінальны аўтар. Вядома, анікога прымушаць і ўгаворваць — як і што пісаць — мы (ТВЛ) ня будзем. Прайшлі тыя часы. Хай гэтым займаецца СП і «Пустацьвет», на якіх дзяржава паклала ідэалягічную функцыю.

Зараз больш канкрэтна пра падзел на ўкладаньне. Так, я ведаў, што калі стварыць дзьве рэдакцыі — атрымаецца два фактычна розныя часопісы з адною назваю. Гэтая «геніяльная» ідэя заганная ад самага пачатку. Я яе прапанаваў, каб крыху «залагодзіць» Ю.Пацюпу. Аднак ён катэгарычна адкідае такі варыянт, застаўшыся пры сваіх поглядах «габінэтнага тэарэтыка». А мы жа з табою, дру-

жа, практыкі, людзі дальнабачныя. Вядома, рэдакцыя павінная быць у адным месцы, каб нехта стала адказваў за выдавецкую справу. Лепш за цябе ніхто ня зробіць. Я гэта ўсьвядоміў яшчэ ў 1991-м годзе. Але, зноў жа паўтаруся, не хацелася ўступаць у канфлікт з Ю.Пацюпам. Ён хлопец завадны, таму я яго не чапаю. Справамі ТВЛ ён не займаецца. Тое-сёе раблю я. І мне прыемна бачыць вынік сваёй працы. Пасьля тэлефановае гутаркі з табою я вырашыў актывізаваць сваю дзейнасьць — стварыць гэткую сябрыну-суполку незалежных творцаў. Ужо размаўляў з асобнымі музыкамі, мастакамі, музэйшчыкамі і г.д. Дык ведаеш, усе адгукнуліся зь цікавасьцю ды энтузіязмам. Ужо знайшлі памяшканьне для «паседжаньняў». У красавіку праводзім «аргкамітэт». Большасьць гэтых людзей — асобы канкрэтнага чыну, яны не змагаюцца зь ветракамі, ня пішуць «адкрытых лістоў» (жанр Андрэя Пяткевіча) і не займаюцца абстрактным тэарэтызаваньнем. Многія зь іх з задавальненьнем будуць пісаць адмыслова для «Калосься». Так што, лічы, у Гародні стварылася рэдакцыйная філія нашага часопіса. Яе ўсё ж узначалю я. Гэта гарантыя, што матэрыялы, якія пройдуць праз мае рукі, своечасова трапяць да цябе. Зразумела, буду дасылаць самае лепшае. Прынамсі, я так разумею гарадзенскую рэдакцыю «Калосься». Галоўнае, каб вы ўжо там усё прафэсійна разьмясьцілі і падалі. Тады й эклектычнасьць ператворыцца ў стыль і ня будзе «рэзаць» вочы. Спадзяюся, што справа пойдзе. Усё ж, дружа, як ты калісьць казаў, усё залежыць ад нас!

І яшчэ пару момантаў, на якія хочацца зьвярнуць увагу, не адрываючыся ад гарадзенскае тэ-

матыкі. Гаворка пра часопіс «Сьвіцязь», які стаў чарговаю падставаю спрэчкі з Ю.Пацюпам. Я адразу зразумеў, што «Сьвіцязь» ня будзе нашым, нонканфармісцкім выданьнем. Бо арганізавалі яго старыя саўдэпаўскія структуры. Большасьць маіх прапаноў адхілілі, хаця я шмат зрабіў, дапамог часопісу «адбыцца», як сумленны чалавек. Падзяка сьмехатворная — 22.000 зайцоў за 3 месяцы! Хаця ня ў грошах справа, а ў адносінах да «рэдакцыі» як супольнасьці людзей, жаданьні прыкрыцца нашымі імёнамі. Я праз некаторы час заняў пасіўную пазыцыю, зразумеўшы, у чым тут справа. А вось Ю.Пацюпа надта ўжо даверыўся афіцыёзнай структуры, якой зьяўляецца цяперашні Фонд культуры, загарэўся, захапіўся рубрыкаю «Беларускі шлях». І, зразумела, забыўся, што мусіць нарэшце «здаваць» «КБ-6». Нават «адкрыты ліст» да цябе адносна «Калосься» ня кінуў у паштовую скрыню! (Цікава, як ты адрэагуеш на зьмест гэтага «адкрытага ліста», калі ён урэшце трапіць да цябе?) Дык вось, шаноўны Юрась нядаўна мне заявіў, што я мала ўвагі надаю «Сьвіцязі». Я яму адказаў, што гэты часопіс не нонканфармісцкі, мала цікавы шырокаму чытачу, таму й ня варта «бисер метать», нават друкавацца зь людзьмі, якія аплёўвалі беларускі незалежніцкі рух у 80-я гады. Кажу, што лепш заняцца «Калосьсем», ТВЛаўскімі справамі, хоць будзе нейкі плён і сапраўдная радасьць ды сатысфакцыя. Не, ён спадзяецца на «Сьвіцязь»! Што ж, хай сабе! Я вось пагляджу, чым усё гэта скончыцца. Баюся, што вялікім пшыкам, таму й самаўхіляюся ад «Сьвіцязі» — нецікава, сумна, афіцыёзна. Дый не

абяцаюць ужо выдаць мой другі зборнік вершаў, які я хацеў прымеркаваць да свайго 25-годзьдзя ў верасьні. На жаль...

Вось такія, братка, справы. І пішу я ўсё гэта, бо хвалююся за свайго сябра і паплечніка Ю.Пацюпу, які аддаляецца ад мяне і ад ТВЛ з «Калосьсем». У мяне ў гасьцёх Юрась быў апошні раз у 1991-м (!). Шкада таксама й Анэлю, якая лётае зараз па нейкіх праваслаўных брацтвах, заглыбляючыся ў рэлігійных ілюзіях. Я паважаю вернікаў, але крытыкую фанатызм. Юрась з Анэляю крытыкуюць мяне за «багемнасьць», «ніцшэанскі іммаралізм». Яны ж маралісты! А я раю Юрасю не пісаць ліст у «Нашу Ніву». Але для яго найперш не дыпляматыя, а маральнасьць. Маўляў, трэба правучыць «інжынэраў нафта-газаправодаў», якія бяруцца разважаць пра філялёгію! Маўляў, калі мае патрабаваньні Аркуш ня ўлічыць, я анічога ня дам на «Калосьсе» №3. Ну навошта гэткая катэгарычнасьць? Хаця я згодзен, сябры павінны быць шчырымі ў адносінах, казаць заўсёды ў вочы праўду, якая б яна ні была. Таму вось я зараз сяджу глыбокае ночы за пісьмовым сталом і разважаю, дзялюся з табою перажытым. Спадзяюся, што ты прымеш гэты ліст як пасланьне глыбока асабістае і д ы с к р э т н а е, г.зн. не для розгаласу...

А зараз колькі навінаў.

1) Вітак Чаропка кінуў «Спадчыну», пасправачаўшыся з К.Тарасавым. Зараз ён «самы вольны літаратар» (яго азначэньне) і, магчыма, «фармалізуе» з ТВЛ адносіны, што, безумоўна, радуе.

2) Маю пасаду ў тэатры скарачаюць, але я працую да чэрвеня. Зрэшты, разьмяркоўваюся і за-

стаюся выкладчыкам ва ўнівэрсытэце на катэдры польскае філялёгіі і культуры. Больш салідная пасада.

3) Андрэю Пяткевічу далі другую групу інваліднасьці. Ён вельмі ўсьцешаны.

4) Ад І.Сідарука ні слыху, ні дыху.

Трэба, бадай, ужо класьціся спаць. Чатыры гадзіны ночы (ці раніцы?). Як-небудзь патэлефаную, дружа. Прывітаньне жонцы і Вінцэсю.

Заўсёды Твой.

24.03.1994
Гародня

P.S. А Адам Міцкевіч, між іншым, ніякі не нэарамантык, а р а м а н т ы к чыстае вады, спачатку байранаман, потым прапагатар мэсіянізму. Польскія н э а р а м а н т ы к і — Леапольд Стаф, Баляслаў Лесьмян. Казімер Пшэрва-Тэтмайер, Ян Каспровіч і г.д. Часам яны выступаюць прадстаўнікамі чыстага сымбалізму ды імпрэсіянізму.

* * *

Праект ТВЛ аказаўся больш франдэрскім, чым мы сабе ўяўлялі ад пачатку. Пісьменьнікі з СП убачылі ў нас свайго магільшчыка (хоць мы ў кожным артыкуле пісалі, што няўхільна насоўваюцца іншыя часы, якія перапыняць шчасьлівае, бесклапотнае жыцьцё савецкага пісьменьніка, трэба да гэтага рыхтавацца і неяк пераабсталёўваць на сучасны лад сваю літаратурную гаспадарку). Вель-

мі хутка мы адчулі непрыязнае стаўленьне і нават непрыхаваную варожасьць па ўсіх франтах. Юры Гумянюк аказаўся паміж двух лягераў — уласна традыцыйнага гарадзенскага літаратурнага асяродзьдзя і сябраў з ТВЛ. Спачатку ён спрабаваў улагоджваць і адных, і другіх. Але хутка зразумеў, што ўседзець на двух крэслах не атрымаецца — трэба канчаткова прымаць нейкі адзін бок. Згубіўшы Юрася Пацюпу, ён застаўся ў Гародні практычна на самоце (Пацюпа неўзабаве ўвогуле пераедзе ў Менск). Гумянюк спрабаваў шукаць падтрымкі ў іншых мастацкіх асяродках — сярод мастакоў, акцёраў, выкладчыкаў ВНУ, журналістаў. Але ўсё гэта было часовым і нетрывалым.

Нарасталі супярэчлівасьці й унутры сяброў ТВЛ. Праблема палягала ў тым, што тэвээлаўцы акрамя сваіх ідэяў і мараў нічога ня мелі, у адрозьненьні ад сяброў СП, арганізацыя якіх падтрымлівалася дзяржаўным фінансаваньнем. Надзея на тое, што мы выдадзім свае кнігі і пэрыёдыкі, прададзім іх і атрымаем нейкія сродкі на нашую дзейнасьць, ня спраўдзілася. Рынак беларускай літаратуры быў мізэрны. Хоць мы і рупіліся, каб нашыя кнігі можна было вольна купіць у любой кнігарні Полаччыны і шмат дзе ў Менску, Гародні і Берасьці. Першымі пачалі аддаляцца сталічныя тэвээлаўцы. У прынцыпе ідэалягічныя падмуркі ТВЛ — нонканфармізм і рэгіяналізм — былі для іх далёкімі і неактуальнымі. Іх паклікала ў ТВЛ галоўным чынам жаданьне надрукавацца ў «Полацкай лядзе». Мінкевіч і Туровіч хутка адчаляць у рух Бум-Бам-Літ, які запачаткуюць разам са Зьмітром Вішнёвым. Выключэньнем быў, бадай, толькі Славамір Адамовіч,

які старанна імкнуўся не пакідаць тэвээлаўскі рух. Ён нават каардынаваў распаўсюд выданьняў ТВЛ у Менску, але яго ўсё больш завабліваў палітычны эпатаж і ўльтраправыя ідэі, што нэгатыўна адбівалася на іміджы ТВЛ.

І толькі мы з Мудровым не адчувалі на Полаччыне ніякага супрацьдзеяньня. Праўда, ніхто й не імкнуўся дапамагчы, за выключэньнем некалькіх мясцовых бізнэсоўцаў. Якраз у гэты пэрыяд пачаўся масавы адток літаратараў зь берагоў Дзьвіны — хто перабіраўся ў Менск, хто наогул зьяжджаў за мяжу.

«Галоўнае — пратрымацца першы год», — гэтая думка шматкроць паўтаралася ў нашай перапісцы з Гуменюком. Каб неяк зноў усё аб’яднаць у нешта цэльнае, я прызначыў сьвята на 8 траўня 1994 года — першыя ўгодкі ўтварэньня ТВЛ. Сьвята атрымала назву «ТВЛаўская рэтраспэктыва» і павінна было адбыцца ў полацкай галерэі «Рыса».

* * *

Выпадкова сустрэў на аўтобусным прыпынку Алеся Кузьміна. Быў ён нейкі агаломшаны. На мае роспыты, як справы, адказаў пэсымістычна і крыху разгублена:

— Надакучыла біцца галавою аб сьценку. Паспрабуем запісаць яшчэ адзін альбом. Калі ад яго будуць такія ж дывідэнды, як ад «Нашай ускраіны», то ўсё — звальваю за мяжу. Я ўжо пачаў хадзіць на курсы нямецкай мовы, бо ў школе нямецкую вывучаў.

— І кім ты там будзеш? — спрабуючы апусьціць сябра на грэшную зямлю, запытаў я.

— Кім заўгодна, але горш ня будзе, чым тут. — Адчувалася, што ён цьвёрда прыняў рашэньне і наўрад ці яго можна ў нечым пераканаць.

Вось і канец маёй «музычнай кар'еры», з гумарам падумаў я. Але перадусім узьнікла крыўда за такіх таленавітых людзей, як Алесь. Нікому яны тут не патрэбныя! Нікому!

* * *

Першыя ўгодкі ТВЛ мы адзначалі як Дзень перамогі ў Савецкім Саюзе. Гэты Дзень перамогі мы набліжалі як маглі. У новым прасторным памяшканьні галерэі «Рыса» на ўваходзе гасьцей вітаў вялікі транспарант, на якім было напісана «Няхай жыве беларуская літаратура!». Гэта была мая ідэя, каб чалавек адразу пры ўваходзе пранікся настроем выставы. Намаляваў транспарант Сяржук Цімохаў. Напярэдадні сьвята я зьвярнуўся амаль да ўсіх тэвээлаўцаў, каб яны даслалі свае карціны і малюнкі. Шмат хто адгукнуўся, балазе некаторыя мелі мастацкую адукацыю, як той жа Лявон Вольскі. Тое-сёе намаляваў і я. Гэта былі графічныя кампазыцыі з розных рысаў, стрэлак і маланак. Калі я гэтыя «творы» паказаў Цімохаву, ён спытаў: хто аўтар? І Сяржук на поўным сур'ёзе пачаў гадаць: Вярэніч... Не? Можа, Салаўёў... Не? Ладзісаў?.. Ну ня ведаю. Кажу: я! І мы гучна рагочам і з маіх мастацкіх здольнасьцяў, і з сучаснага выяўленчага мастацтва.

Пачыналася экспазыцыя зь вялікага стода Вялеса, якога мы зь Сержуком выклеілі з вокладак выданьняў «Полацкай ляды». Сярод іншых твораў, якія складалі выставу, былі малюнкі Лявона Воль-

скага, Рыты Цімохавай, Алеся Аўчыньнікава, Леры Сом, «рысасловы» Людкі Сільновай, афішы і рэклямкі да спэктакляў Ігара Сідарука.

На імпрэзу ўдалося сабраць значную частку тэвээлаўцаў. Ня здолеў прыехаць на «сьвята перамогі» толькі Ігар Сідарук, які даслаў «урадавую» тэлеграму: «Вітаю высокі сход у калысцы новай беларускай літаратуры!» На тэвээлаўскае сьвята прыехаў нават старшыня Наваполацкага гарвыканкаму Аляксандар Ніякоўскі, якога вылучыла на гэтую пасаду грамадзкае аб'яднаньне наваполацкіх выбаршчыкаў «Дэмакратычны форум».

Па ўсіх вольных сьценах галерэі былі разьвешаныя вялікія аркушы паперы, на якіх госьці выставы маглі пакідаць свае ўражаньні ад сьвята і пажаданьні «юбіляру».

Я адкрыў Дзень перамогі ўрачыстай прамовай:

— Кажуць, самае цяжкае — вытрымаць першы год. І мы яго вытрымалі. Вось мы перад вамі, усе жывыя, усе працуюць, ніхто з ТВЛ ня выйшаў. Хоць і прарочылі немагчымасьць існаваньня ў гэтай краіне чаго-небудзь альтэрнатыўнага.

Я казаў хвілін 10-15, як таго й патрабуе фармат урачыстай прамовы на Дзень перамогі.

— Мы будзем непаўторныя і паліфанічныя, як лес, што складаецца з розных раслін, каб застацца шчырымі і натуральнымі ў сваёй творчасьці.

Патасна закончыў я свой выступ, які быў сустрэты бурнымі воплескамі.

Затым была літаратурная частка. Тэвээлаўцы чыталі свае вершы. Натуральна, усе чакалі выступаў Юрыя Гуменюка і Славаміра Адамовіча. Абодва паказалі сябе ва ўсіх сваіх творчых іпаста-

сях — перадусім у паэтычных і акторскіх. Іранічны і дэкадэнцкі Гумянюк чытаў вершы з новай кнігі «Твар Тутанхамона». А вялікі аматар «чорных кашуль, партупеі і галіфэ» Адамовіч упершыню прадэклямаваў на публіцы верш «На стварэньне "Правага рэваншу", які потым будзе надрукаваны ў ягонай кніжыцы «Зваротныя правакацыі», што таксама, як і «Зямля Ханаан», неўзабаве пабачыць сьвет у «Полацкай лядзе».

Ня менш цікавай і зьмястоўнай атрымалася музычная частка сьвята. У Полацак прыехалі Лявон Вольскі і Кася Камоцкая, лідарка рок-гурта «Новае Неба». Полацкі рок-клюб прадстаўлялі Алесь Кузьмін, Валеры Вашчанка і Сяргей Анішчанка (Аніса). Культуроляг і журналіст газэты «Культура» Юрась Барысевіч, які асьвятляў падзею для свайго выданьня, назваў гэты склад музыкаў «зборнай Беларусі па року».

Сьвята атрымалася на славу! Затым усіх гасьцей запрасіў да сябе Сяржук Цімохаў. Толькі ў гадзіну ночы пачалі разьяжджацца, поўныя ўражаньняў і сьветлых пачуцьцяў.

* * *

Мы сядзелі зь Юрам у беластоцкай кавярні побач з Чырвоным касьцёлам. З другога паверху кавярні касьцёл быў як на далоні. На наступны дзень зьбіраліся ехаць у Варшаву на прэзэнтацыю майго першага раману «Палімпсэст».

Юра ўжо зусім ня быў падобны да таго ружовашчокага юнака, які натхнёна чытаў вершы ў полацкай галерэі «Рыса». Ён быў задуменны.

— Затое мы ня скурвіліся, — раптам сказаў ён, як нейкі працяг сваіх думак.

— Ты пра што? — спытаў яго я.

— Пра нас, пра ТВЛ. — Юра не любіў казаць пра гэта, але я ведаў: ён перажываў за тое, што жыцьцё выбіла тэвээлаўцаў з мэйнстрыму і выкінула на ўзбочыну. Юра відавочна хацеў яшчэ хоць раз трапіць пад сафіты, якія зазнаў у маладосьці.

— Затое ў нас ёсьць біяграфія, Юра, — пачаў супакойваць я яго. — Доўгі час усе скардзіліся і наракалі, што на Беларусі ніколі не было свайго андэграўнду, чагосьці падпольнага. Мы стварылі гэта, Юра.

— Ну так, але галоўнае, што мы ня скурвіліся, — Юра не пакідаў сваёй ранейшай думкі. Ён нават павесялеў, нібыта штосьці зразумеў і ад гэтага яму стала лягчэй. — Мы пасьпелі гэта зрабіць, — сказаў ён ужо больш упэўненым голасам.

# *Частка чацьвертая*

Запрашэньне на сустрэчу з варожкай Соф'яй я знайшоў у сваёй паштовай скрыні. У адмысловай улётачцы было напісана, што Соф'я дапамагае ў вырашэньні розных сямейных канфліктаў, бароніць ад сурокаў і іншых непамыслотаў. Па шчырасьці, якое-кольвечы варажбіцтва мяне ніколі не цікавіла. Не сачыў я за гараскопамі і не наведваў варожак. Але тут вырашыў схадзіць і зрабіць матэрыял для газэты.

Сустрэча адбывалася ў полацкім Палацы культуры будаўнікоў. Ужо ў фае я пабачыў вялікі натоўп людзей. Увесь гэты людзкі збой нагадваў старыя фільмы Эйзэнштэйна, калі нямоглыя калекі прасілі цудаў. Заля была поўнай.

Нічога дзіўнага падчас выступу варожкі Соф'і не адбылося. Сустрэчу хутчэй можна было назваць лекцыяй пра тое, што ўсё ў сьвеце знаходзіцца ва ўзаемасувязі; што слова і думка маюць магутную сілу, якой, па неасьцярожнасьці, можна нанесьці вялікую шкоду сабе і навакольным; што трэба быць уважлівым і бараніцца ад сурокаў. Асобна Соф'я тлумачыла, як змагацца з алькагалізмам і

ратаваць ад зялёнага зьмія сваіх мужоў. Вакол сцэны стаялі тры ладнага целаскладу хлопцы, якія, відавочна, выконвалі ролю целаахоўнікаў. Пасьля лекцыі варожка адказала на пытаньні і на гэтым усё скончылася. Я хуценька выйшаў у фае, каб перахапіць госьцю на выхадзе. Але целаахоўнікі імкліва правялі Соф'ю ў асобны пакой і нікога да сваёй гаспадыні не падпусьцілі. Ахвочых пагутарыць сам-насам зь ёй было шмат. Я падышоў да аднаго зь целаахоўнікаў, паказаў журналісцкае пасьведчаньне і сказаў, што хацеў бы ўзяць у варожкі інтэрвію. Ахоўнік папрасіў пачакаць, зайшоў у пакой. Празь некалькі хвілін ён выйшаў і сказаў, што мне дазволена ўзяць невялікае інтэрвію — маю на тое 15 хвілін.

Соф'я ўжо чакала мяне. Яна сядзела за канцылярскім сталом, які стаяў пасярод пакоя. Я сеў насупраць яе. Спытаў дазволу запісваць нашую размову на дыктафон. Яна пагадзілася. Пытаньні мае былі самыя простыя. Я пацікавіўся, як ставіцца да яе дзейнасьці царква, ці прымае варожка прыватных наведнікаў, ці магчыма такому мэтаду лекаваньня навучыць любога жадаючага. Соф'я адказала, што з царквою ў яе няма ніякіх канфліктаў, бо яна сама верыць у Бога і на сваіх сустрэчах усіх заклікае адшукаць у сваёй душы Хрыста, бо толькі з дапамогай царквы можна зрабіць сваё жыцьцё гарманічным і духоўным. Патлумачыла таксама, што ў вялікіх гарадах, напрыклад, у Маскве, яна сапраўды ладзіць прыёмы прыватных наведнікаў, але для такіх гарадоў, як Полацак, гэта складана, бо бракуе часу. Адносна навучаньня сказала, што гэта немагчыма, бо такія здольнась-

ці даюцца ад нараджэньня. Нашае інтэрвію набліжалася да канца, але раптам Соф'я ўважліва паглядзела на мяне і ціха сказала:

— У вас і вашых некаторых сяброў вялікія праблемы. Аднойчы ў дзяцінстве вас выратаваў ваш анёл. А цяпер я паспрабую вам дапамагчы. — Яна дастала зь нейкай торбачкі невялікі керамічны амулецік на шнурку і працягнула мне. — Вось... Вазьміце і насіце гэта. Яшчэ адзін ваш сябар уратаваў сябе сам, бо зьехаў вельмі далёка — за акіян. Але іншы ваш сябар у вялікай небясьпецы — ён загіне. Упадзе з вышыні. Яму я ніяк не магу дапамагчы. Гэта не ў маіх сілах.

Тут, як па камандзе, паўскоквалі зь месцаў целаахоўнікі і падхапілі мяне пад рукі.

— Усё, усё, ваш час сышоў, — загарлалі мне ў вуха.

— Хто, хто ўпадзе з вышыні? — спуджана залепятаў я.

— Гэта не ў маіх сілах, прабачце, — пачуў я, калі мяне выцягвалі з пакоя.

* * *

Прывітаньне, дружа!

Вырашыў крэмзануць табе колькі радкоў пасьля невялікага перапынку ў нашым ліставаньні. Тым больш апошнім часам нічога не пішу. Хаця нядаўна адправіў вялікі ліст Вітаўту Чаропку, падзяліўся ўражаньнямі адносна яго апошняй кнігі ды публікацыі ў «Крыніцы» №2. Не пакінуў без увагі й Ігара Сідарука, бо нешта ён змоўк зусім. Мо што здарылася?

Палітычныя падзеі ў Беларусі, вядома, не радуюць, але я неяк безадносна стаўлюся да ўсяго, што адбываецца навокал. Жыву, нібыта ў паўсьне. А тут В.Кебіч «колесит» па нашай вобласьці, праходзіць канфэрэнцыя БНФ з амэрыканцамі зь Інстытута Крыбла, Данута Бічэль адкрывае новую экспазыцыю свайго музэю (прысутнічалі Бутэвіч і Гілевіч), адбываецца шэраг самагубстваў сярод студэнтаў (усе чамусьці — і хлопцы, і дзяўчаты — скачуць з хмарачосаў ці з бальконаў) і г.д. Гэта ж можна сапраўды здурэць — такім насычаным быў травень.

Аднак, здаецца, усё мінула. У школах пачаліся выпускныя экзамэны. У мяне з наступнага тыдня — таксама. Апошні — 21-га. А там — гуляй, Вася! Застануцца адно ўспаміны пра студэнцкае жыцьцё. У ліпені пайду працаваць на радыё. Экзамэны ў асьпірантуру ў кастрычніку. Па шчырасьці, нешта й ня хочацца паступаць некуды, зноўку здаваць нейкія залікі, мінімумы й г.д. Але, калі прапануюць, трэба йсьці. Мо атрымаецца нешта?

Ці высьветлілася пытаньне з «Калосьсем»? Гэта ж трэба — прамурыжыць справу паўгады! Ну проста абалдзець можна, звар'яцець ушчэнт! Ужо й доўгачаканы часопіс «Сьвіцязь» выйшаў і прадаецца ў гарадзенскіх крамах. Хутка, мабыць, і другі нумар зьявіцца. А «Калосьсе» недзе ляжыць мёртвым грузам у правінцыі...

Калі я быў у Менску — размаўляў зь Лёнікам Галубовічам праз тэлефон. Дык вось, можна сустрэцца недзе ў пачатку ліпеня ці, калі атрымаецца, напрыканцы ўжо гэтага месяца перад тэлекамэрамі, паразважаць пра тое-сёе. І ня трэба масавасьці. Удвох (апрача Л.Галубовіча). Можна, бадай, В.Аку-

довіча запрасіць. Ён нешта да нас вельмі прыхільна пачаў ставіцца. Запрашае супрацоўнічаць у «Крыніцу», ці як там яна будзе называцца. Неяк даволі доўга гутарыў зь ім праз тэлефон. Што ты думаеш наконт выступленьня на TV? Трэба скарыстаць нагоду, бо «Беларускую Маладзёжную» і «Крыніцу» на радыё разагналі. Тут неяк У.Давыдоўскі, беспрацоўны, бадзяўся з кіслай гіморай па вулках Гародні ды зноўку зьехаў у Менск «змагацца»...

Якія, Алесь, навіны? Чым можаш мяне парадаваць? Вы ж там, нягледзячы на глыбокую правінцыю, неяк рухаецеся, баўтыхаецеся ў багне раўнадушша, прымітыўнай расейшчыны ды правінцыйнасьці. І скуль у вас сілы бяруцца?

Заўсёды твой

1.06.1994
Гародня

P.S. Прывітаньне Тацяне й Вінцэсю. Ну й Сяргею Цімохаву. На першы погляд, ён даволі мілы чалавек.

* * *

Праблема рэгістрацыі неўзабаве вырашылася, хаця і часткова. Пасьля таго, як у мін’юст пару разоў схадзіў Адамовіч, там, наколькі я зразумеў, мне няма чаго было рабіць. Добрыя людзі падказалі, што грамадзкую арганізацыю можна зарэгістраваць на мясцовым узроўні — у органе мясцовай улады. Праўда, зарэгістраваць можна толькі рэгіянальную суполку, то-бок якая складаецца з жыхароў гэтай

тэрытарыяльнай адзінкі. Для рэгістрацыі патрэбна было 10 сяброў арганізацыі. Паперы падалі ў Наваполацкі гарвыканкам. Статут быў ужо падрыхтаваны. Акрамя літаратараў, у наваполацкую суполку ТВЛ сабралі сяброў і прыхільнікаў — мастакоў, журналістаў, кампутаршчыкаў. Паседжаньне прэзыдыюму Наваполацкага гавыканкаму, на якім разглядалася нашая рэгістрацыя, прайшло 25 жніўня 1994 года. Пытаньне вырашылася за некалькі хвілін. «Новая газэта», орган тадышняй наваполацкай улады, пісала: «Сёньня нараджаецца новая культура. Яе абрысы ўжо пачынаюць акрэсьлівацца. Гэтыя падзеі немагчыма кантраляваць і фіксаваць існуючымі, часам маральна састарэлымі, а дзе-ндзе здэградаванымі структурамі — творчымі саюзамі, аб'яднаньнямі і міністэрствамі. Кансэрватызм гэтых структураў не дазваляе адчуць, сур'ёзна ўспрыняць і асэнсаваць новыя эстэтычныя ідэі і канцэпцыі, якія нараджаюцца ў нетрах посткамуністычных культураў. Таму і мэты ТВЛ відавочныя — падтрымка альтэрнатыўнай беларускай літаратуры, дапамога ў "агучваньні" эстэтычных пошукаў прадстаўнікам новых культурніцкіх плыняў, спрыяньне інтэграцыі культурных працэсаў у посттаталітарных краінах».

Ужо на восень тэвээлаўцы пачалі рыхтавацца да сваёй першай міжнароднай літаратурнай канфэрэнцыі, якая атрымала «глябальна-сусьветную» назву: «Альтэрнатыўная літаратура. Паасобныя намаганьні да агульнай мэты. Новыя імёны новай Усходняй Эўропы». Тэвээлаўскі праект на канфэрэнцыю падтрымаў «Фонд Сораса — Беларусь». Дзякуючы якому напярэдадні канфэрэнцыі мы выдалі

цэлую калекцыю паэтычных кніг з сэрыі «Паэзія новай генэрацыі», у тым ліку зборнікі Юрыя Гуменюка «Твар Тутанхамона» і «Зваротныя правакацыі» Славаміра Адамовіча, а таксама зборнік Ігара Сідарука «Саната Арганата» і мой «Разьвітаньне з Танталам».

* * *

З рэцэнзіі на праект канфэрэнцыі ТВЛ «Альтэрнатыўная літаратура. Паасобныя намаганьні да агульнай мэты. Новыя імёны новай Усходняй Эўропы», якую напісаў прафэсар Адам Мальдзіс.

«Ініцыятыва (а таксама ўся дзейнасьць) Таварыства Вольных Літаратараў, якое ўзначальвае А.Аркуш, варта ўсялякай ухвалы. Традыцыйнай пісьменьніцкай структуры (а ёй зьяўляецца Саюз пісьменьнікаў Беларусі) у нас сапраўды няма здаровай альтэрнатывы. Бо не лічыць жа ёю кансэрватыўныя і небеларускія па духу аб'яднаньні пісьменьнікаў-баталістаў і марыністаў або фантастаў. Як сябра Саюза пісьменьнікаў Беларусі, сябра яго Рады, мушу, на жаль, канстатаваць, што мы ўсё больш адыходзім ад творчых пытаньняў, па сутнасьці не займаемся абнаўленьнем літаратуры. Пра гэта сьведчыць апошні пісьменьніцкі зьезд ды і адсутнасьць у апошнія гады значных мастацкіх адкрыцьцяў (апроч, вядома, прозы В.Быкава і паэзіі А.Разанава).

Вось чаму я лічу прадстаўлены праект вельмі актуальным. Па-першае, яго ажыцьцяўленьне будзе садзейнічаць разьвіцьцю маладых талентаў, усёй

беларускай літаратуры. Па-другое — устанаўленьню творчых кантактаў зь літаратурнай моладзьдзю іншых краінаў былога сацыялістычнага лягеру. Па-трэцяе, зьявіцца канкрэтны вынік — зборнік «Альтэрнатыва».

* * *

Дарагі дружа!

Нарэшце атрымаў Твой ліст. Гэта здарылася ўчора, а сёньня здаў на «выдатна» ўступны іспыт (польская літаратура) у асьпірантуру й атрымаў ліст ад І. Сідарука. Ён усё яшчэ «цацкаецца» з А.Пяткевічам. А «праблема» па сутнасьці ня вартая зьедзенага яйка! У ТВЛ Пяткевіча аніхто ня возьме. Гэта натуральна, бо несур’ёзныя асобы (мякка сказана) нам не патрэбны. Хай аб’ядноўваецца ў «партыю дурняў»...

Зь Любліна атрымаў 19-ты нумар квартальніка «Kresy». Не забываюць мяне люблінскія сябры. Верагодна, спаткаемся на канфэрэнцыі. Я спадзяюся, што ты дашлеш афіцыйныя запрашэньні мне, Ю.Пацюпу й Алене Пілічавай (дырэктарка прыватнае галерэі «У майстра», вельмі ўплывовая ў бізнэсовых колах і, безумоўна, патрэбная нам асоба, згодная дапамагчы нам у выданьні «Калосься»). Праблему «Калосься» мы яшчэ абмяркуем. Гэта павінен быць супэрчасопіс. Неабходна толькі кінуць лепшыя сілы Беларусі і... некаторыя сродкі. Але перш-найперш трэба мець нешта прыстойнае (матэрыялы, здымкі і г.д.).

Даў я нядаўна інфармашку на рэспубліканскае радыё пра выхад «Твара Тутанхамона» і канфэрэнцыю

ТВЛ. Праграма павінна прагучаць у пятніцу зранку. Так што, калі ты атрымаеш гэты ліст, яна ўжо прагучыць. Ну й сёньня я выступіў у праграме «Гарадніца» на абласным TV, запрэзэнтаваў «Т.Т.» ды, вядома, надаў розгалас нашай канфэрэнцыі. Пры словах «Фонд Сораса» ў прысутных у студыі паадвісалі сківіцы, а тэлегледачы (як я даведаўся пазьней) пераканаліся ў сур'ёзнасьці ТВЛ, як саліднай арганізацыі, якая выйшла на міжнародны ўзровень.

Дасылаю Табе «Сьвіцязь» №2. Якім бы ён ня быў, але наша прысутнасьць у ім не зашкодзіць. З трэцяга нумару пераходзім цалкам на «тарашкевіцу» (мадэрнізаваную). У наступным нумары зьявіцца маё інтэрвію, якое Табе чамусьці не спадабалася. Затое Ю.Пацюпа з прафэсарам С.Габрусевічам ледзь з рукамі не адарвалі гэты матэрыял. А там жа пра ТВЛ! Варта згадаць і пра апавяданьне Аляксандра Скарабагатава — пісьменьніка-гарадзенца, які здабыў розгалас на Захадзе. Зараз ён жыве ў Галяндыі. Празь ягоную маці мы ўсталёўваем зь ім шчыльныя кантакты. Зараз Санёк піша нейкі сцэнар для Галівуда. Гэта ўсяляе аптымізм...

Прафэсар з Гданьску Малгажата Чэрміньска абяцала «прабіваць» нашыя матэрыялы ў гданьскіх часопісах. Малайчына, кабета!

Заўсёды ТВОЙ

5-6.10.1994
Гародня

P.S. А «Твар Тутанхмона», бадай, дашлі яшчэ. Загадзя ўдзячны.

* * *

Першая тэвээлаўскай канфэрэнцыя ладзілася ў Наваполацкай цэнтральнай гарадзкой бібліятэцы. На яе прыехалі прадстаўнічыя літаратурныя дэлегацыі з Украіны і Расеі. Расейскую дэлегацыю ўзначальваў Дзьмітрый Кузьмін, вядомы арганізатар, ініцыятар і выдавец расейскага літаратурнага андэграўнду. У склад расейскай дэлегацыі ўваходзілі такія зоркі альтэрнатыўнай расейскай літаратуры, як Герман Лукомнікаў (Баніфацый), Мікалай Байтаў, Аляксандр Голубеў, а таксама мастацтвазнаўца Леанід Лучкін. З Украіны мы запрасілі галоўнага рэдактара харкаўскага часопіса «Український Засів» Ігара Бондара-Цярэшчанку, які прывёз з сабой зусім яшчэ тады маладзенькага паэта Сяргея Жадана, які быў ці не наймалодшым з усіх удзельнікаў канфэрэнцыі. Адразу з Прагі, з міжнароднай канфэрэнцыі ПЭН-цэнтру, у Полацак прыехаў славуты ўкраінскі паэт Уладзімір Цыбулька. Натуральна, самая прадстаўнічая дэлегацыя была беларуская, якая складалася зь пісьменьнікаў, філёзафаў, літаратуразнаўцаў, мастакоў, бардаў і музыкаў — Уладзімер Арлоў, Валянцін Акудовіч, Алесь Анціпенка, Пятро Васючэнка, Юрась Барысевіч, Лявон Вольскі, Міхал Анемпадыстаў, Сяржук Цімохаў, Алесь Пушкін, Кася Камоцкая, Дзьмітрый Строцаў і многія іншыя. Ну і таксама амаль у поўным складзе сябры ТВЛ. Юры Гумянюк угаварыў мяне запрасіць свайго былога паплечніка па студэнцкім паэтычным гурце «Дыяген», скандальнага гарадзенскага паэта Андрэя Пяткевіча. Нягледзячы на свае нядаўнія да яго крыўды. Пяткевіч прыехаў, паводзіў сябе вельмі ціха, глядзеў на ўсё шырока адкрытымі вачыма.

Па вяртаньні дахаты даслаў мне ліст з сардэчнай падзякай за запрашэньне. А Вінцэсь Мудроў намовіў запрасіць другога сакратара амбасады Альбаніі ў Маскве Лігора Цулуфэ. Альбанія — гэта замарачнае захапленьне Мудрова. Ён нават вывучыў альбанскую мову, каб чытаць альбанскія пэрыёдыкі і літаратуру. Яго, як вялікага сябра Альбаніі, час ад часу запрашалі на розныя нацыянальныя ўрачыстасьці ў Альбанскую амбасаду ў Маскве, дзе, відаць, ён і пазнаёміўся са спадаром Цулуфэ. Альбанскі дыплямат, на маё зьдзіўленьне, сапраўды прыехаў на Полаччыну, зь цікавасьцю глядзеў на ўсё і слухаў. У інтэрвію, якое ўзяў у яго Алесь Касьцень для «Звязды», Лігор Цулуфэ сказаў: «Я, можна сказаць, выпадкова трапіў на гэтую канфэрэнцыю. Але два дні для разуменьня літаратурнай сытуацыі ў вас, у Беларусі, ва Ўкраіне і ў Расеі далі многае. Безумоўна, быў пэўны моўны бар’ер, але гэта больш у час выступленьняў. Калі ж гучалі вершы, дапамога была непатрэбная. Увогуле трэба сказаць, што ў мяне застаюцца два яркія ўражаньні ад Беларусі. Першае — Сафійскі сабор, які дазволіў зразумець, як глыбока ў стагодзьдзях ляжаць карані вашага народа. Другое — маладыя беларускія літаратары, іх шчырасьць і ўзьнёсласьць».

Канфэрэнцыя атрымалася зьмястоўнай і рознабаковай. Гучалі ня толькі спавешчаньні, але і вершы, песьні. Выдатны акадэмічны даклад аб постмадэрнізме, з разглядам практык усёй сусьветнай літаратуры, прачытаў Леанід Лучкін. Цікавым было выступленьне Дзьмітрыя Кузьміна, які пазнаёміў прысутных з сытуацыяй у расейскай літаратуры. Кузьмін, дарэчы, прывёз шмат расейскіх альтэрна-

тыўных, экспэрымэнтальных выданьняў, якія хутка распаўсюдзіліся сярод сяброў беларускай дэлегацыі.

Бондар-Цярэшчанка казаў пра літаратурную рэвалюцыю незалежнай Украіны, пра тых аўтараў, якія ўжо сталіся прыкметнымі асобамі ўсёй літаратуры Ўсходняй Эўропы.

Бадай самым эмацыйным момантам канфэрэнцыі была гарачая спрэчка паміж украінскімі і беларускімі літаратарамі з аднаго боку і расейскімі з другога. Тэвээлавец, а пазьней заснавальнік руху Бум-Бам-Літ Серж Мінскевіч на канфэрэнцыі чытаў даклад пра транслягізм. Гэты літаратурны накірунак ён вымысьліў сам на базе сваіх літаратурных практык. За год да канфэрэнцыі Мінскевіч прывёз мне рукапіс паэтычнай кнігі «Праз галерэю». Гэта былі незвычайныя, мадэрнісцкія вершы. Я параіў Сержуку напісаць да кнігі прадмову, хутчэй нават эстэтычны маніхвэст, каб неяк патлумачыць свае нязвыклыя для беларускай літаратуры творы. Мінскевіч пагадзіўся і неўзабаве напісаў прадмову, якая сталася маніхвэстам транслягізму. Сваё адкрыцьцё Мінскевіч вырашыў данесьці калегам на тэвээлаўскім літаратурным форуме. Але падчас прамаўленьня дакладу яго перабіў Дзьмітрый Кузьмін, сказаўшы, што наўрад ці гэта можна назваць адкрыцьцём, бо штосьці падобнае неаднойчы вынаходзілі расейскія літаратары. І тут устаў Бондар-Цярэшчанка і пачаў тлумачыць Кузьміну, што ён знаходзіцца ў Беларусі, на старажытнай Полаччыне, і зараз размова ідзе пра беларускую літаратуру, якая ў свой час не зазнала, разам з эўрапейскай літаратурай, мадэрнісцкіх уплываў, і толькі цяпер маладыя літаратары пачынаюць рабіць гэ-

тую працу. Таму адкрыцьці, зробленыя сёньня беларускімі літаратарамі, ня маюць нічога датычнага да расейскіх літаратурных здабыткаў і тэорыяў. Разгарэлася спрэчка адносна таго, ці можа нацыянальная літаратура разглядацца як нешта асобнае і аўтаномнае. Расейскія калегі даводзілі, што літаратура — гэта штосьці агульнае, як фізыка або хімія. Украінскія і беларускія літаратары не пагаджаліся і казалі, што яны не зьбіраюцца класьціся у пракрустава ложа расейскай літаратуры і будуць ствараць свае нацыянальныя літаратурныя школы. Наўрад ці ўдзельнікі спрэчкі прыйшлі да нейкага агульнага паразуменьня. Але добра, што не пабіліся.

Праўда, неўзабаве зьявілася магчымасьць замірыцца. Увечары ў славутай наваполацкай рэстарацыі «Чабарок», якую ў народзе называлі «шайбай», адбылася другая частка імпрэзы першага дня. Мне ўдалося заарэндаваць усю рэстарацыю на вечар, таму ніхто нам не замінаў. Пад кілішак гарэлкі і бакал віна чыталіся вершы і сьпяваліся песьні.

Неяк нядаўна я праглядаў відэазапіс гэтай імпрэзы ў «Чабарку» і ўразіўся колькасьці ўдзельнікаў той гістарычнай вечарыны, якія ўжо не жывуць — Андрэй Пяткевіч, Алесь Касьцень, Васіль Храмцоў, Юры Гумянюк, Сяржук Цімохаў... Час няўмольны. Усіх іх сёньня вельмі не хапае.

Выдаць альманах па выніках канфэрэнцыі ў мяне не атрымалася. Папросту не было на гэта сродкаў. Але ўсе асноўныя даклады, якія прагучалі на тэвээлаўскім літаратурным форуме, пазьней былі надрукаваныя ў літаратурна-філязофскім сшытку «ЗНО», які выходзіў дадаткам да газэты «Культура».

* * *

Па завяршэньні канфэрэнцыі Алесь Касьцень распытаў пра ўражаньні ва Ўладзіміра Цыбулькі:

«Зь цікавасьцю сачу за маладой беларускай літаратурай, той літаратурнай сытуацыяй, якая ў вас складваецца. Таму некалі «Тутэйшыя», сёньня Таварыства Вольных Літаратараў для мяне не зусім невядомая краіна. І думаю, што гэта пакуль ня рух эстэтыкі, гэта пакуль што рух пакаленьняў маладых літаратараў, якія пераадольваюць нармальнае і, у прынцыпе, плённае супраціўленьне афіцыёзу. Мы на Ўкраіне такое процістаяньне перажылі раней. Скажу толькі, што сёньня асацыяцыя «Нова література», якую я прадстаўляю, кантралюе каля дзесяці часопісаў. Аднак гэта не азначае, што мы ідзем на крок наперадзе... Не, у кожнай літаратуры свой боль, свае шляхі разьвіцьця. Хачу толькі падкрэсьліць, што набыцьцё рэальнай незалежнасьці нашымі дзяржавамі будзе спрыяць і разьвіцьцю нашых літаратур. Раней, як бы там ні было, Захад знаёміўся зь літаратурамі Саюза найперш праз свае маскоўскія амбасады, а гэта пакідала адметныя і не слабейшыя па ўзроўні літаратуры рэспублік у невядомасьці. З другога боку, і ўсё тое новае, што ішло да нас з Захаду, паступала ў рэспубліку ўжо ў маскоўскай інтэрпрэтацыі. А другаснае — яно і ёсьць другаснае. Вашым жа маладым сёньня неабходна калялітаратурнае абслугоўваньне, крытыка свая, якая мацуецца на тых жа ідэйных устаноўках, свой мэнэджмэнт, безь якога нават літаратуры самага высокага ўзроўню немагчыма займець адпаведнае месца. Увогуле ж найбольшая карысьць такіх канфэрэнцый не ў іх тэарэтычных заглы-

бленьнях, а ў звычайнай інфармацыі, у больш дакладным знаёмстве з суседнімі і вельмі цікавымі літаратурамі».

* * *

Сустрэча зь мясцовымі школьнікамі не была асноўнай прычынай нашага наведваньня Лепеля. У адным з апошніх лістоў Вера Барадзіч, кіраўнічка тамтэйшага літаратурнага аб'яднаньня «Выток», прапанавала мне наладзіць у ейным райцэнтры грандыёзнае літаратурнае мерапрыемства з удзелам самых вядомых пісьменьнікаў краіны. З гэтай ідэяй Вера хадзіла ў райвыканкам і знайшла паразуменьне ў аддзеле культуры. Нават было паабяцана фінансаваньне і арганізацыйная падтрымка. Лепшым выканаўцам такой адказнай працы яна палічыла Таварыства Вольных Літаратараў, якое зусім нядаўна паўстала ў недалёкім ад Лепеля Полацку. Веры хацелася сапраўнага сьвята. Чагосьці разьняволенага і фээрычнага, а не занудна-пэнсійнага. Сьвята, якое б адпавядала новаму часу зь яго імклівымі зьменамі і навацыямі. Вера разумела, што гэта апошні шанец наладзіць штосьці падобнае ў роднай правінцыі. Чыноўнікі былі яшчэ сур'ёзна напужаныя і ня ведалі — каму будуць служыць заўтра. Постмадэрністы з ТВЛ у яе вачах былі тымі, хто мог расхістаць мясцовае «балота».

На перамовы ў Лепель акрамя мяне прыехалі Серж Мінскевіч і Ігар Сідарук. У мясцовай школе мы з натхненьнем чыталі вершы і прозу, а Серж зь імпэтам сьпяваў свае вясёлыя песенькі-страшыл-

кі. Дзеці рэагавалі жвава — сьмяяліся, воклічамі камэнтавалі пабачанае, але пытаньняў не задавалі і ў дыскусіі не ўступалі. А як толькі мы пачыналі заклікаць іх да дыялёгу, яны адразу сьціхалі і сядзелі як мышы пад венікам. Сустрэча скончылася традыцыйна — нам уручылі кветкі і запрасілі прыяжджаць яшчэ. Мы паабяцалі, балазе ведалі, што сапраўды хутка зноў прыедзем у Лепель.

Другая частка нашага візыту была значна цікавейшай. Лепельскія сябры прапанавалі правесьці перамовы на прыродзе ў нефармальнай абстаноўцы. Мы выказалі поўную ўхвалу такой ідэі гаспадароў. Гасьцей пагрузілі ў легкавік і завезьлі на бераг маляўнічага возера. Затым некалькімі рэйсамі давезьлі на месца падзеі іншых запрошаных. Быў сонечны, пагодны дзень. Усё спрыяла ўдаламу правядзеньню перамоваў.

Найбольш нас уразіла сумка з пляшкамі. Яе даставалі з багажніка аўто два чалавекі.

Ігар Сідарук нахіліўся да майго вуха і пракамэнтаваў пабачанае:

— Або яны тут у Лепелі маюць традыцыю весела адпачываць на прыродзе, або мы вельмі шаноўныя госьці, што нас так сустракаюць.

— Можа, нас правяраюць, хочуць нам языкі разьвязаць, — пажартаваў я. Ігар неяк сур’ёзна на мяне паглядзеў і шматзначна дадаў: — Ну-ну...

Як аказалася, у сумцы з напоямі было ўсё — ад шампанскага і таннага пладова-ягаднага віна да самагонкі і сьпірту «ROYAL». Гэты сьпірт якраз уваходзіў у моду. Прадавалі яго вялікімі літровымі пляшкамі і зараблялі на ім шалёныя грошы. Адна зь мясцовых паэтак, у якой муж быў прадпры-

мальнікам, пажартавала, што калі гэтага нам ня хопіць, то ў яе ў двары стаіць грузавік, наладаваны «ROYALам». Пашлем ганца.

Першы тост, як таго патрабаваў этыкет, быў за супрацоўніцтва. Я піў выключна шампанскае, бо разумеў, што вынікі сустрэчы залежаць толькі ад мяне. Зусім не было часу прыяжджаць на другі раўнд перамоваў.

На зьдзіўленьне, усё атрымалася годна. Ніхто асабліва не набраўся, ніхто не парушаў грамадзкі парадак і не назаляў п'янымі маналёгамі. Што тут скажаш, інтэлігентныя людзі сабраліся.

Пасьля пятай ці шостай чаркі Вера Бародзіч падсела да мяне і сказала:

— У мяне ўсё дамоўлена. Ад цябе мушу даведацца толькі дзьве рэчы: як будзе называцца нашае сьвята і хто на яго прыедзе?

Абодва пытаньні для мяне былі чаканымі.

— Прапаную наступную назву — «Лепельскія алітэрацыі». Прыгожа і зьмястоўна.

— А чаму алітэрацыі?

— Ведаеш, гэта літаратурны паэтычны прыём, калі паўтараюцца аднолькавыя зычныя.

— Ведаю, я філфак скончыла.

— Дык вось, слова Лепель — выдатны прыклад алітэрацыі ў адным слове.

— Цікава. Ніколі мне гэта ў галаву не прыходзіла.

— Мы як бы падкрэсьліваем паэтычную назву самога горада.

— Добра, можа гэта і сапраўды арыгінальна, — пагадзілася Вера. — А хто прыедзе на сьвята? У райвыканкаме я сказала, што гэта будуць самыя вядомыя пісьменьнікі Беларусі.

— Я не магу табе тут зараз скласьці сьпіс удзельнікаў, бо зь імі спачатку трэба дамовіцца. Але абяцаю, што самыя лепшыя пісьменьнікі Полаччыны будуць абавязкова.

— І яшчэ варта ўлічыць, што ў раённым Доме культуры будзем ладзіць вялікі літаратурна-музычны канцэрт. Варта запрасіць музыкаў і бардаў.

— Будуць і барды. Самыя лепшыя. Сёньня ты аднаго бачыла. — Я кіўнуў галавой у бок Мінскевіча. — Вольскі цябе задаволіць?

— Ясная справа! «Мроя»!

— Будзе табе Вольскі.

Мы паціснулі на знак згоды адзін аднаму рукі. Вера ўзяла з посьцілкі-самабранкі пляшку шампанскага і наліла мне і сабе. Мы выпілі. І яшчэ раз паціснулі рукі.

* * *

З Полацку ў Лепель мы ехалі на «пазіку». Нашая літбрыгада, на чале з Уладзімерам Арловым, выглядала нягорш за сталічную. Акрамя ўласна пісьменнікаў, палачане везьлі з сабой сьпевака Алена і барда Алега Паўлёнка. Такой брыгадзе было пад сілу наладзіць самастойны выступ у раённым ДК. Таму ва ўсіх пасажыраў, нягледзячы на шэры, восеньскі дзень з занудлівым дожджыкам, быў добры настрой. Гэта як высокапрафэсійная футбольная каманда, складзеная з сусьветных зорак, едзе на нескладаны матч. Або як баксэрская чэмпіёнская зборная кіруецца на таварыскія баі да аматараў.

— Алег, расчахляй гітару. — Арлоў, які сядзеў наперадзе, крутануў назад сваю барадатую гала-

ву з кудлатай шавялюрай і амаль загадаў: — Засьпяваем.

— Гэта ў нас што, рэпэтыцыя будзе? — жартаўліва спытала Ірына Жарнасек.

— Не, гэта для ўздыму баявога духу! — Арлоў засьмяяўся і, як гэта бывае, калі ён у гуморы, стаў моцна церці свае далоні.

— А што будзем сьпяваць? — паслухмяна спытаў Паўлёнак.

— «Наш дом».

Можна было б і не пытацца. Бо гэтая песьня, пасьля таго як полацкія пісьменьнікі адстаялі ў чыноўнікаў старую камяніцу, якую плянавалі зруйнаваць, стала гімнам мясцовай літсябрыны. Яе сьпявалі на кожным паседжаньні літаратурнага аб'яднаньня «Крыніцы». На месцы той камяніцы, што дасёньня стаіць амаль насупраць полацкага гарвыканкаму, зьбіраліся пабудаваць дзевяціпавярховік, чым канчаткова спляжылі б архітэктурны комплекс галоўнай плошчы горада.

Паўлёнак асьцярожнымі рухамі, бо «пазік» трэсла і кідала ў розныя бакі, расчахліў свой інструмэнт. Узяў для пробы некалькі акордаў, падкруціў калкі гітары і засьпяваў. Пасажыры аўтобусіка суладна падхапілі словы песьні.

Часам сум душу маю кране:
Мроіцца, што сьвет спавіты сном,
Што не для мяне, не для мяне
Гэты дзень сьмяецца за вакном.

Як тады балюча мне глядзець
На пусты стары забыты дом.

Больш яму агнямі не зіхцець,
Цемру разрываючы сьвятлом.

Так пад сьпеў зімовых сьцюж
Зносяць даўнія дамы,
Як часьцінкі нашых душ,
І зьнікаем зь імі мы.

Як тады балюча мне глядзець
На пусты, стары, забыты дом.
Больш яму агнямі не зіхцець,
Цемру разрываючы сьвятлом.

Пасля таго, як песьня скончылася, у «пазіку» запанавала ціша. Кожны думаў нешта сваё.

— Вось яе абавязкова і прасьпяваеш у Лепелі, — задуменна сказаў Арлоў і дадаў: — Добрую песьню напісаў.

* * *

Калі літаратурныя сілы, якія я запрасіў на «Лепельскія алітэрацыі», зьліліся ў райцэнтры ў адно войска, дык яно нагадвала банду Махно. Найбольш калярытна выглядалі прадстаўнікі Бум-Бам-Літу. На Сержы Мінскевічы была нейкая доўгая, амаль па калена, жоўтая кофта, а на чорных чаравіках па-піжонску матляліся чырвоныя матузкі. Яшчэ больш арыгінальна глядзеўся Ільля Сін. Ён на сьвята беларускай літаратуры апрануў нейкія кароткія, у буйны вэльвэт, порткі і падзертую на локцях кашулю. Выглядаў ён падобным ці то да хіпі, ці то да падростка-беспрытульніка. Больш-менш прыстойна глядзеў-

ся камісар Бум-Бам-Літу Зьміцер Вішнёў — на ім была нейкая канарэечная кашуля, якая абсалютна не ратавала паэта-мадэрніста ад верасьнёвай прахалоды. Аднак усім фору мог даць Славамір Адамовіч у сваім фірмовым галіфэ, скураных ботах і партупеі. Карацей, нас лёгка можна было здымаць у масоўцы кавэра «Няўлоўных помсьнікаў».

Побач са мной стаяла Вера Бародзіч і разгублена аглядала гэтае анархісцкае зборышча.

— А дзе Ніл Гілевіч? — неяк ціха і роспачна, не чакаючы станоўчага адказу, спытала яна мяне.

— Ды вось будучы Ніл Гілевіч, — я тыцнуў пальцам у Славаміра Адамовіча, які стаяў побач і пагойдваўся на сваіх рыплівых скураных ботах. — Будзе такім жа вялікім і хрэстаматыйным.

— А дзе Васіль Быкаў? — другое пытаньне было яшчэ больш бессэнсоўнае і, відаць, прагучала выпадкова, па інэрцыі.

— А чым кепскі Ігар Сідарук? Ён яшчэ больш трагедыйны.

Я не зьбіраўся зьдзеквацца зь дзяўчыны, але пытаньні былі настолькі бязглуздымі, што яны мяне не на жарт раззлавалі.

— Не хвалюйся, у нас у рэзэрве ёсьць шмат славутых асобаў — Арлоў, Вольскі, Васючэнка... Усё будзе клясна. Няўжо ў тваім гарвыканкаме так добра разьбіраюцца ў беларускай літаратуры, што ведаюць увесь наш «іканастас» — у твар і па імёнах? А канцэрт будзе што трэба, я табе абяцаю.

* * *

— Вось і прыехалі, — зьвяртаючыся да ўсіх, выгукнуў Серж Мінскевіч.

Ён сядзеў наперадзе салёна пазіка і першым заўважыў перашкоду на шляху. Дарогу перакрылі два аўтамабілі — «Волга» і «газончык».

— Што там, што там? — да кіроўцы пачаў прабірацца Славамір Адамовіч. Яму падалося, што схаваныя ў ботах нунчакі якраз зараз і прыдадуцца.

— Ды ўсё нармальна, гэта нас сустракае Алег Аляксандравіч, наш асноўны спонсар, — супакоіла ўсіх Вера Бародзіч.

Аўтамабілі сапраўды чакалі нас, бо як толькі «пазік» зь літаратарамі зьявіўся на даляглядзе, сустракаючыя павыходзілі з аўто. Відавочна, асноўным сярод іх быў высокі, падцягнуты мужчына ў гарнітуры, вакол якога завіхалася некалькі кабет. Калі мы пад'ехалі амаль усутыч, то заўважылі, што кабеты былі апранутыя ў нацыянальныя строі, адна зь іх трымала ў руках хлеб-соль. Уся нашая аб'яднаная літаратурная «банда Махно» высыпалася з «пазіка» на ўзбочыну дарогі.

— Уладзя, прымі, калі ласка, хлеб-соль. Ты ў нас самы прадстаўнічы, — разгублена папрасіў я Арлова.

— Алесь, але ты ў нас за галоўнага, — Арлоў чамусьці заўпарціўся.

— Ды я ніколі не прымаў хлеб-соль, там трэба, напэўна, нешта казаць. Не, Уладзя, я як камадзір табе гэта даручаю. — Здавалася, мне было прасьцей выступіць на мітынгу перад усімі жыхарамі Лепеля, чымсьці прыняць хлеб-соль.

— Ну, добра, калі ты так баісься...

Арлоў аддзяліўся ад нашай літаратурнай стракатай гурмы і, як перамоўца да суперніка, пайшоў да сустракаючых. Мы, ствараючы яго тыл, пасунуліся

сьледам. Арлоў павітаўся з гаспадарамі, тыя ў адказ нешта хорам зашчабяталі, падносячы каравай. Арлоў, як вялікі адмыслоўца па атрыманьні караваяў, адшчыкнуў скарынку хлеба, тыцнуў яе ў сальніцу і зьеў. Пасьля чаго атрымаў каравай цалкам. Усе навокал радасна загаманілі. Нібыта пад Лепельскімі азёрамі злучыліся 1-ы і 2-гі Беларускія франты, узяўшы ворага ў сталёвыя абцугі. Перамогу трэба было адсьвяткаваць. Але ніхто ня мог сабе ўявіць, што гэтае сьвята будзе такім шчодрым...

Алег Аляксандравіч Ляшчынскі аказаўся дырэктарам аграфірмы «Белая Русь». Фірма была досыць заможная, мела нават уласны вінзавод. Туды мы і накіраваліся.

Каля брамы вінзавода нас чакала галоўны тэхноляг. Яна і правяла для літаратараў экскурсію па цікавым аграпрамысловым аб’екце. Экскурсія завершылася ў дэгустацыйнай залі. Да сёньня дзіўлюся, як з той залі пад канец дэгустацыі нікога ня вынесьлі.

Дэгустацыйная заля ўяўляла сабой прастакутны выцягнуты пакой, пасярод якога стаяў вялікі, больш дзесяці мэтраў даўжыні, стол. Па яго пэрымэтры шчыльна стаўбурыліся пляшкі з тутэйшай прадукцыяй. Першы тост быў за гасьцей. Затым пілі за гаспадароў. Затым за беларускую літаратуру. Затым за незалежнасьць. Затым прысутныя разьбіліся на купкі па зацікаўленьнях і далей тосты пачалі прамаўляць у сваіх колах. Музыкі і барды ўтварылі сваю супольнасьць. Там шчыраваў Серж Мінскевіч.

— Серж, ты глядзі, ня спайвай Вольскага. Ён заўтра павінен быць хэдлайнерам. — Мне здавала-

ся, што сытуацыя выходзіла з-пад кантролю і абяцала фээрычны фінал.

— Алесь, усё нармальна. У нас тут прафэсійная размова, — звыклым прыкольным голасам супакоіў мяне Вольскі.

Калі «банда Махно» грузілася ў аўтобус, я заўважыў, што многія былі затараныя бутэлькамі, як падрыўнікі-партызаны гранатамі, калі выпраўляліся на чарговае заданьне.

Але на гэтым гасьціннасьць ня скончылася. Ляшчынскі загадаў ехаць за ягонай «Волгай». Неўзабаве мы апынуліся ў нейкай вёсцы. У вялікай хаце для гасьцей быў накрыты стол. Маўляў, на вінзаводзе мы выпілі, а тут трэба закусіць. Стол ламіўся ад розных страваў — запечаных парсюкоў, смажаных гусей зь яблыкамі, пальцам піханых кілбасаў, талерак зь мёдам у сотах і нават канапак з чырвонай ікрой. Усё гэта ўпрыгожвалі пляшкі гарэлкі, ліквору, каньяку і нават баўгарскіх і мадзярскіх вінаў.

— Вось гэта я разумею, што такое незалежнасьць, — сказаў Славамір Адамовіч, які сярод першых зайшоў у гасьцінную хату.

Алег Ляшчынскі быў дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня, які ўпершыню быў абраны ўжо ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

Пасьля некалькіх чарговых тостаў нехта пачаў абмяркоўваць з гаспадаром апошнія палітычныя падзеі. Чуў, як Ляшчынскі хваліў нашага дэпутата-літаратара Лявона Баршчэўскага, які рыхтаваў і прымаў у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня незалежніцкія адозвы.

Я выйшаў на вуліцу падыхаць сьвежым паветрам. Нейкія маладзёны каля хаты раскручвалі дра-

ты. Хлопцы патлумачылі, што зараз будзе музыка — яны прыцягнулі іоніку і пачалі яе падключаць.

Я вярнуўся ў хату, знайшоў Вольскага і спытаў:

— Лявон, ты як сябе адчуваеш?

— Добра.

— Зараз будзем сьпяваць.

— Прама зараз.

— А ты думаў! Заўжды трэба быць гатовым.

Мы выйшлі зь Лявонам з хаты.

— Як табе інструмэнт?

— Паспрабуем.

І Лявон пачаў націскаць пісклявыя клявішы.

— Можа быць?

— Зараз засьпяваем.

З хаты ўсе павыходзілі на двор сядзібы. Дзясяткі п’яных галасоў загарлалі:

— Вольскі, Вольскі...

І Вольскі засьпяваў.

На беларускіх дарогах паспаліты народ.
Am Dm
Кагосьці цягне на захад, нехта б’ецца на ўсход.
Am Dm
Камусьці трэба свабода, а камусьці прыгнёт.
A
Гэта зусім не распуцтва, гэта розьніцца ў густах.

Беларуская дарога называецца шлях
або гасьцінец ці сьцяжына, ну як-небудзь вось так.
Каля дарогі ваўкі, па-над дарогай кашак —
жывёльны сьвет Беларусі багаты, разнастайны.
Прыпеў:
D E
Чуеш, як пяе зямля

A
ла - ла - ла
Fm#
ла - ла - ла
Чуеш, як гудзе вясна
на - на- на
на - на - на
Чуеш, як сьпяваем мы
ты - ты - ты
ты - ты - ты
D          E  A  E
Песьні пра дарогі і ня толькі.

На беларускіх дарогах столькі крочыла ног,
Чаравікаў, ботаў, нагавіцаў, панчох.
Тут забівалі, тут кахалі, нараджалі дзяцей,
А што ж вы хочаце, людзі, — так было, гэтак будзе.

Над беларускай дарогай пралятаюць буслы,
Па беларускай дарозе праяжджаюць паслы,
Паслы ніколі нічога не гавораць услых,
Пра гэта нам сказаў нацыянальны канал.

Такога сольнага выступу Вольскага я ніколі больш ня бачыў і ня чуў.

* * *

Па прыезьдзе зь Лепеля Юры Гумянюк напісаў для гарадзенскай газэты «Пагоня»: «...у падобнай стракатасьці і markdown рознабаковасьці адчуваецца пэўная моц і карысьць, бо здаўна вядома, што ў адзінстве — сіла. Акрамя паэтаў і празаікаў у імпрэзе

прынялі ўдзел вядомыя музыкі: вакаліст рок-гурта «Мроя» Лявон Вольскі і ляўрэат фэстывалю «Славянскі базар» Ален. Творцы выступілі ў мясцовых школах і тэхнікуме, наведалі аграфірму «Белая Русь», зладзілі імправізаванае шоў у лепельскім Доме культуры. Шчырая публіка вельмі цёпла вітала гасьцей. Акрамя гэтага, літаратары правялі «круглы стол», прысьвечаны праблемам сучаснага літаратурнага працэсу ў Беларусі.

Застаецца дадаць, што фэстываль «Лепельскія алітэрацыі-95» быў своеасаблівай падрыхтоўкай да міжнароднай канфэрэнцыі «Літаратурны працэс: рэцыдывы посттаталітарнай маргінальнасьці», якая адбудзецца пад эгідай ТВЛ 4-5 лістапада ў Полацку».

* * *

1994-1995 гады былі, бадай, самымі плённымі ў дзейнасьці Таварыства Вольных Літаратараў, сапраўдным Мясцовым Часам. І ў пазьнейшыя гады ТВЛ выдавала часопіс «Калосьсе» і кнігі, ладзіла свае канфэрэнцыі, прэзэнтацыі, уручала літаратурную прэмію «Гліняны Вялес». Але з кожным годам тэвэлаўцам усё больш складана было гэта рабіць. Уся нацыянальная культура пры новай уладзе ў Беларусі апынулася ў сапраўдным андэграўндзе. А неўзабаве прыйшоў час, калі ў Полацку стала складана знайсьці памяшканьне для імпрэзы, бо нават літаратурныя мерапрыемствы пачалі ўспрымацца ўладай як апазыцыйныя акцыі.

У 1995 годзе я ўдзельнічаў у мясцовай выбарчай кампаніі як кандыдат у абласны савет. Выба-

ры прайграў былому першаму сакратару Расонскага райкама партыі і канчаткова набыў апазыцыйнае «таўро». ТВЛ пачалі атакаваць з усіх бакоў. Неўзабаве Таварыства пазбавілася афіцыйнай рэгістрацыі.

Славамір Адамовіч, пасьля ягоных палітычных пэрформансаў пад назвай «Правы рэванш» і напісаньня верша «Убей президента!», аказаўся ў турме і толькі праз 10 месяцаў выйшаў на свабоду. У 2002 годзе ён зьехаў у Нарвэгію.

Юры Гумянюк хутка зразумеў, што зьвязаць свой лёс з гарадзенскім унівэрсытэтам у яго не атрымаецца. Ён кінуў асьпірантуру і пачаў працаваць журналістам у розных апазыцыйных мэдыях — газэтах і на радыё. У 2013 годзе ён загінуў, упаўшы зь дзявятага паверха ў сваёй роднай Гародні. Прычына гэтай трагічнай сьмерці так і засталася таямніцай для ягоных блізкіх і сяброў.

Алесь Касьцень памёр у Паставах у 2009-м, на 52-м годзе жыцьця.

Алесь Кузьмін у 2001 годзе падаўся ў Нямеччыну, і гурт «Мясцовы час» канчаткова спыніў сваю дзейнасьць.

Вінцэсь Мудроў і Ігар Сідарук сышлі ў падпольле, не зьяўляюцца на публіцы і толькі зрэдку друкуюць свае творы ў недзяржаўных літаратурных выданьнях.

* * *

Вітаю, Алесь!

Я не пытаюся, як у цябе ідуць справы кандыдацкія. Добра ці дрэнна — даведаюся з прэсы-радыё. Я пра іншае. Пасьля чарговых паліваў (слова Э.Лі-

монава) Лукашэнкі на БТ і радыё (ішоў «дыялёг» каля 3-х гадзін), дзе сын мастака Савіцкага прапаноўваў забараніць выданьне пэўнага кшталту беларускіх кніг, Вільтоўскі пабег у шапік ТБМ і загадаў зьняць зь вітрыны ўспаміны Мерляка, яшчэ штосьці... Мае «Зваротныя правакацыі» ўвогуле хацеў забраць, але прадаўшчыца не дала. Забраў толькі адзін асобнік. Больш таго, за ўжо прададзеныя не плацяць. Вось такая інфармацыя, Алесь. Хацелі выданьні ТВЛ зьняць зь вітрыны таксама, але прадаўшчыца ўгаварыла. Адным словам, пі...ец! Ня думаюць людзі, што на нябесных скрыжалях усё запісана будзе.

Учора ж Ціцянкоў парваў сьцяг нацыянальны і яшчэ на ім расьпісаўся. Над цяперашняй рэзыдэнцыяй вусатага ўжо вісіць новы. Запомні гэты дзень, дружа: 16.05.95 г.

Далей. Учора ж, як мне перадалі сябры, радыё агучыла пастанову аб адкрыцьці на мяне справы за фашысцкую прапаганду. Рыхтуюся да шмону, перапраўляю архіў надзейным людзям. Падумай, ці не лягічна было б запусьціць у друк гэны мой рукапіс пра КДБ. Мне здаецца, было б вельмі дарэчы. Я рускамоўны варыянт аддаў Кудраўцу ў «Нёман». Абяцаў праз два тыдні даць адказ.

Мы тут гуртам падаем у суд на Азаронка (прапагандыст БТ. — А.А.).

Бачыць бог, ня мы першыя пачалі. Мы хацелі б кахаць, пісаць лірыку, тварыць дзяцей... Шкада толькі, што не пасьпеў зрабіць нашчадка. За «прапаганду» сьвеціць ад 3 да 5, калі не памыляюся, а за стварэньне «антыдзяржаўнай» арганізацыі паводле артыкулаў 61/68 КК — да 15 альбо вышка. Вось так, дзядзька! Усё паўтараецца.

Шмат інфармацыі, але трэба адпісаць яшчэ шмат каму.

Слава барацьбе!

Слава нацыянальнай Рэвалюцыі! Як сказана ня мной, сапраўдная паэзія ёсьць Рэвалюцыя! Нашага слова баяцца, Алесь, значыць мы пішам тое, што трэба. Значыць, нашыя правакацыі дасягаюць мэты!

Найшчырэйшыя жычэньні ўсім тваім і здароўя!

Славамір

17.05.95 г.
г. Менск, ноч.

* * *

Ён падаў з вышыні. Вышыня гэтая, здавалася, была такой працяглай, што ён падаў і падаў бясконца. Я ніяк ня мог зразумець: хто гэта? Недзе там, высока ўверсе, сьвяцілі зоры сваім далёкім сьветам. Недзе там, унізе, мітусіліся людзі ў сваіх бясконцых клопатах, людзі, якія абсалютна нічога не хацелі ведаць пра андэграўнд, нонканфармізм і чарговы нумар «Калосься». І той, хто падаў, нібыта пралятаў праз тых людзей наскрозь.

На імгненьне я пабачыў ягоны твар, асьвечаны вінаватай дзіцячай усьмешкай. Юра! — ёкнула маё сэрца...

2013-2014

